

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 119 December 2004 Сьнежань Год выд. 12.





Паявілася доўгачаканая зорка. Потым наступная і наступная, і неба замігцела безліччу серабрыстых агеньчыкаў.

— Куры будуць добра несціся, — скажа нехта, глянуўшы ў чыстую зімовую высь.

Куцця. У хатах прыўзняты настрой. Пахне сенам. Яно тут усюды — на падлозе, крэслах, хвалюе белы абрус, крыўляючы міскі з традыцыйнай стравай. Ад іх залятае поснай смакавітасцю.

Дачакаліся... Вечар, мігнуўшы першай зоркай, склікаў усіх у хату. Пасля супольнай малітвы селі вячэраць. Урачыстая сямейная вячэра. З кута з-пад абразоў каласістай жытняй галоўкай спаглядае „госцік". У гэты вечар дзверы адкрытыя ўсім. Хто б не зайшоў, будзе госцем і будзе накормлены. Аб гэтым сведчыць лішні настольны прыбор.

Заўтра Каляды. Прыдуць каляднікі. З вялікай хаты праз размаляваную таленавітай рукой Мароза-мастака шыбіну заўзіраецца на іх рознакаляровымі агеньчыкамі казачных цацак ёлка.

Вось з такім святочным настроем найчасцей спалучаем гэтае дрэўца.

— Каляды без ёлкі — гэта тое, што і не свята. А і нельга яно так, — адкажуць старэйшыя людзі, калі спытаеш, ці на Каляды павінна быць „дрэўца".

„Нельга яно так", а некаторыя скажуць, што нават грэх. Адкуль гэта прыйшло, якім чынам звязана з гэтым днём — гадавінай пачатку нашай эры? Паяснення трэба шукаць у хрысціянскай рэлігіі.

— Даведаўшыся аб нараджэнні Хрыста, — гаворыць шырокавядомая біблійна-народная легенда, — цар Ірад моцна ўзгняўіўся і, пасылаючы ў Віфлеем валхвоў, даў загад адшукаць нованароджанага. Тыя гэтак і зрабілі. Але Ёсіфу і Марыі з'явіўся ангел і сказаў уцякаць ім у Егіпет. Бацька, пасадзіўшы жонку з малым на асла, адправіўся ў дарогу. Але Ірад злаваўся, што той дзікі звер. Яго вoі з дзікай лютасцю забівалі ўсіх дзяцей мужчынскага пола, якім было не больш двух год. Ёсіф з Марыяй, уцякаючы ад гэтага страшнага прысуду, пачулі раптам за сабой пагоню. Непадалёк расла галіністая ёлка. Схаваўшыся пад навес густых галінак, прытаіліся, каб перачакаць бяду. А павук, які гнездзіўся пад яловай шышкай, выйшаў і пачаў абмотваць ёлку сваім павуціннем, каб засланіць перад вокам Ірадавых вояў схаваўшыхся. Бяда мінула. Ёсіф з Марыяй і малым Хрыстом уцяклі ў Егіпет. І з гэтых часоў ёлка, якая схавала ўцякаўшых, прыйшла ў хату і з'ўляецца ў цэнтры калядных святкаванняў.

Не забыў народ і пра павука, які так дбайна снаваў вакол ёлкі сваё павуціне. Праўда, не памяшчае яго на ёлцы ці пад ёлкай, але затое яго выраб-павуціннне ў вялікай пашане. Назвалі яго „анельскім воласам", якім, як правіла, абвешваюць дакладна з усіх бакоў ёлку. На галінках густа белай ваты. Гэта сімвал снегу, які паказвае на зімовую пару года, што Каляды заўсёды зімою. А зорка, якая вісіць на самым вяршку ёлкі, напамінае аб той зорцы, што ўзыйшла з нараджэннем Хрыста і потым паказвала яна да яго дарогу валхвам.

Вось як цікава народ, паводле хрысціянскай рэлігіі, спалучыў ёлку са святам Каляд, прынёс яе ў кожную хату, па-свойму апрануў, прыстасоўваючы да сваіх умоў. Як правіла, ёлка стаіць аж да свята Трох Каралёў — 19-21 студзеня. Канец калядных абрадаў. Урачыста яе разбіраюць — здымаюць цацкі, якія беражліва хаваюць да наступнага года. А дрэўца? Дрэўца ссохшае, нікому не патрэбнае, выкідваюць на панадворак. Так зараз. Раней трэба было яго спаліць. Зрэшты, усё пасвенчанае, але непрыдатнае, прыкладна, папера, у якую была загорнута „проскірка", палілі. „Грэх, каб свянцонае валялася", — гавораць.

Таксама некалі рабілі і з ёлкай. Разабраўшы з цацак, адразу яе палілі. Абсалютна нельга было выносіць яе з хаты. Але не такой яна ўжо была і непрыдатнай. Вось, прыкладна, у Чыжах яшчэ так нядаўна, а нават спатыкаецца часткова і сёння, калі людзі з ёлкі, што стаяла ў царкве, абламваюць галінкі і абтрасаюць з іх іголачкі, якія беражліва хаваюць аж да вясны. Закладаючы агарод, пасыплюць імі расаду капусты, каб не елі яе рабакі.

Гэты прыклад з'яўляецца намёкам на апатрапеічныя ўласцівасці ёлкі. Так, як і ядловец, ахоўвала яна перад злымі моцамі. І таму, калі выводзілі пакойніка, часта дарогу ад хаты да могілак пасыпалі яловымі іголкамі. Яны ахоўвалі яго душу.

„Ніва"

# Вясёлых Калядаў!!!
# Шчасьлівага Новага 2005-га Году!!!








*Нараджэньне Тваё, Хрысьце Божа наш, асьвяціла людзей сьвятлом розуму. Бо тыя, што служылі зоркам, зоркаю ж былі навучаныя пакланяцца Табе, Сонцу праўды, і ведаць Цябе, Усходзе з вышыняў. Госпадзе слава Табе!*

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108;
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Памяць пра слуцкіх змагароў за незалежнасьць Беларусі кліча да згуртаваньня ў барацьбе з расейска-імпэрскім злом

**27 лістапада** сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ урачыста адзначылі 84-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну. Аўтобус з удзельнікамі мерапрыемстваў ад'ехаў раніцай са сталіцы на Случчыну, дзе да менчукоў далучыліся сябры Партыі, што прыехалі з Салігорска, Слуцка і Баранавічаў. Грамада наведала месцы баёў Слуцкага Збройнага Чыну ў Грозаве, Семежаве і Вызьне (цяпер Чырвоная Слабада). Людзі ішлі пад нацыянальнымі Бел-Чырвона-Белымі сьцягамі і гэрбам Пагоня, з лёзунгамі "Слава змагарам Случчыны", "Ніякіх саюзаў з імпэрскай Расеяй", сьпявалі ваярскія і рэлігійныя гімны.

На магілы герояў, дзе народ усталяваў Крыжы, былі ўскладзеныя кветкі і вянкі, запаленыя сьвечкі і зьнічы. Людзі маліліся таксама ў Семежаве на месцы, дзе вандалы па загаду ўладаў колькі гадоў таму зьнішчылі Крыж у памяць слуцкіх герояў. Калёна з больш як 80 удзельнікаў прайшла пад Бел-Чырвона-Белымі сьцягамі па цэнтру Слуцка, сьпяваючы ваярскія гімны. Каля будынку краязнаўчага музэю (дзе ў 1920 г. адбыўся Зьезд Случчыны, які прыняў рашэньне аб узброенай барацьбе супраць расейскіх агрэсараў) адбыўся мэмарыяльны мітынг. Шматлікія жыхары горада далучыліся да мітынгу.

Быў агучаны зварот сп. Зянона Пазьняка, Старшыні Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, – "Слуцк". На мітынгах выступілі Сяргей Папкоў, намесьнік старшыні Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, Алесь Чахольскі, адказны сакратар Управы Фронту і Партыі, Валеры Буйвал, сакратар Управы Фронту і Партыі, Яўген Даўгіловіч, сябра Сойму Фронту і Партыі.

Выступоўцы казалі пра вялікае гістарычнае значэньне Слуцкага Збройнага Чыну. Беларускі народ устаў на абарону незалежнасьці Айчыны пад сьцягам Беларускай Народнай Рэспублікі. На Случчыне пачалося змаганьне, якое праз дзесяцігоддзі прывяло да аднаўленьня незалежнай Беларускай Дзяржавы ў 1991 г. Героі-случакі прадэманстравалі высокі баявы дух і вайсковае майстэрства, разграміўшы шэраг аддзелаў бальшавіцкага войска. Маскоўскі вораг вымушаны быў адступіць і зьбіраць дадатковыя сілы, каб працягнуць нашэсьце на нашу краіну. Памяць пра слуцкіх змагароў будзе жыць вечна і натхняць наш народ на подзьвіг. Як і тады, сёньня нашай краіне пагражае той жа вораг – дзікая, варварская, азіяцкая расейская імпэрыя. Беларускі народ мусіць гуртавацца вакол нацыянальнага лідэра Зянона Пазьняка і адбудоўваць сваю Дзяржаву. Як і тады, народы бароняцца ад крамлёўскага монстра і мы бачым – пасьпяхова бьюць яго і гоняць са сваёй зямлі. На працягу апошніх месяцаў расейскі імпэрыялізм пацярпеў сакрушальную паразу ў Грузіі і Летуве, а цяпер правальваецца на Украіне, дзе народ устаў на абарону сваёй Дзяржавы. Беларусы спачуваюць простым расейскім людзям, што пакутуюць пад маскоўскім фэадальным рэжымам. Расея, як і ў 1920 г., – жудасная краіна крывавых каляніяльных войнаў, эпідэміяў, узаемнай нянавісьці, тамака мільёны наркаманаў, сіротаў, пануе галеча і голад. Імпэрыя КГБ распадаецца і пагражае ўсяму чалавецтву. Імпэрыя карыстаецца цяпер антыбеларускім рэжымам, які яна ўсталявала ў нас. Сотні тысячаў беларускіх рабоў працуюць у Расеі, дзе ўжо няма здольных да працы людзей. Расейская мафія зьневажае, рабуе і забівае нашых працоўных, а прамаскоўскі мясцовы рэжым у змове з Крамлём не абараняе нашых грамадзянаў і працягвае антынацыянальную палітыку. На нашай тэрыторыі дзейнічаюць расейскія вайсковыя базы, а беларуская армія падпарадкаваная камандзе з Масквы. Шалёная русіфікацыя на ўсіх узроўнях адукацыі і грамадзкага жыцьця – гэта форма вайны супраць нашага народу, якую вядзе расейскі імпэрыялізм. Але няма будучыні ў імпэрскага ворага. Слуцкія героі далі запавет усім наступным пакаленьням беларускага народу – трэба бараніць Айчыну ад маскоўскіх варвараў. Беларусь – краіна эўрапейскай культуры і традыцыі, мы – хрысьціянскі, эўрапейскі народ. Наша месца – сярод вольных, цывілізаваных народаў Эўропы, а не ў расейскім крывавым катле. Сёньня Украіна – заўтра Беларусь!

*Прэс-служба Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ*

## Аляксандр ЛУКАШАНЕЦ: «Беларуская мова ня толькі самая мілагучная і прыгожая на сусветнай прасторы, але і надзвычай багатая і вобразная...»

Субяседніка для размовы — размовы актуальнай, дзелавой і патрэбнай (у чым чытачы нашай газеты, хочацца спадзявацца, пераканаюцца!) мы выбралі зусім не выпадкова. Па-першае, да праблем мовазнаўства, стану і сітуацыі ў роднай беларускай мове «Звязда», найперш як нацыянальнае, адзінае, «чыста» беларускамоўнае выданне, даўно ўжо не звярталася... Па-другое, грамадства (і гэта без перабольшання!) апошнім часам усё больш і больш выказвае занепакоенасць той сітуацыяй, што ўтварылася ў моўнай сферы як у краіне ў цэлым, так і адносна варыянтнасці выкарыстання нацыянальнага багацця кожнай нацыі, у тым ліку, вядома ж, і беларускай, — роднай МОВЫ.

Такім чынам, знаёмцеся, наш госць: Аляксандр ЛУКАШАНЕЦ — доктар філалагічных навук, прафесар, дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

— Зусім нядаўна, менш чым паўгода назад, вы, Аляксандр Аляксандравіч, заступілі на пасаду дырэктара Інстытута мовазнаўства. Пасаду не столькі ганаровую (хаця, як кажуць, і не без гэтага!), колькі адказную! Ведаючы вас асабіста не адзін год, разумею і здагадваюся: усведамляеце, якую вялікую, сур'ёзную і важкую ношку «ўзялі» на свае плечы... Што радуе і што не задавальняе вас як кіраўніка ў дзейнасці Інстытута мовазнаўства?

— Перш за ўсё мяне радуе тое, што ў Інстытуце мовазнаўства захоўваюцца традыцыі пераемнасці, высокай навуковасці, узаемападтрымкі і павагі; што ў нас працуе зладжаны калектыў высокакваліфікаваных спецыялістаў, якія адказна ставяцца да сваёй справы, ведаюць і любяць яе. Радуе і тое, што, нягледзячы на цяжкасці апошняга перыяду, нам удалося захаваць кадравы патэнцыял, асноўныя напрамкі навуковай дзейнасці. На сённяшні дзень Інстытут мовазнаўства застаецца вядучай навуковай установай па даследаванню беларускай мовы, яе сучаснага стану і гістарычнага развіцця, вывучэнню народных гаворак. Акрамя таго, інстытут з'яўляецца буйнейшым цэнтрам па падрыхтоўцы беларускамоўных кадраў вышэйшай кваліфікацыі, у тым ліку і для навучальных устаноў нашай краіны.

Калі гаварыць пра цяжкасці, то, відаць, яны ў многім агульныя для акадэмічнай навукі наогул і гуманітарнай — у прыватнасці. Па-першае, гэта ўзровень заработнай платы навуковых супрацоўнікаў і як вынік — грамадскі прэстыж навуковага работніка. Гэта асабліва адчувальна для нас, таму што ў час камерцыялізацыі ўсіх сфер жыцця, у тым ліку і навукі, трэба выразна ўсведамляць, што сёння на праблемах беларускай культуры, беларускай мовы зарабляць практычна немагчыма. Таму навукова-даследчыя ўстановы гуманітарнага профілю тыпу Інстытута мовазнаўства павінны на сто працэнтаў быць бюджэтнымі.

Па-другое, недахоп бюджэтнага фінансавання стрымлівае ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы інстытута, набыццё сучаснай аргтэхнікі, без чаго сёння немагчыма праводзіць лінгвістычныя даследаванні на ўзроўні міжнародных патрабаванняў і стандартаў. Акрамя таго, па гэтай жа прычыне стрымліваецца і выданне падрыхтаваных у інстытуце фундаментальных прац па беларускай мове (слоўнікаў, даведнікаў, манаграфічных даследаванняў).

— Якія асноўныя напрамкі работы Інстытута мовазнаўства ўяўляюцца вам найбольш перспектыўнымі? Чаму?

— Найбольш важнымі і перспектыўнымі задачамі Інстытута мовазнаўства на сённяшні дзень, на мой погляд, з'яўляюцца наступныя:

— завяршэнне такіх буйных навуковых праектаў, як «Гістарычны слоўнік беларускай мовы», «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы», «Слоўнік мовы «Нашай нівы» і іншыя працы, якія шмат гадоў распрацоўваюцца ў інстытуце і якія маюць вялікае не толькі навуковае, але і культурнае значэнне для Беларусі;

— па-другое, удзел у такіх буйных міжнародных мовазнаўчых праектах, як «Агульнаславянскі лінгвістычны атлас» і «Лінгвістычны атлас Еўропы».

Важным напрамкам у дзейнасці інстытута ў бліжэйшы час павінна стаць работа па стабілізацыі норм сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Гэта азначае падрыхтоўку і выданне нарматыўных слоўнікаў беларускай мовы, новай Акадэмічнай граматыкі. Вельмі актуальным і надзённым на сённяшні дзень з'яўляецца даследаванне тых працэсаў і змен, якія адбываюцца ў сістэме беларускай мовы зараз. На парадак дня ва ўвесь рост паўстала праблема ўсебаковага апісання сучаснай беларускай літаратурнай мовы на ўсіх узроўнях. Мне бачыцца, што гэта можа быць цыкл манаграфічных даследаванняў.

Актуальным з'яўляецца і правядзенне сацыялінгвістычных даследаванняў і вывучэнне рэальнай моўнай сітуацыі ў нашай краіне. Гэта важна перш за ўсё для ведання перспектыў беларускай мовы і яе запатрабаванасці ў грамадстве, выкарыстання ў розных сферах ужытку, у тым ліку і найбольш прэстыжных і ўплывовых.

Адной з надзённых задач з'яўляецца і падрыхтоўка базы для стварэння новага Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы — больш поўнага, таму што ў апошні перыяд вельмі інтэнсіўна адбываюцца змены ў слоўнікавым складзе нашай мовы і яны павінны знайсці лексікаграфічнае адлюстраванне. Пачнём і падрыхтоўку зводнага слоўніка лексікі народнай мовы.

Зразумела, што адной з важных задач інстытута і надалей будзе падрыхтоўка навуковых кадраў вышэйшай кваліфікацыі па беларускай мове.

— Аляксандр Аляксандравіч, вышэй вы згадалі пра ўдзел беларускіх мовазнаўцаў у міжнародных праектах, у прыватнасці, у падрыхтоўцы і выданні «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа». Ці нельга спыніцца на гэтым больш падрабязна?

— Гэта буйны міжнародны славістычны праект, у ажыццяўленні якога ўдзельнічаюць практычна ўсе вучоныя-дыялектолагі славянскіх краін на працягу ўжо некалькіх дзесяцігоддзяў. Працуюць камісія і рабочая група, якія рыхтуюць выпускі, што рэгулярна выдаюцца ў славянскіх дзяржавах. Дарэчы, адзін з іх выдадзены і нашым інстытутам у 1999 годзе.

— Якой бачыцца вам цяперашняя моўная сітуацыя ў Рэспубліцы Беларусь?

— Сучасная моўная сітуацыя ў нашай краіне ўяўляецца мне дастаткова складанай і неадназначнай. Справа ў тым, што на сённяшні дзень у нас існуе разыходжанне паміж заканадаўчым статусам суіснуючых рускай і беларускай моў і рэальным становішчам іх у грамадстве. Юрыдычна атрымліваецца, што ў нас дзве дзяржаўныя мовы — беларуская і руская, і ў гэтым плане яны абсалютна раўнапраўныя. Але рэальны стан беларускай мовы на сённяшні дзень не адпавядае яе юрыдычнаму заканадаўчаму статусу. Гэта значыць, што рэальна сёння яна займае другарадныя пазіцыі ў многіх сферах грамадскага ўжытку, і ў першую чаргу ў найбольш важных і ўплывовых сферах жыцця сучаснага грамадства, такіх як дзяржаўнае кіраванне, справаводства, навука і некаторыя іншыя. У тым ліку і сродкі масавай інфармацыі. А якраз пашырэнне выкарыстання беларускай мовы ў гэтых сферах садзейнічала б і павышэнню яе прэстыжу.

Нягледзячы на тое, што многія грамадзяне нашай краіны актыўна не карыстаюцца беларускай мовай, яны кожны дзень сутыкаюцца з ёй, атрымліваюць на ёй тую ці іншую інфармацыю. Такім чынам, яна па сутнасці запатрабавана кожным з нас.

Беларуская мова працягвае адыгрываць выключна важную ролю і як сродак і сімвал нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Гэта выразна адлюстроўваюць лічбы апошняга перапісу насельніцтва, згодна з якім 82 працэнты жыхароў краіны назвалі роднай менавіта беларускую мову. Зразумела, не ўсе з тых 82 працэнтаў штодзённа актыўна карыстаюцца ёй, аднак праз беларускую мову яны атаясамліваюць сябе з беларускім народам, беларускай культурай, беларускай гісторыяй. І гэта таксама стварае глебу для таго, каб беларуская мова была пашырана ў розных сферах ужытку.

— Існуе меркаванне, што сёння ў рэспубліцы існуюць фактычна тры варыянты беларускай мовы...

— Я асабіста сказаў бы, што сёння існуюць не тры варыянты мовы, а тры правапісныя варыянты яе. Нацыянальная беларуская мова багатая і разнастайная, і ў гэтым сэнсе яна — адзіная. Іншая справа, што сёння выкарыстоўваюцца тры і нават больш правапісных варыянтаў яе. Вядома ж, гэта і не пажадана, і вельмі дрэнна ў сучаснай моўнай сітуацыі ў рэспубліцы. Дрэнна перш за ўсё таму, што парушаецца стабільнасць правапісных норм, што абцяжарвае выкарыстанне пісьмовай беларускай мовы ў розных сферах ужытку, перш за ўсё ў сферы школьнага навучання. А менавіта гэта сфера і падтрымлівае стан беларускай мовы ў грамадстве.

Неўпарадкаванасць сённяшняга правапісу вельмі адмоўна адбіваецца ў першую чаргу на працэсе школьнага навучання, таму што ў пісьмовых крыніцах вучні і настаўнікі сутыкаюцца з рознымі варыянтамі напісання асобных слоў. Гэта, я лічу, вельмі дрэнна. Асабліва ў сучаснай моўнай сітуацыі: гэты разнабой у правапісе зніжае канкурэнтаздольнасць беларускай мовы ў параўнанні з другой дзяржаўнай мовай — больш магутнай рускай мовай.

— А ці не мела гэта праблема падчас свайго ўзнікнення пэўны палітычны падтэкст?

— Можа, і мела. Калі не падтэкст, то выразнае палітычнае адценне мела адназначна... Але на сённяшні дзень трэба цвёрда ўсвядоміць, што, па-першае, тыя «навацыі», і ў першую чаргу ўвядзенне мяккага знака для абазначэння асіміляцыйнай мяккасці, з лінгвістычнага пункту погляду абсалютна неабгрунтавана. Да таго ж праблема мяккага знака даўно вычарпала і свой палітычны рэсурс!..

— Дык што, варта ўвесці пакаранне, як у Францыі, за скажэнне мовы?!

— Караць не трэба. Ніхто нікому не можа забараніць, як гаварыць! Але павінна быць адназначна ўстаноўлена, я к т р э б а пісаць! І зрабіць гэта павінна д з я р ж а в а! Правапіс павінен быць адзіным.

— Ад Інстытута мовазнаўства ў гэтай сітуацыі залежыць шмат...

— На жаль, ад Інстытута мовазнаўства ў гэтай сітуацыі не залежыць амаль нічога. Пытанне было ўзнята грамадскасцю насуперак волі інстытута. Інстытуту навязалі падрыхтоўку новага варыянта правапісу беларускай мовы. У рабочую групу былі ўключаны не толькі нашы супрацоўнікі, але і іншыя вядомыя і аўтарытэтныя моваведы нашай краіны. Быў падрыхтаваны найбольш аптымальны варыянт гэтага правапісу. Зараз жа зноў тая ж грамадскасць выступае супраць прыняцця правапісу. Карацей кажучы, на сённяшні дзень сітуацыя складваецца так, што ў бліжэйшы час правапіс, відаць, не будзе зацверджаны...

— Які ж выхад?

— На маю думку, адзін: яшчэ раз, на самым высокім узроўні, паўтарыць, што ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі, у сферы школьнага навучання і іншых сферах абавязковым з'яўляецца прытрымліванне правіл 1959 года. Інакш мы сітуацыю ніяк не паправім. Палітычна-моўная кан'юнктуршчына павінна нарэшце адысці ў нябыт. Бо некаторыя з так званых рэфарматараў за імкненнем да паляпшэння беларускай мовы хаваюць свае ўласнае элементарнае няведанне асноўных правіл беларускай мовы. Вось у чым праблема!

Да традыцый і рэфарматарства ў мове трэба падыходзіць узважана і асцярожна. Ніхто ніколі не будзе спрачацца з тым, што слоўнікавы склад беларускай мовы змяняецца і абнаўляецца. Гэта пастаянна адлюстроўваюць слоўнікі беларускай мовы. Гэтыя змены бываюць асабліва інтэнсіўнымі тады, калі ў грамадскім жыцці адбываюцца пераломныя моманты.

Вядома, павінна быць пэўная варыянтнасць у сферы марфалогіі і граматыкі, словазмянення: без гэтага не будзе развіцця мовы наогул. Але яна павінна мець свае разумныя межы, каб не разбурыць гэту сістэму. Што ж датычыцца правапісу, то тут якраз і патрэбен гэты кансерватызм і традыцыяналізм, таму што правапіс павінен быць стабільным. Наогул жа стабілізацыя і ўмацаванне норм сучаснай беларускай мовы, павышэнне прэстыжу яе ў грамадстве і пашырэнне ў найбольш важных і ўплывовых сферах грамадскага ўжытку, павышэнне аўтарытэту акадэмічнай мовазнаўчай навукі і ўзмацненне ролі Інстытута мовазнаўства па каардынацыі лінгвістычных даследаванняў у краіне з'яўляецца як маёй асабістай сферай навуковых інтарэсаў, так і будзе адным з вядучых кірункаў дзейнасці нашай установы ў цэлым.

*****************************************************

## Канстанцін Баравы:

# "Калі б Лукашэнку не падтрымлівалі расейскія спэцслужбы, ён не пратрымаўся б і некалькі месяцаў"

Якую ролю ў часе парлямэнцкіх выбараў і рэфэрэндуму павінна была (ці магла) адыграць Расея? Беларуская апазыцыя й некаторыя прадстаўнікі расейскіх дэмакратычных сілаў перакананыя, што кіраўніцтва Расеі наўмысна дыстанцыявалася ад выбарчай кампаніі ў Беларусі, паколькі цяперашні рэжым Лукашэнкі Крамлю захаваць выгадна. Прыхільнікі Лукашэнкі кажуць пра поўную свабоду волевыяўленьня народа і незалежнасьць ад пазыцыі Масквы. Хто насамрэч зацікаўлены ў падаўжэньні прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі?

(Навадворская:) "Злачынная непавага Расеі да Беларусі пачалася ў той самы дзень, калі ўзьніклі размовы пра саюзную дзяржаву. Што гэта за нахабства, што за хамства? Краіна атрымала незалежнасьць, дзякуй Богу. Але ж гаворка адразу пайшла, як падзяліць Беларусь на губэрні! Як яе ўключыць у склад Расеі! Не запытаўшыся ні ў нацыянальна-вызвольнага руху, ні ў народа... У Беларусі справа зайшла вельмі далёка, фактычна да ўзроўню Сэрбіі пры Мілошавічы. Толькі адзін прыклад – Васіль Быкаў. Ні дысыдэнт, ні "заходнік", пісьменьнік з партызанскім мінулым, уганараваны пры савецкай уладзе рознымі рэгаліямі. Дзе ён захацеў жыць? У Нямеччыне. У той самай Нямеччыне, зь якой змагаўся на фронце. І вярнуўся ў Беларусь толькі паміраць. Бо сытуацыя ў Беларусі, дзе яго не друкавалі, дзе абражалі, цкавалі, перасьледавалі – нацыянальнага клясыка, гонар народа! – была такой нясьцерпнай, што ён знайшоў у Нямеччыне больш правоў і свабодаў і больш магчымасьцяў для творчасьці".

На думку яшчэ аднаго прадстаўніка расейскага дэмакратычнага лягеру, лідэра Партыі эканамічнай свабоды Канстанціна Баравога, Лукашэнка ёсьць толькі марыянэткай у руках кіраўніцтва Расеі і, адпаведна, спэцслужбаў. У іншым разе як самастойны палітык беларускі прэзыдэнт не праіснаваў бы.

(Баравы:) "Гэта не ініцыятыва Лукашэнкі. Гэта ўсё ініцыятывы пэўных сілаў у Расеі, зьвязаных са спэцслужбамі. Бо Беларусь, апроч усяго, яшчэ і крыніца калясальных прыбыткаў для тых, хто выкарыстоўвае сумесную мяжу – маю на ўвазе тыя ж спэцслужбы. Поўная адказнасьць за тое, што адбываецца ў Беларусі – на Расеі, на ўладзе. А калі казаць вельмі канкрэтна – на Пуціне. Каб не было гэтай падтрымкі, каб не было пазыцыі Расеі падтрымліваць сілавым шляхам Лукашэнку (а на тэрыторыі Беларусі прысутнічаюць вельмі сур'ёзныя сілы спэцслужбаў), калі б гэтага не было, Лукашэнка не праіснаваў бы і некалькі месяцаў".

А на выніку нядаўняга плебісцыту, якія ня толькі юрыдычна афармленыя, але і неўзабаве адкарэктуюць Асноўны закон краіны, спадар Баравы трымаецца такога гледзішча:

(Баравы:) "Гаварыць пра сытуацыю ў Беларусі з гледзішча прававога, спрабаваць аналізаваць цяперашнюю Канстытуцыю, заканадаўчыя акты, якія толькі паводле формы зьяўляюцца дэмакратычнымі – бессэнсоўна. Я б аналізаваў сытуацыю вакол Беларусі, але гадоў праз 5-6, калі Лукашэнка будзе адхілены ад улады, калі будзе спыненая ўзурпацыя ўлады. І тады будзе цалкам зразумела: рэфэрэндум будзе расцэнены як наўпроставы замах на правы й свабоды грамадзянаў Беларусі, як звычайнае крымінальнае злачынства Лукашэнкі, за якое яму давядзецца адказваць".

У такой сытуацыі аднадумца Канстанціна Баравога, спадарыня Навадворская, раіць апанэнтам беларускай улады часьцей вяртацца да сваіх каранёў

(Навадворская:) "Мяркую, мы ўсе павінны пажадаць беларускай нацыянальна-вызвольнай апазыцыі тое, чаго яны самі сабе жадаюць словамі "Жыве Беларусь!" Каб яны часьцей сьпявалі гімн "Пагоня", дзе вельмі шмат рэсурсаў для асабістай мужнасьці. І мы ніколі – ні Партыя эканамічнай свабоды, ні "Дэмакратычны саюз", ні праваабаронцы Расеі – не пасягалі на беларускую незалежнасьць".

*****************************************************

# Валанцёр нацыянальнай мроі

Сёлета споўнілася 130 год з дня нараджэння Аляксандра Мікітавіча Уласава, слыннага дзеяча нацыянальнага Адраджэння. У шмат якіх праявах беларускай справы ён быў першым. Уласаў - адзін з арганізатараў Беларускай сацыялістычнай грамады і першы рэдактар-выдавец легендарнай газеты "Наша Ніва". Ён змагаўся з расійскай імперскай уладай, падбухтораваў народ да забастовак і ствараў культурніцкія асяродкі. Падчас польскай акупацыі заходніх абшараў Беларусі арганізаваў Таварыства беларускай школы, быў адным з яго кіраўнікоў. Непасрэдна апекаваў у Радашкавічах Беларускую гімназію імя Ф. Скарыны. Уласаву давялося пэўны час быць дэпутатам польскага сейма, дзе ён бараніў інтарэсы свайго народа.

Кажуць, што рэвалюцыі рыхтуюць рамантыкі, здзяйсняюць фанатыкі, а вынікамі карыстаюцца мярзотнікі. Гісторыя падзення Расійскай імперыі і пабудовы "дзяржавы рабочых і сялян" (гэтаксама як і дэмантаж СССР і станаўленне суверэннай Беларусі) сведчыць пра слушнасць гэтай думкі. Аляксандр Уласаў, нягледзячы на свой палітычны прагматызм і жыццёвы практыцызм, заставаўся рамантыкам, які лашчыў у думках вобраз ідэальнай Беларусі. Філосаф Валянцін Акудовіч называе такіх людзей валанцёрамі нацыянальнай мроі. Напрыканцы 30-х гадоў Уласаў, прыгадваючы часы "Нашай Нівы" і перакідваючы мост у сучаснасць, пісаў у лісце сябру: " Нашы правадыры на беларускай справе кар'еры не зрабілі". Не зрабіў кар'еры і ён.

Аляксандр Уласаў быў чалавекам справы, абыякавым да камфорту. Ён, напрыклад, зыходзячы са свайго выдавецкага досведу, казаў, што, каб зрабіць рэдакцыю, дастаткова мець пакой, прымус, чайнік і шмат энтузіязму. Уласаў іранічна ставіўся да афіцыйнай субардынацыі, да рангаў і званняў. Ён, мабыць, быў адзіным чалавекам, які мог дазволіць сабе сказаць Якубу Коласу, на той час ужо народнаму паэту БССР: зараз ты, браце, забранзавеў, а я памятаю, у "Нашай Ніве" толькі і было ад цябе карысці, што ты чай кіпяціў ды бегаў да шынкара па гарэлку…

Для польскай улады Аляксандр Уласаў з яго выразным беларускім патрыятызмам быў варожым элементам, ягонае прыватнае жыццё, палітычная і культурніцкая дзейнасць трапілі пад пільнае вока паліцыі. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што ён вітаў у 1939 годзе Чырвоную Армію, як патрыёт, радаваўся уз'яднанню Беларусі і прапанаваў новай уладзе свае веды і досвед дзеля развіцця беларускай адукацыі. Дазвол на такога кшталту працу даваў НКУС, Уласаву прапанавалі напісаць для гэтай установы сваю біяграфію, што ён і зрабіў. А потым на падставе звестак гэтага жыццяпісу, які Уласаў сам жа ў НКУС і прынёс, яго арыштавалі за "шпіёнска-правакацыйную дзейнасць". Памёр Аляксандр Мікітавіч у Сіблагу (Новасібірская вобласць РСФСР) ад "паралiча сэрца" ў 1941 годзе.

8 верасня ў Музеі Янкі Купалы адбылася вечарына памяці Аляксандра Уласава. Пра ягонае жыццё і справу апавядалі навукоўцы і сваякі. Я ўвогуле з павагаю стаўлюся да высілкаў дзеля папулярызацыі нашай гісторыі і культуры, але мушу адзначыць, што на вечарыне было даволі сумнавата. Арганізатары не ўлічылі асаблівасці аўдыторыі, якая ў асноўным складалася з моладзі, студэнтаў. Тое, што зразумелае і блізкае старэйшаму пакаленню, да моладзі трэба даносіць у адаптаваным выглядзе і больш дынамічнай форме. Скажам, так, як гэта атрымліваецца ў барда Зміцера Бартосіка, які праспяваў на вечарыне тры песні са свайго Віленскага цыклу, і сярод іх - прысвечаную "нашанiўскай" пары. Ён здолеў данесці да слухачоў рамантычны вобраз Вільні, калыскі нашага Адраджэння, драматызм нашага сённяшняга дня і, як гэта ні дзіўна, аптымізм нашага гістарычнага досведу.

Пётра ВАСІЛЕЎСКІ. /Н.В./

*****************************************************

***Нам надзвычай прыемна ведаць, што нашу газэту чытаюць людзі, якія ўмеюць і хочуць думаць...***

## Аляксандр Мілінкевіч:

# «Талерантнасць уласціва жыхарам нашага краю здавён»

Сёлета 10.983 школьнікі вобласці селі за парты. Адзначым, што кожны год колькасць вучняў змяншаецца. Сёлета «недалічыліся» шасці тысяч. У асноўным, гэта з-за кепскага дэ- маграфічнага стану. Адпаведна змяншаецца і колькасць школ. У 2004 годзе зачынена 14 пачатковых. Сем базавых атрымалі статус школы-сада. Яшчэ пяць рэарганізаваны. Дадам, што ў 2003 годзе былі зачынены 26 школ. У 2002 – 40.

– Наколькі можна лічыць гэтыя лічбы сведчаннем далейшага згортвання беларускамоўнага навучання? Статус беларускамоўных мелі якраз сельскія школы...

– Агульная тэндэнцыя яскрава сведчыць аб паступовым пераходзе навучання ў вобласці на рускую мову. У 2002 годзе 43 працэнты вучняў вучылася на беларускай мове, 56 – на рускай. У 2003 працэнт навучання на рускай мове яшчэ больш павялічыўся.

Гэта асабліва бачна на прыкладзе Гродна. Актывіст гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Алесь Крой сцвярджае, што колькасць дзяцей, якія вучацца па-беларуску, зменшылася за апошнія 10 гадоў у дваццаць разоў. Мінулы навучальны год беларускамоўныя класы горада закончылі блізу 660 чалавек. Для параўнання: у 1994 годзе гэтая лічба складала 13.315.

Згодна з класіфікацыяй ЮНЭСКО лічыцца, што калі на роднай мове гаворыць менш за 30 працэнтаў дзяцей і моладзі, то такая мова знаходзіцца пад пагрозай знікнення.

Спадзяюся, што вяртанню беларускай мовы ў шырокі ўжытак спрыяе Пастанова № 48 Міністэрства адукацыі «Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі». Яе прынясце было выклікана зніжэннем колькасці вучняў, якія навучаліся па-беларуску, з 30 працэнтаў у 1999/2000 навучальным годзе да 26,3 працэнта ў 2002/2003 навучальным годзе. Цяпер па жаданні студэнтаў ВНУ, навучэнцаў тэхнікумаў і вучылішч, напрыклад, могуць стварацца беларускамоўныя патокі ці групы. Прадугледжана магчымасць стварэння цалкам беларускамоўнай гімназіі ці ліцэя. Чаму не распачаць гэтую справу?

– Мы разглядаем моўны стан на прыкладзе Гродзенскай вобласці. Паводле дадзеных апошняга перапісу (1999), уласна беларусаў тут жыве 62,3 працэнта (738.216), палякаў – 24,8 (294.000), рускіх – 10,1 (119.200), украінцаў 1,8 працэнта (21.166). Моўны стан можна зразумець толькі з улікам гэтай акалічнасці.

– Трэба дадаць амаль тры тысячы літоўцаў, звыш двух тысяч татар, каля тысячы яўрэяў і яшчэ прадстаўнікоў без малога 70 нацыянальнасцей, якія жывуць у нашым рэгіёне.

У нас 37,7 працэнта насельніцтва, альбо кожны трэці жыхар вобласці, з'яўляецца прадстаўніком нацыянальнай меншасці. На тэрыторыі кампактнага пражывання яны маюць права мець свае школы ці класы на роднай мове.

Што да Гродна, то тут з 312,5 тысячы чалавек насельніцтва беларусы складаюць 56,1 працэнта, палякі – 22,1, рускія – 17,8, украінцы - 2,7 працэнта. Астатнія нацыянальныя групы маюць менш тысячы асобаў: армяне, азербайджанцы, яўрэі, татары, літоўцы, грузіны.

– Аднак уласныя школы маюць толькі палякі і літоўцы...

– Польская меншасць мае дзве школы: у Гродне (амаль 500 школьнікаў) і Ваўкавыску (звыш 200). Аб гэтым у свой час паруліўся былы старшыня Саюза палякаў Беларусі (СПБ) Тадэвуш Гавін. Там навучанне вядзецца па-польску. СПБ магла пабудаваць яшчэ адну школу у Гродне, а таксама ў Воранаўскім раёне, дзе 83 працэнты насельніцтва – палякі. Магчыма, школа павінна быць узведзена ў Навагрудку, дзе месціцца дом-музей Адама Міцкевіча. Аднак, спроба атрымаць згоду ад мясцовых уладаў закончылася пакуль што безвынікова. Так ці інакш, польская мова вывучаецца ў 140 школах вобласці. Пашырэнню польскай мовы садзейнічаюць 16 Дамоў палякаў у Беларусі, 150 тэрытарыяльных аддзяленняў СПБ, звыш 80 калектываў мастацкай самадзейнасці.

– Літоўскай грамадзе не пад сілу разгарнуць такую бурлівую дзейнасць. Аднак тое-сёе зроблена...

– Ёсць дзве школы. Там займаецца звыш 150 вучняў. У цэлым польскую і літоўскую мовы вывучае адзін працэнт ад агульнай колькасці вучняў вобласці. Трэба дадаць, што літоўская, татарская і яўрэйская нацыянальныя меншасці маюць свае нядзельныя школы. Дапамогу ім аказваюць грамадскія аб'яднанні нацыянальных супольнасцяў.

– Работа намеснікам старшыні Гродзенскага гарвыканкама засведчыла, што пры непасрэдным вашым удзеле ў Гродне былі адкрыты ліцэй і гімназія, польская сярэдняя школа, нядзельныя літоўская і яўрэйская школы. Праблемы навучання для вас знаёмыя. У тым ліку, на дзяржаўных і іншых мовах.

– У Гродне ёсць клас, у якім выкладанне вядзецца на грузінскай мове. Гэта сведчанне руплівага стаўлення да вучобы на мове сваёй гістарычнай радзімы актывістаў нацыянальнай суполкі. Паставілі мэту – і дасягнулі яе. Такі падыход трэба вітаць. Мовы, якімі карыстаюцца прадстаўнікі нацыянальных супольнасцяў Гродзеншчыны, толькі мацуюць беларускую дзяржаву – наш агульны дом.



# Дзяды — дарога жыцця

*Чалавеку наканавана жыць у страху — атэісты баяцца смерці, а вернікі таго, што з імі будзе пасля смерці. Усё чалавечае жыццё — гэта перманентны выбар. Выбар паміж страхам і сумленнем. 17 кастрычніка на чарговым антыканстытуцыйным рэферэндуме беларусы кожны паасобку зрабілі свой выбар. Тыя, што свядома прагаласавалі па сутнасці за пажыццёвае кіраванне краінай адным чалавекам (рэальна гэта менш паловы грамадства) зусім не разумеюць, што яны прагаласавалі не за мір і дабрабыт. Не за незалежнасць і заможнасць. Яны прагаласавалі за тое, што іх дзеці і ўнукі пойдуць служыць (чытай ваяваць на смерць) у гарачыя каўказскія кропкі (урокі Афганістана для такіх „сляпых выбарцаў" прайшлі марна). Яны прагаласавалі за тое, што іх штодзённа будуць прыніжаць і лічыць быдлам. За тое, што на вуліцах, хай сабе і ўпарадкаваных, будзе ўсё мацней гучаць расійскі мат з вуснаў падлеткаў, а з экранаў тэлевізараў ліцца, няхай сабе пры прыгожых застаўках, няспынная плынь хлусні і духоўнай атруты. За тое, што яны будуць бяднець далей і лічыць за шчасце кавалак каўбасы раз у месяц на свята. Але яны, як сказала калісьці адна вядомая гродзенская паэтка, няшчасныя ўжо тым, што глухія і сляпыя ад нараджэння.*

*Яшчэ большымі ахвярамі ёсць тыя, што аддалі свой голас за падман па прымусу і страху. Адзін з назіральнікаў расказваў мне як старшыня камісіі адкрыта фальшаваў вынікі на дзяльніцы, а сябры камісіі пры тым маўчалі. Не вытрымаўшы такога цынізму, назіральнік гучна заявіў: „Сярод вас тут няма аніводнага сумленнага чалавека!". Сябры камісіі толькі апусцілі вочы. Яны вартыя шчырага жалю, бо цяпер будуць жыць у суцэльнай нянавісці — да тых, хто прымусіў іх рабіць брудную справу, да тых, хто выкрыў іх падман, урэшце да саміх сябе, бо ў душы раз-пораз прачынаецца голас сумлення.*

*У кастрычніку 1937 года ў Беларусі ішлі масавыя расстрэлы нацыянальнай інтэлігенцыі. У кастрычніку 2004 года на нашай зямлі сустрэліся спецслужбы Беларусі і Расіі. Сама характэрным момантам спаткання стала наведванне адноўленай мемарыяльнай сядзібы Фелікса Дзяржынскага. І зноў загучалі словы пра „выдающчэвася дзеяцеля великай эпохи". Гэта палітычнае блюзнерства найгалбейшага кшталту. Помнікі Дзяржынскаму, гэтаму крываваму людаеду, а таксама ідэйным праваднырам генацыду Леніну, Сталіну стаяць у Беларусі. Бальшыня і не задумваецца, што гэтыя каменныя ідалы па шыю ў нявіннай чалавечай крыві. Нацыя, якая зусім нядаўна перажыла нямецкі фашызм і савецкі камунізм (з'явы па сутнасці і жахлівасці абсалютна аднолькавыя!), не бачыць як з усходу насоўваецца новы карычневы рэжым — рэжым нянавісці і знішчэння ўсяго хрысціянскага, нацыянальнага, чалавечага. Не хоча, ці баіцца, гэта бачыць і псеўдаліберальная Еўропа, якую нічому не навучыла гісторыя дваццатага стагоддзя.*

*30 кастрычніка на прасторах былой савецкай імперыі адзначаецца Дзень памяці ўсіх ахвяраў рэпрэсій. Днямі ў Маскве сабраліся вязні ГУЛАГу, каб ушанаваць 50-я ўгодкі паўстання зняволеных у Кенгірскім канцлагеры. Паехалі туды і беларусы, якія былі ўдзельнікамі таго бунту адчаю. У кожнага свая памяць. У 1988 годзе ў газеце „Літаратура і мастацтва" быў надрукаваны артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва „Курапаты — дарога смерці", які літаральна скалануў нацыю. Пасля гэтага ў Мінску былі ўтвораныя рэспубліканскае грамадскае гісторыка-асветнае таварыства памяці ахвяр сталінізму „Мартыралёг Беларусі" і аргкамітэт Беларускага народнага фронту „Адраджэньне". Неўзабаве прайшоў мітынг-рэквіем „Дзяды", які быў гвалтоўна разагнаны сілавымі структурамі. Менавіта тады вырас свядомы арганізаваны беларускі палітычны рух, вынікам якога стала заваёва суверэнітэту. Сённяшняя беларуская ўлада аднаўляе помнікі крывавым бальшавіцкім монстрам. Таму, што такое дзеецца зараз у Расіі. А ў Курапатах паўстаў сапраўды народны крыжовы мемарыял.*

*Сучаснае беларускае Адраджэнне пачыналася з курапацкіх Дзядоў. Тым палітыкам, якія хочуць прэтэндаваць на агульнанацыянальнае дэмакратычнае лідэрства, варта пра тое задумацца.*

„Ніва" **Уладзімір Хільмановіч**

# Жанна ЛІТВІНА: "Гэта вялікая раскоша -быць самім сабой..."

## Старшыня праўлення ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Жанна Літвіна разважае пра журналістыку, палітыку і простае чалавечае шчасце... /Народная воля/

- Жанна Мікалаеўна, Вы нарадзіліся ў адзін дзень і адзін год з Лукашэнкам. Аляксандр Рыгоравіч кіруе краінай ужо больш за дзесяцігоддзе. Амаль столькі ж, колькі Вы ўзначальваеце Беларускую асацыяцыю журналістаў. Праўда, у адрозненне ад яго, Вас абсалютна дэмакратычна пераабралі на чарговы тэрмін. Не стаміліся ад прэзідэнцтва?

- Пачнем з таго, што прэзідэнт у нашай краіне адзін. Я ўжо больш года - старшыня, бо ўсім структурам забаронена мець пасады з такой назвай. Канешне, дзевяць гадоў - гэта многа. І сёння я вельмі сур'ёзна думаю пра пераемніка, пра тое, што ў арганізацыі павінны з'явіцца новыя лідэры. Гэта абсалютна натуральна. Чарговы з'езд БАЖа адбудзецца праз паўтара года.

- Некалькі гадоў таму Вы разам з рэдактарамі некаторых газет уваходзілі ў рэйтынг палітычных лідэраў краіны. Вы маеце палітычныя амбіцыі?

- Падчас мяне вымушаюць займацца палітыкай, але я праводжу жорсткі падзел паміж палітыкай і журналістыкай. Гэтыя рэчы не павінны быць зблытанымі, уяўляць сабой нейкі сінтэз. Крок у палітыку я змагу дазволіць сабе толькі тады, калі не застанецца праблем чыста журналісцкіх.

- Вы маеце намер пакінуць пасаду старшыні БАЖа напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, гэта значыць, што...

- Гэтыя паўтара года трэба яшчэ пражыць. За гэты час можа адбыцца ўсё што заўгодна. Але я ведаю абсалютна дакладна, што калі ў БАЖы з'явіцца новы лідэр, то мая задача будзе яму дапамагаць, а не перашкаджаць. Амбіцый на палітычнае лідэрства ў мяне пакуль няма.

- Вы ніколі не шкадавалі, што сталі журналістам?

- Не

- Сёння ў нашай краіне журналістыка - гэта барацьба. Вы не стаміліся змагацца?

- Я мару пра тое, каб беларускія журналісты на міжнародных конкурсах атрымлівалі ўзнагароды за сваю зорную творчую працу. Я была б проста шчаслівая, калі б у нас пачаўся творчы рэнесанс, росквіт журналісцкай прафесіі. І я глыбока веру, што час запатрабаванай, прафесійнай, сумленнай журналістыкі хутка надыдзе. Зараз мы працуем ва ўмовах поўнай інфармацыйнай зацiснутасці. Як толькі сітуацыя пачне мяняцца, адбудзецца інфармацыйны выбух. З'явіцца шмат тэм для журналісцкіх расследаванняў, за гэтыя дзесяць гадоў столькі ўсяго накапілася! Гады спатрэбяцца, каб на ўсе пытанні, якія ўзнікаюць у нашых людзей, знайсці адказ. І калі адбудзецца чарговы журналісцкі пад'ём, мы пераканаемся, наколькі прафесійна загартаваныя незалежныя журналісты.

- Тры гады таму Вы сказалі: "Тое, што адбываецца ў беларускай журналістыцы, можна назваць выраджэннем прафесіі, калі журналісты дзяржаўных выданняў выкарыстоўваюцца для выканання палітычных заказаў і маральнага знішчэння палітычных праціўнікаў улады". Вы сустракаецеся з журналістамі, якія працуюць у дзяржаўнай прэсе. Ці шмат там цвёрдых ідэйных "змагароў", якія шчыра падзяляюць курс Лукашэнкі?

- У мяне быў перыяд, калі я была ўпэўненая: у Беларусі няма рынку працоўных месцаў для журналістаў, і таму ў чалавека нашай прафесіі няма магчымасці выбіраць месца працы. Людзі ідуць працаваць у дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, бо вымушае жыццё. Але нядаўна я зрабіла для сябе адкрыццё, што гэта не настолькі нявінная з'ява. У чалавека, які становіцца вінцікам, часткай вялікай прапагандысцкай машыны, паварочваюцца мазгі. Ён пачынае думаць так, як ад яго патрабуюць. Ён уцягнуты ў тую сістэму светапогляду, якую яму навязваюць, якую забіваюць на ўзроўні падсвядомасці. Даходзіць да абсурду: чаго толькі варты выпадак, калі вядучы тэлевізійнага канала "АНТ" Аляксандр Сярэбранікаў, пачынаючы чарговы выпуск навін, прадставіўся Аляксандрам Лукашэнкам. Гэта эфект перавернутага светаўспрымання, сведчанне таго, наколькі глыбока прапаганда пранікае ў свядомасць...

У дзяржаўных сродках масавай інфармацыі навідавоку праблема, якую я называю "стенографирование власти". Звярніце ўвагу: амаль кожны выступ, кожная інфармацыя пачынаецца з фразы: "Как сказал глава государства...". Якасць мець сваё меркаванне выцеснена гэтымі стэнаграмамі і спасылкамі. Адно з наступстваў "стенографирования власти" - адсутнасць усялякай дыскусіі ў краіне. Пра што могуць дыскуціраваць спадар Васілевіч і спадарыня Ярмошына ў ток-шоу "Выбар"? Гэта проста нонсенс, парушэнне ўсялякіх правілаў жанру! Магчымасці выказваць розныя меркаванні, на жаль, мы пазбаўлены.

- Атрымоўваецца, мы губляем агульнапрынятыя стандарты журналісцкай прафесі?

- Так. У Беларусі няма традыцыі свабоды слова. Мы неверагодна адсталі ад нашых суседзяў, дзе 15 гадоў таму былі распачаты працэсы раздзяржаўлення і дэманапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі.

Некалькі гадоў таму былы міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны ў інтэрв'ю адной дзяржаўнай газеце сказаў, што журналістыка - найстаражытнейшая прафесія, якая як абслугоўвала ўладу альбо бізнес-кланы, так і будзе абслугоўваць. І ніхто з журналістаў ні адной газеты не адрэагаваў на яго абразлівыя словы... А колькі зняважлівых выказванняў мы ўвесь час чуем з вуснаў кіраўніка дзяржавы: "Электронные СМИ - главное звено в идеологической работе". Для беларускіх журналістаў вызначаецца месца прапагандыстаў, ідэолагаў. Дык што мы сёння: сродак палітычнай барацьбы? Бізнес? Частка прапагандысцкай машыны?

- Для сябе Вы можаце адказаць на гэтыя пытанн?

- Журналіст павінен збіраць і распаўсюджваць інфармацыю. Пакуль у нас не будзе свабоднага абарачэння інфармацыі ў грамадстве, мы не можам разлічваць ні на якія палітычныя перамены. Цэнзураванасць, абмежаванасць доступу да інфармацыі не дае людзям магчымасці рабіць выбар, рабіць ацэнкі.

- Вы казалі пра Падгайнага. Цікава, а пры якім міністры інфармацыі асабіста Вам было лягчэй працаваць: пры Падгайным ці пры Русакевічу? Хто з іх больш дэмакрат?

- Размова пра дэмакратычныя пераканання міністраў інфармацыі апошніх дзесяці гадоў вельмі складаная і мне цяжка разважаць на гэтую тэму. Ведаю толькі адно: пры Падгайным газеты выходзілі з белымі плямамі, пры Русакевічу - яны прыпыняюцца на некалькі месяцаў. Дарэчы, ёсць статыстыка: з пачатку гэтага года было прыпынена 19 сродкаў масавай інфармацыі!

Да Падгайнага можна было прыйсці, ён гаварыў з журналістамі. Усе спробы журналістаў патрапіць на прыём да цяперашняга міністра інфармацыі скончыліся проста нічым. Хоць падзеі апошніх часоў патрабуюць сур'ёзнай размовы. Дарэчы, магчымасць абмяркоўваць набалелае з кожным днём усё змяншаецца і змяншаецца. І хутка зусім можа знікнуць...

- А які, на Ваш погляд, павінен быць ідэальны міністр інфармацыі? Напрыклад, Міхаіл Падгайны ўпершыню прыйшоў у рэдакцыю "Народнай волі" толькі пасля таго, як яго знялі з пасады. Ці павінен міністр пабываць у рэдакцыях усіх больш-менш уплывовых газет, у тым ліку і незалежных, каб ведаць, у якіх умовах яны робіцца?

- Рэгулярныя сустрэчы міністра з журналістамі былі б адной з прыкмет свабоды слова, дэмакратычнасці грамадства. Сёння ў дачыненні да незалежнай прэсы праводзіцца мэтанакіраваная, вельмі жорсткая палітыка эканамічнай дыскрымінацыі, палітыка татальнага кантролю і ўмяшальніцтва ў рэдакцыйную дзейнасць. Дзікунствам з'яўляецца сам факт прыцягнення да крымінальнай адказнасці журналістаў, тое, што незалежныя выданні вымушаны шукаць друкарні па-за межамі краіны. Міністэрства ўхіляецца ад вырашэння гэтых праблем, хаця ў палажэнні аб Міністэрстве інфармацыі запісана, што адной з яго асноўных задач з'яўляецца супрацоўніцтва з грамадскімі аб'яднаннямі па пытаннях, звязаных з распаўсюджваннем інфармацыі. І тое, што журналісты застаюцца непачутымі, гэта ненармальна.

- Ненармальна таксама і тое, што на адным з нядаўніх мітынгаў ад амапаўцаў і супрацоўнікаў Службы бяспекі прэзідэнта пацярпелі аператары расійскіх тэлеканалаў RenTV і НТБ Уладзімір Косцін і Канстанцін Марозаў, фотакарэспандэнт "Асашыэйтэд Прэс" Сяргей Грыц, журналіст Радыё Свабода Юрый Свірко. Па-Вашаму, гэта магло быць "звычайнай выпадковасцю", як сцвярджаюць некаторыя прадстаўнікі ўлады?

- У 2000 годзе падчас адной з вулічных акцый журналістаў сагналі ў ангар бліз вуліцы Маякоўскага, некаторым расійскім журналістам пабілі камеры. Пасля гэтага мы дамагліся рашэння дэпутатаў Мінгарсавета пра тое, што міліцыя павінна аказваць дапамогу і забяспечваць умовы для работы журналістаў падчас мітынгаў і дэманстрацый. З тых часоў гэтае рашэнне ніхто не адмяняў. Відаць, сілавыя структуры зноў забыліся, што журналісты на мітынгах і дэманстрацыях знаходзяцца на працы. І пры гэтым журналісцкае пасведчанне яны трымаюць так, што яго нельга не заўважыць. Пасведчанне павінна спыніць руку з дубінкай, занесенай над галавой журналіста.

- Дапусцім, пасведчанне ці дыктафон можна не заўважыць, а тэлекамеру?

- Гэта абсалютна наўмысныя дзеянні, ужытыя супраць журналістаў. І нам трэба адстойваць свае права прысутнічаць на месцах, дзе адбываюцца значныя для грамадства падзеі, гэтае права нам гарантавана заканадаўствам. А нам даводзіцца ўвесь час нагадваць, што ёсць Канстытуцыя, ёсць законы, якія абавязаны выконваць.

- Ці згодны Вы з тым, што народ варты таго ўзроўню жыцця, які мае? Людзі самі маўкліва дазваляюць уладзе парушаць законы...

- Не згодна. Любы народ, тым больш беларускі, варты лепшага жыцця. Няма такой улады, якая даравала б кожнаму чалавеку дабрабыт, шчасце. У любой краіне, нават самай дэмакратычнай, чалавек усё роўна адбудоўвае сваімі рукамі сваё гняздо, сваю сям'ю, сваё шчасце. Самае галоўнае - каб улада не перашкаджала...

- Калі Шарамет сядзеў у турме, беларускія журналісты ў знак пратэсту выйшлі на вуліцу ў турэмных робах. Сёння зачыняюцца і прыпыняюцца газеты. Днямі спыніў галадоўку рэдактар "Местной газеты" Андрэй Шантаровіч. Чаму няма падобных акцый журналісцкай салідарнасці цяпер?

- Такая магчымасць не выключаецца. Але гэтая крайняя мера будзе мець сэнс тады, калі нас падтрымаюць чытачы.

- Некалькі месяцаў таму Уладзімір Пуцін у размове з прадстаўнікамі заходніх сродкаў масавай інфармацыі сказаў: "Улада, як сапраўдны мужчына, заўсёды павінна дамагацца. А прэса, як сапраўдная жанчына, - супраціўляцца". Сённяшняя беларуская ўлада не выносіць ніякага супраціўлення. Чым болей ёй супраціўляешся, тым нахабней яна сябе паводзіць. Некаторыя кажуць, што ў гэтым выпадку самае лепшае для журналіста - расслабіцца, бо наўрад ці варта разлічваць на тое што ўлада раптам зробіцца лагоднай да прэсы...

- Як бы ўлада нас ні душыла, як бы з намі ні змагалася, але яна не можа не ўлічваць таго, што мы ўсё роўна існуем. І мы ні ў якім разе не маем права адступацца ад сваіх прынцыпаў. Я ўжо некалькі разоў паўтарала: журналіста можна запалохаць, выгнаць з працы, можна закрыць яго газету. Але яго нельга пазбавіць прафесіі. Журналіст усё роўна будзе пісаць. Ён усё

роўна застанецца самім сабой. І вось такімі журналістамі, якія не скараюцца, я неверагодна ганаруся. Яны сапраўды застаюцца свабоднымі людзьмі. Людзьмі, якія могуць дазволіць сабе свабодна выказвацца і свабодна мысліць.

- Існуе меркаванне, што гэта не зусім небяспечна. Напрыклад, у забойстве журналісткі Веранікі Чаркасавай некаторыя бачаць папераджальна-запалохваючы момант: маўляў, так могуць паступіць з кожным незалежным журналістам. Што Вы думаеце па гэты конт?

- Адказ на тое, што адбылося, павінна даць следства. Пакуль няма афіцыйнай версіі, мы не маем права рабіць нейкія высновы...

Страшна, калі забіваюць журналіста. Гэта абуджае страх ва ўсім грамадстве. Сёння нацыя жыве пад страхам. Гэта нашая рэчаіснасць. Некалі Святлана Алексіевіч сказала, што самае страшнае прыніжэнне чалавека - гэта прыніжэнне жабрацтвам. Я б дадала: і страхам таксама. Мне падаецца, што большасць нашых людзей актыўна не дэманструюць свае пратэстныя настроі, не выходзяць на вуліцы менавіта таму, што на першае месца выбіваецца пачуццё самазахавання, страху за сябе, за сваіх блізкіх. Гэта тое, што мы нажылі за апошнія гады: знікаюць палітыкі, дэпутата Валерыя Фралова збіваюць у пад'ездзе ўласнага дома, на журналіста Паўла Шарамета нападаюць невядомыя... Усе гэтыя факты спрыяюць таму, каб пачуццё страху раз'ядала нашу душу.

- У мяне нядаўна адзін нямецкі журналіст запытаўся: а Вам не страшна? І я доўга думала, што адказаць: з аднаго боку падаецца, што калі губляеш пачуццё страху, губляеш блізкіх, жыццё, а з іншага... Што Вы робіце са сваімі страхамі?

- Часам чалавека фарміруюць, выхоўваюць абставіны, тыя людзі, побач з якімі аднойчы прыходзіць разуменне, што ты не можаш быць іншым. Не маеш права на нейкія слабасці. Гэта, відаць, тое, што прымушае быць такой, якая ёсць. Дарэчы, гэта вялікая раскоша - быць самім сабой, знаходзіць паразуменне з блізкімі...

- Хачу спытаць пра грошы. Шмат хто любіць лічыць іх у кішэнях журналістаў, якія працуюць у незалежнай прэсе. Маўляў, ім перападаюць заходнія гранты, яны ні ў чым сабе не адмаўляюць. Напрыклад, у "Народнай волі" па сучасных мерках зарплата больш чым сціплая. Мае аднакурснікі, што працуюць у дзяржаўных газетах, зарабляюць у два-тры разы больш. А нашыя зарплаты ў параўнанні з зарплатамі расійскіх журналістаў - проста смехатворныя! На Ваш погляд, якой павінна быць зарплата сучаснага журналіста, каб не было спакусы "прадавацца з патрахамі ўладзе"?

- Усім вядома, што журналіста ногі кормяць. Прафесіяналы становяцца шматстаночнікамі, спрабуюць выходзіць за інфармацыйную прастору Беларусі, шукаюць заробкі за межамі. Заробак павінен быць прыстойным. Таму што ва ўсім свеце журналісты карыстаюцца павагай свайго грамадства. Я не хачу зараз гаварыць пра нейкую місію альбо выключнасць нашай прафесіі, але за мяжой журналісты сапраўды атрымліваюць за сваю працу вельмі прыстойнае ўзнагароджванне. Аднак ва ўсім свеце прэса, інфармацыя - гэта бізнес. Вельмі своеасаблівы, але бізнес. Таму я не разумею, чаму з дзяржаўнага бюджэту Беларусі кожны год адрываюцца такія каласальныя сумы і ўбухваюцца ў тую сферу, якая павінна зарабляць самастойна. Прэса ўсюды сама зарабляе на сваё існаванне. Усё залежыць ад канкурэнтаздольнасці. У цывілізаваных краінах, калі выданне канкурэнтаздольнае, у яго ўкладваюцца грошы рэкламадаўцаў, а не падаткаплацельшчыкаў, як у нас. У краіне, дзе столькі праблем эканамічных, укладваць дзяржаўныя грошы ў прэсу - гэта тупіковы шлях.

- Аднак, нягледзячы на ўсе цяжкасці і складанасці масмедыйнай прасторы, Беларуская асацыяцыя журналістаў нядаўна атрымала прэмію Еўрапарламента. Гэта гаворыць пра тое, што БАЖ - лепшая журналісцкая арганізацыя ў свеце?

- Чыста журналісцкай гэтую прэмію не назавеш: у самы першы раз яна наогул уручалася Нэльсану Мандэла. А ў мінулым годзе гэтую прэмію атрымала ААН. Я лічу, што ўзнагароджванне беларускіх журналістаў - гэта перш за ўсё дэманстрацыя падтрымкі дэмакратычнага руху на Беларусі.

- Жанна Мікалаеўна, у адным са сваіх інтэрв'ю Вы прызналіся, што баіцеся жаночых калектываў, жаночага настрою і няўмення жанчын кіраваць сваімі эмоцыямі. У Вас самой заўсёды атрымоўваецца кіраваць эмоцыямі?

- Эмоцыі - уласцівасць любой жанчыны. Іх можна стрымліваць, але кантраляваць - немагчыма. Проста з узростам прыходзіць мудрасць і ты разумееш, што недзе павінна прамаўчаць, не адрэагаваць. Але жанчына застаецца жанчынай... Калі сёння яшчэ і эмоцыі страціць...

- Многія лічаць Вас жанчынай жорсткай, якая дакладна ведае, чаго хоча, і ідзе да мэты напорыста...

- Я не люблю адказваць на такія пытанні... Мне ніколі не даецца тое, што мне патрэбна. Мара ўсяго майго жыцця - радыёстанцыя. Я ведаю, якой яна павінна быць і што з ёю рабіць. Але гэтая мара ніяк у маім жыцці не можа ажыццявіцца. Відаць, не ўсё ў гэтым жыцці падуладнае чалавеку...

- Вы - прывабная, стыльная жанчына, якая нядаўна адсвяткавала свой юбілей. Як Вы ставіцеся да ўзросту?

- Марына, прыйдзе час, дажывеш да юбілею і зразумееш, што ў душы ты застаешся чалавекам, які аднойчы дасягнуў 20-гадовага ўзросту і спыніўся. Нішто не змянілася і ў мае 50 гадоў. Амаль нішто... Можа, хутчэй стамляюся, часам прыходзіць адчуванне, што многае ў жыцці ўжо было, але ўспрыманне свету - яно ў многім ранейшае.

- Чаго акрамя радыёстанцыі жанчыне Жанне Літвіной не хапае для адчування поўнага шчасця?

- Напэўна, шчасце - гэта калі ў чалавека ў жыцці поўная гармонія. Калі ты прачынаешся, у цябе на душы светла, то і за акном таксама павінна быць сонечна, звонка. Ты расплюшчваеш вочы насустрач свету і сузіраеш радасць, лёгкасць, якія навокал. Але апошнім часам над маім горадам вісіць нейкая заслона, туман... І вось гэтыя нестыкоўкі па жыцці, адсутнасць гэтай гармоніі, напэўна, не толькі мне, але і многім перашкаджаюць. Бяжыш, радасны, і тут раптам - шкляныя дзверы... І ты нічога не разумееш... Такога шчасця, каб цалкам захліснула... не ведаю... У мяне гэтага няма...

# Як знішчыць у сабе дракона

І сёння беларусаў, як у сталінска-брэжнеўскія часы, пужаюць "нацыяналізмам". І хто? Напрыклад, тэарэтык змагання з аўтарытарызмам А.Ляўковіч. У гутарцы з В.Оргішам "Пераможца дракона: ці ёсць ён у Беларусі?" ("Народная воля" №136) на пытанне "Пагадзіцеся, што новы лідэр краіны (з наменклатурнай абоймы. - А.Р.) павінен мець нацыянальную (не нацыяналістычную!) закваску. Інакш за што мы змагаемся?", адказвае: "Безумоўна. Па-іншаму быць не можа".

Чым адрозніваецца "нацыянальная закваска" ад "нацыяналістычнай", нам не патлумачылі. Відаць, прыйдзецца дадумаць самому з дапамогай выказванняў, якія цяжка абвергнуць.

Найаўтарытэтнейшая ў свеце Брытанская (зразумела, не "Большая советская" і не БелСЭ) энцыклапедыя тлумачыць нацыяналізм як любоў да радзімы, патрыятызм. Калі В.Оргіш і А.Ляўковіч уключаюць у змест "нацыяналізму" прыхільнасць да роднай мовы (у чым нашу наменклатуру цяжка западозрыць), тады іх разуменне аб'ектыўна, як ні круці, супадае з тым, які панаваў у савецкі перыяд. І гэта факт, сумны факт, што сёння ў праграмах апазіцыйных партый няма "беларускага" пункту (выключэнне - паслядоўнасць і непахіснасць пазіцыі Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі - БНФ). Некаторыя нашы "змагары за дэмакратыю", як чорт ладану, баяцца "нацыяналізму" ("інакш за што мы змагаемся?")?

Свет адзіны, і ён развіваецца па універсальных законах. У сувязі з гэтым разгледзім тры схемы змагання за незалежнасць і дэмакратыю ў сучасных умовах. Яны выглядаюць так:

незалежнасць - мова (Ірландыя);

мова - незалежнасць - дэмакратыя (Прыбалтыка);

незалежнасць - дэмакратыя - павага да правоў чалавека (Беларусь).

Заўважым: у ірландцаў адсутнічае звяно "дэмакратыя", у беларусаў - "мова" (!). Ірландскія дэмакраты пачыналі змагацца за незалежнасць, мяркуючы, што дэмакратыя і грамадзянская супольнасць у іх ужо сфарміраваліся (на чужой мове!). Праблему роднай мовы яны вынеслі ў канец схемы, наіўна спадзеючыся вырашыць яе пасля атрымання незалежнасці. І што ж мы бачым? Гэтая схема не спрацавала! Поўнай незалежнасці Ірландыя так і не мае, а роднай мовай гэтай зямлі з болей чым 5 мільёнаў ірландцаў валодаюць тысяч 30... Праблема годнага жыцця і роднай мовы засталіся. Барацьба працягваецца. Да бясконцасці? Беларускае звяно "павага да правоў чалавека" (што само па сабе цудоўна!), якога не было ў ірландцаў і прыбалтаў, падштурхоўвае да пытання: ці не відавочна - дэмакратыя якраз і забяспечвае гэтую павагу? Да таго ж, мне здаецца, у гэтым пункце ("павага") якраз хаваюцца неазначаныя ўголас праблемы мовы: беларускія дэмакраты, як і ірландскія, вынеслі, і то зашыфравана, іх у канец схемы. З гэткім жа практычным поспехам?

На сёння, як вядома, рэальна спрацоўвае толькі адна схема: "мова - незалежнасць - дэмакратыя": у Прыбалтыцы, Чэхіі, Польшчы, Вугоршчыне і інш. Там і кіраўніцтва, і грамадскасць глыбока ўсвядомілі: родная мова з'яўляецца універсальнай духоўнай зброяй, яна кансалідуе народ у грамадзянскую супольнасць, развівае дэмакратыю і абараняе незалежнасць краіны. Нічога гэтага наша Беларусь яшчэ не мае! Гэтым і скарысталася Расія.

І Пуцін, І Лукашэнка (як і Ляўковіч з Оргішам) кажуць "не!" нацыяналізму. Дык за што мы змагаемся? За дарэшты зрусіфікаваную Беларусь, дзе большасць грамадзян тытульнай нацыі пачуваецца прыніжана, як на чужым падворку? Дык такая краіна, на жаль, ужо ёсць! І дэмакратычнай без беларускасці быць не можа. Змаганне нашай апазіцыі ў стылі "пейзан а ля белорюсс" (без патрыятызму) - было і будзе бясплённым па азначэнні, якія лозунгі ні мяняліся б час ад часу.

Яшчэ адзін пасаж А.Ляўковіча: "Маскве больш выгадна дапамагчы аднавіць у Беларусі дэмакратычныя працэсы (! - А.Р.). Цікава: Масква, якая патанае ў вялікадзяржаўна-шавіністычным акіяне, адмаўляючы шматлікім народам сваёй федэрацыі ў праве на іх родную мову і культуру, будзе дапамагаць Беларусі "аднавіць дэмакратычныя працэсы"? Панове! Масква ніколі не адмовіцца працягваць тую "нацыянальную" антыдэмакратычную палітыку, якую яна праводзіць ужо некалькі стагоддзяў! Як у адносінах да чэчэнцаў, татараў ці башкіраў, так і ў дачыненні да беларусаў.

Не магу не нагадаць словы беларускага вучонага Ю.Бандажэўскага - вязня сучаснага рэжыму: "То, что случилось с Беларусью, стало результатом наиболее глубоко укоренившихся здесь советских традиций". Так, і я перакананы: русіфікацыя - галоўная прычына сённяшняй сітуацыі ў Беларусі. Увесь наш народ разам з прэзідэнтам - ахвяры русіфікацыі-савецізацыі.

Добры лекар лечыць прычыну, а не вынік. Беларускі дракон (русіфікацыя) сядзіць ледзь не ў кожным беларусу. Толькі адолеўшы гэтага дракона ў самім сабе, народ возьме ўладу ў свае рукі. Але тое змаганне ўжо будзе называцца не інакш як нацыянальна-вызваленчым рухам. Без усялякага страху перад нацыяналізмам.

Да гэтакага наша апазіцыя ў сваёй бальшыні яшчэ не даспела. Патрэбна доўгая, шматгадовая тлумачальная праца ў народзе. Людзі, якія нарадзіліся ў савецкі час, не маглі адразу зладзіць такое жыццё, якое сталася нормай для цывілізаванага свету, - жыццё з універсальнымі законамі. Такое - годнае, прыгожае жыццё трэба спачатку выбудаваць у сваёй свядомасці (пажадана - на роднай мове, інакш гэта будуць уяўленні пра чужое жыццё). І задача апазіцыі - дапамагчы народу гэта зрабіць, а не тлуміць яму і без таго затлумленыя мазгі.

Скончыць хачу думкай народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, які больш як дзесятак гадоў таму вельмі трапна сказаў пра стратэгію і тактыку беларускай дэмакратыі: "Не трэба напускаць тэарэтычнага туману, што, так бы мовіць, спачатку здабудзем свабоду, здабудзем хлеб і каўбасу, а тады падумаем і пра беларускую мову. Дазвольце ў гэтыя байкі не паверыць".

Не веру і я, бо "разумная" схема сённяшніх беларускіх дэмакратаў (усе бачаць) фактычна не працуе. Змаганне за родную мову і ёсць змаганне за дэмакратыю - уладу беларускага народа. Па савецкіх жа нормах - гэта, канечне, нацыяналізм, з якім "трэба змагацца..."

Ці туды, куды трэба, скіроўваем сілы, спадары?

Алесь РАШЧЫНСКІ, кампазітар

*********************************************

# Створаны Грамадскі камітэт Польшчы па ўзвядзенні помніка беларускім песнярам

На кафедры беларусістыкі Варшаўскага універсітэта адбылося арганізацыйнае пасяджэнне Грамадскага камітэта па ўзвядзенню помніка Янку Купалу і Якубу Коласу.

Ініцыятыўная група па адкрыцці ў Варшаве помніка Янку Купалу і Якубу Коласу, у склад якой уваходзілі прафесар Варшаўскага універсітэта Аляксандр Баршчэўскі, старшыня Варшаўскага аддзялення БГКТ Янка Заброцкі, перакладчык і публіцыст Чэслаў Сэнюх, дэпутат Сейма Яўген Чыквін, старшыня Галоўнага праўлення Таварыства «Польшча — Беларусь» Баляслаў Хмяліньскі, праінфармавала аб праведзенай да гэтага часу рабоце па рэалізацыі ідэі і прадставіла абгрунтаванне яе мэтазгоднасці.

Свой удзел у Грамадскім камітэце пацвердзілі каля 30 вядомых дзеячаў культуры, палітыкаў, прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый краіны і беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Сярод іх дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Міхал Ягела, старшыня Польскага фонду культуры Рафал Скомпскі, дырэктар Літаратурнага музея А.Міцкевіча прафесар Януш Адрованж-Пянёнжэк, вядомая оперная спявачка, старшыня Міжнароднага фестывалю вакалістаў імя С.Манюшкі Марыя Фолтын, старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Ян Сычэўскі і іншыя.

Старшынёй Грамадскага камітэта аднагалосна выбраны дырэктар Літаратурнага музея Адама Міцкевіча ў Варшаве прафесар Януш Адрованж-Пянёнжэк.

*********************************************

### 70 гадоў Ванкарэму Нікіфаровічу

У лістападзе спаўнілася 70 гадоў беларускаму літаратуразнаўцу, перакладчыку, сцэнарысту, сябру Саюза беларускіх пісьмень- нікаў і Беларускага ПЭН-цэнтра, аўтару кніг "Усяму сьвету – свой дар", "Дарогі ў шырокі сьвет", сябру Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Ванкарэму Нікіфаровічу (Чыкага, ЗША).

Віншуем шаноўнага спадара Нікіфаровіча і зычым здароўя і поспехаў.

"Беларускі Дайджэст"

# ЗАГС Савецкага раёна Гомеля ўпершыню за апошняе дзесяцігоддзе правеў цырымонію рэгістрацыі шлюбу на беларускай мове

ЗАГС Савецкага раёна Гомеля ўпершыню за апошнія 10 гадоў 18 верасня па просьбе жаніха і нявесты правёў цырымонію рэгістрацыі шлюбу на беларускай мове. Аб гэтым «Інтэрфаксу» паведаміла загадчыца ЗАГСам Савецкага раёна Гомеля Ірына Маскаль.

«Жыхары Савецкага раёна Гомеля звярнуліся ў ЗАГС з заявай аб тым, каб цырымонія рэгістрацыі шлюбу была праведзена на беларускай мове. За апошнія 10 гадоў такога пажадання ніхто з маладых не выказваў, і беларускамоўнага сцэнарыю цырымоніі таму ў нас не было», — паведаміла І. Маскаль, удакладніўшы, што, паколькі беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай мовай, работнікі ЗАГСа палічылі неабходным задаволіць просьбу маладых.

## Спадчына, якую трэба бачыць

**Ларыса ЦІМОШЫК** /Зьвязда/

А вы бачылі спадчыну Беларусі такой, якой яе можна бачыць? Такой, якую ведаюць Алег Лукашэвіч і Аляксандр Аляксееў. Паглядзіш фотаальбом, аўтарамі якога яны сталі, і разумееш: усё ў нас са спадчынай у парадку. Яна багатая і вельмі разнастайная — ёсць унікальныя архітэктурныя збудаванні, цікавыя, з таямнічымі гісторыямі палацы, храмы з унікальнымі фрэскамі, абразы...

Наша спадчына вартая нашай жа ўвагі і клопату — вы ўпэўніцеся ў гэтым, пабачыўшы яе калі не на свае вочы, то ў фотаальбоме «Спадчына Беларусі». Гэтае выданне расказвае пра Беларусь — і самім беларусам, і замежнікам, якія цікавяцца нашай краінай. Альбом, які выдала Мінская фабрыка каляровага друку, змяшчае цудоўныя фотаздымкі, якія часам лепш за словы сведчаць пра наша багацце. Нездарма ўступнае слова да гэтага выдання належыць Генеральнаму дырэктару ЮНЕСКО спадару Каэціра Мацуура. Ідэя праекта, над якім з натхненнем працавалі супрацоўнікі Белтэлерадыёкампаніі Алег Лукашэвіч і Аляксанр Аляксееў, была ацэнена на дзяржаўным узроўні. У выніку сумеснай працы і з'явіўся гэты фотаальбом. Ён пачынаецца з прадстаўлення старажытнай Полацкай зямлі і прапануе цудоўную вандроўку па самых розных гарадах і мястэчках — амаль у кожным з іх ёсць тое, што пакінула нам гісторыя.

На прэзентацыі гэтага выдання Уладзімір Русакевіч, Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь, падкрэсліў: «Гэтая кніга па-новаму адкрывае Беларусь сусветнаму культурнаму супольніцтву. Відавочна, што кніга-выданне Беларусі развіваецца па законах цывілізаванага свету. Штогод у Беларусі выходзіць у свет 9 тысяч назваў кніг і брашур. Нам ёсць што паказаць на замежных кніжных форумах. Ёсць чым папоўніць духоўную скарбонку народа — сучаснымі выданнямі высокага духоўнага гатунку. Адно з такіх мы якраз сёння і прэзентуем. І я ўпэўнены, што ад кожнага з нас залежыць, ці быць такім і падобным да іх праектам, ці не змялее і не растраціцца запас духоўных сіл народа, яго назапашанай вякамі культуры».

Алег Лукашэвіч, тэлевядучы, а цяпер і адзін з аўтараў кнігі, гаворыць:

— Праца над гэтым праектам ішла вельмі лёгка. Мы адразу знайшлі разуменне ва ўсіх зацікаўленых структурах, без якіх сёння не адбылося б гэтай падзеі. Мы вельмі ўдзячныя Міністэрству інфарамацыі Рэспублікі Беларусь. Мы ўдзячныя парламенцкай камісіі па справах ЮНЕСКО і яе старшыні спадару Шчаснаму. Мы ўдзячныя мітрапаліту Філарэту і кардыналу Казіміру Свёнтаку — за тое, што яны далі блаславенне на такую працу.

У нашай кнізе сапраўды шмат адкрыццяў. Узяць хаця б унікальныя фрэскі, якія ўвогуле друкуюцца ўпершыню, з жаночага манастыра ў Магілёве. Пад купалам у храме яшчэ ніхто не здымаў — мы першыя. У касцёле ў Суботніках, напрыклад, захавалася унікальная крыпта. Кожная старонка кнігі нясе нейкае такое адкрыццё.

**— А што вас асабліва натхняла?**

— Любоў. Без любові гэта немагчыма было зрабіць. Нас да гэтай справы падштурхнула цікавасць — мы хацелі больш даведацца пра сваю краіну. Мы, на жаль не ведаем сваёй гісторыі як належыць. У нас ёсць унікальныя помнікі культуры, а мы часта не ведаем, як яны ўзніклі. Мы з Аляксандрам не прафесіянальныя фатографы — гэта для нас хобі. Тры гады таму мы пачалі цікавіцца фатаграфіяй. Самі асвойвалі гэтае майстэрства, вучыліся на сваіх памылках, вывучалі камеры, камп'ютар. І прадставілі сваё бачанне, за якое, магчыма, трэба сказаць дзякуй бацькам. І трэба дзякаваць Богу — мы адчувалі яго дапамогу і адчувалі падтрымку нашай заступніцы Ефрасінні Полацкай. Яе асоба вельмі моцна паўплывала на наш светапогляд. Мы дакладна можам сказаць пра тое, што адчувалі падтрымку звыш.

**— Ваш калега і сааўтар Аляксандр Аляксееў — рускі чалавек, нарадзіўся ў Казані, але вучыўся ў Мінску. Вандруючы па Беларусі, ён адкрываў яе ўпершыню.**

— Я таксама адкрываў яе ўпершыню, нягледзячы на тое, што тут нарадзіўся. У нас традыцыі не было такой. Была савецкая школа, тоўстыя падручнікі па гісторыі, дзе перыяд да 1917 года быў не такі важны, як савецкі. Гэта была не наша віна, што шмат што прайшло міма — гэта была закладзена той схемай, па якой усе жылі. Добра, што зараз гэтыя хібы выпраўлены.

Мы хацелі, прадстаўляючы Беларусь, адысці ад стэрэатыпу суму, шэрасці і разбуранасці, якія ёсць у большасці сучасных здымкаў. Беларусь — гэта унікальная краіна. Еўрапейцы будуць адчуваць да яе цікавасць. Першая прэзентацыя гэтага альбома адбылася ў Рыме тыдзень таму ў рамках Дзён культуры Беларусі. У Рыме гэтыя кнігі добра куплялі. І мы з вялікім здзіўленнем даведаліся, што ўжо літаральна за тры тыдні раскуплены ледзь не ўвесь наклад фотаальбома «Спадчына Беларусі». Уяўляеце, сёння публічная прэзентацыя, а кнігі ў нас ужо няма...

************************************************

# Заманлівы водар рарытэтаў

Ларыса **ЦІМОШЫК** /З-да/

Калі каштоўнасці знікаюць, тады адразу становіцца зразумела, наколькі яны каштоўныя. А калі ў сценах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі разыгралася дэтэктыўная гісторыя крадзяжу рэдкіх экзэмпляраў кніг, многія з нас менавіта тады і зразумелі, што ёсць у нас сапраўдныя рарытэты. Зладзеі тады сваё атрымалі. А фонд аддзела рукапісаў, рэдкай кнігі і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі вярнуў сабе сваё. Тое, што належыць нам усім. Толькі мала хто можа ўявіць у поўнай меры, што гэта за багацце і як яно здабываецца...

— У старой кнізе добра тое, што яна старая, — тлумачыць загадчыца аддзела рэдкай кнігі Галіна КІРЭЕВА. — Яна найлепш сведчыць пра эпоху, з якой прыйшла. Дастаткова толькі ўзяць такую кнігу ў рукі і адчуць яе водар...

Як пахнуць кнігі? Эпохай? Краінай? Матэрыялам, на якім створаны? Ёсць у бібліятэцы кнігі, напісаныя на пергаменце. Думаеце, такія маглі з'явіцца дзесьці на Усходзе? Стары рукапіс Торы (Пяцікніжжа Маісея) на пергаменце, напрыклад, у бібліятэку трапіў з Пінскага раёна. Такія кнігі на тэрыторыі Беларусі ствараліся ў Міры і Валожыне. На пергаменце нават яшчэ да сярэдзіны XIX стагоддзя пісалі яўрэі і татары, якія жылі на гэтых землях.

А рукапісная кніга на пальмавым лісце ўвогуле створана на санскрыце ў XIX стагоддзі, пахне далёкай экзотыкай. Старажытная паэма «Казанне пра Раму» была створана ў IV стагоддзі да нашай эры ва Усходняй Індыі, а яе аўтарства прыпісваецца легендарнаму паэту Вільмікі.

Але ў Беларусі жылі свае легендарныя асобы, якія спакон веку імкнуліся несці людзям Слова. Іх кнігі захоўваюць водар старажытнай Беларусі і складаюць гонар бібліятэкі. Але прымушаюць гадаць: як яны дажылі да нашых дзён і апынуліся тут?

У Нацыянальную бібліятэку старыя кнігі прывозяць... мяхамі. Прыватныя калекцыянеры, якія ездзяць па краіне і шукаюць для сябе штосьці цікавае. У бібліятэку знаходкі прывозяць, каб тут іх ацанілі і атрыбутавалі. Спецыялісты перабіраюць мяхі кніг і часам выкопваюць вельмі цікавыя экзэмпляры. Выбіраюць іх і набываюць у прыватных калекцыянераў. Дзіўна, але найчасцей старыя кнігі прывозяць з Гомельшчыны. Канешне, калекцыянеры дбаюць перш за ўсё пра свае інтарэсы, але добрыя адносіны з імі супрацоўнікі бібліятэкі імкнуцца падтрымліваць.

Ёсць, напрыклад, адзін калекцыянер, які збірае кнігі толькі XV стагоддзя. А XVII яго ўжо не цікавіць. Але калі чалавек разумее каштоўнасць кнігі і калі ён бачыць, што яна гіне недзе не гарышчы, то ён абавязкова яе возьме і прывязе ў бібліятэку. І ён жа зацікаўлены, каб кнігі не пакідалі межы Беларусі.

А нядаўна ў Нацыянальную бібліятэку прыватнікі прывезлі старую кнігу з Гомеля. Гэта было ўкраінскае выданне «Апостала» — яго вырашылі набыць для мітрапаліта Філарэта. З задавальненнем прымаюць старыя рэлігійныя кнігі ў падарунак у Жыровіцах — там пры манастыры аднаўляецца бібліятэка. Нейкія экзэмпляры бібліятэка прапануе набыць Нацыянальнаму мастацкаму музею ці Акадэміі навук.

Калекцыянеры — свае людзі. Але як добра мець «свайго чалавека» і на нашай сумленнай мытні. З камітэтам, які ацэньвае каштоўнасці, затрыманыя на мытні, супрацоўнічае прадстаўніца Нацыянальнай бібліятэкі. І яна ведае, што рэдкія кнігі за мяжу імкнуцца пераправіць значна радзей, чым абразы. Але і абразы часам сустракаюцца ў кнігах. Так з'явілася ў бібліятэцы вельмі рэдкая выява Іаана Дамаскіна, ёсць ужо і абраз Мікалая Цудатворца, які быў канфіскаваны на мытні. «А нам бы вельмі хацелася мець абраз Кірылы і Мяфодзія, — кажа Галіна Кірэева. — Усё чакаем, а не трапляюцца. Трэба фонд папаўняць...»

Напэўна, фонд аддзела рукапісаў, рэдкай кнігі і старадрукаў — самы таямнічы ў Нацыянальнай бібліятэцы. У ім захоўваюцца рукапісныя кнігі і архіўныя матэрыялы пачынаючы з XIV стагоддзя, выданні вядомых еўрапейскіх друкарняў XVI—XVIII стагоддзяў, унікальны збор аўтографаў вядомых з гісторыі асоб. Гэты фонд аддзела бібліятэкі налічвае сёння каля 70 тысяч экзэмпляраў. Але падчас апошняй вайны ён страціў 83 працэнты свайго скарбу. Сярод іх былі рэдкія і найкаштоўнейшыя для Беларусі выданні, у тым ліку кнігі Францыска Скарыны.

Сёння ў бібліятэцы ёсць дзесяць выданняў Скарыны ў шасці пераплётах. Напэўна, іх магло б быць і больш. Некалі пяць скарынаўскіх выданняў выстаўляліся на аўкцыёне ў Лондане. Пра тое, што яны выстаўлены на аўкцыён, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ведалі. І нават рабілі пэўныя захады, каб іх набыць. Гэта быў той час, калі многія пытанні ў краіне вырашаліся цяжка, грошай не хапала, была інфляцыя. І ўсё-такі на набыццё Скарыны сродкі выдаткавалі, праўда, у беларускіх рублях, якія для лонданскага аўкцыёну яшчэ трэба было канверсаваць...Скарыну беларусы набыць тады проста не змаглі.

Але бібліятэка імкнецца набываць кнігі, калі ёсць фінансавыя магчымасці для гэтага, запэўнівае дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі. Напрыклад, за апошні час, дзякуючы «прэзідэнцкім» грантам, змаглі набыць 150 рэдкіх выданняў, у тым ліку віленскае выданне «Евангелля» Пятра Мсціслаўца XVI стагоддзя.

Набыццё рэдкіх кніг — вельмі складаны працэс, тут нельга атрымаць грошы, пайсці ў краму і нешта выбраць. Напрыклад, над набыццём новых каштоўных экзэмпляраў спецыялісты бібліятэкі працавалі два гады.

39 рарытэтных кніг агульным коштам 15,5 мільёна беларускіх рублёў папоўнілі днямі скарбонку Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Гэты падарунак, які супрацоўнікі бібліятэкі выбралі сабе самі, зрабіла замежная кампанія British American Tobacco, якая працуе ў Беларусі. Усе гэтыя кнігі ў асноўным прыйшлі з асяроддзя стараveраў, якія пасля пэўных гістарычных падзей пасяліліся на Беларусі. 9 кніг — рукапісныя, 28 уяўляюць сабой старадрукі, і яшчэ дзве належаць да рэдкіх выданняў.

Асаблівае хваляванне ў душы бібліятэкараў выклікаюць дзевяць рукапісных кніг. Некаторыя рукапісы захоўваюць узор так званага «веткаўскага стылю». Больш за 300 гадоў старавеeры жывуць на Беларусі, зліліся з гэтай зямлёй настолькі, што выпрацавалі свой уласны, не падобны на рускі стыль. Напрыклад, рукапісы «Праздники на крюковых нотах» — унікальная знаходка яшчэ і таму, што змяшчае элементы акварэльнай размалёўкі. Вось цяпер парадуюцца студэнты Акадэміі музыкі — менавіта яны любяць заказваць старыя рэлігійныя кнігі. Для каго «крюки», а для каго — ноты...

Праўда, пасля той дэтэктыўнай гісторыі адбыліся сур'ёзныя змены ў выдачы кніг Нацыянальнай бібліятэцы.

— Так, ёсць пэўныя абмежаванні на атрыманне кніг, — удакладняе Галіна Кірэева. — Мы разумеем, што не кожную кнігу можам даць у рукі, і не кожнаму чалавеку. Напрыклад, рукапісы — гэта унікальныя творы, якія існуюць у адзінкавых экзэмплярах, іх беражом асабліва. Нават рукапісы XX стагоддзя, калі яны змяшчаюць каштоўныя звесткі. Скарыну стараемся не даваць на рукі, тым больш што ў бібліятэцы ёсць факсімільныя выданні.

Але асобны рарытэт — менавіта рукапісы, яны вымагаюць пільнасці і асаблівага клопату пры захоўванні. Праблема рукапісных кніг у тым, што чарніла за стагоддзі можа пашкоджваць паперу, а гэта потым вельмі складана аднавіць. Ёсць у бібліятэцы наваградскае «Евангелие» канца XVII стагоддзя. Чарніла праядае паперу настолькі, што гэты рукапіс патрабуе рэстаўрацыі. Ці, напрыклад, віленская «Триоль» XVI стагоддзя, выдадзеная ў друкарні Мамонічаў. Яе таксама немагчыма выдаць чытачам — можа рассыпацца на вачах, праблема з пераплётам.

Іх у рукі могуць узяць хіба што спецыялісты-рэстаўратары. Усе каштоўныя кнігі апрацоўваюцца з пэндзлікам у руках, надзвычай пяшчотна. Але пакуль у бібліятэцы няма свайго сучаснага абсталявання па рэстаўрацыі, робіцца кансервацыя, каб захаваць экзэмпляры да лепшых часоў.

Лепшыя часы, усе спадзяюцца, пачнуцца ў новым будынку. Перавяздзяць аддзел рэдкай кнігі будзе ўсё-такі інакш, чым іншыя аддзелы бібліятэкі. Скарбы ёсць скарбы: тут патрэбны і асаблівы транспарт, і спецыяльная ахова з сігналізацыяй.

Цэлы восьмы паверх у новым будынку будзе аддадзены пад рэдкія выданні, старадрукі і рукапісы. Там для іх будуць створаны самыя аптымальныя «кліматычныя ўмовы», дзе будзе выдаляцца паветра са шкодным для кніг пылам. А абмежаванне доступу да гэтых кніг будзе кампенсавацца часткова копіямі на электронных носьбітах. Толькі хто тады зможа бачыць тыя рарытэты?

Галіна Кірэева супакойвае: у новым будынку будзе створана выстава рэдкіх кніг. У адрозненне ад полацкага музея, дзе выстаўлены муляжы, мы зможам пабачыць сапраўдныя каштоўныя кнігі ва ўсёй іх прыгажосці. У аздабленні каштоўных металаў і камянёў, з рэдкімі гравюрамі. Супрацоўнікі бібліятэкі, напрыклад, сцвярджаюць, што ў адным з еўрапейскіх выданняў ёсць ранняя гравюра вялікага Дзюрэра «Танец смерці». А яшчэ Галіна Кірэева кажа, што бібліятэка мае арыгінальныя гравюры з аўтографамі Шагала. Якія, аказваецца, былі тады, калі ўсе казалі, што на радзіме арыгінальнага мастака няма ўвогуле. Пагледзець бы на таго Шагала! Упэўніцца б, што гэта — Шагал. Вось была б сенсацыя! І без усякіх дэтэктыўных гісторый.

**********************************************

**У верасьні 1991-га году**
**бел-чырвона-белы сьцяг і герб**
**Пагоня**
**ізноў сталі дзяржаўнымі сымбалямі**
**Беларусі. Шануйма іх!!!**

# Станіслава Шушкевіча віншуюць з 70-годзьдзем ягоныя аднадумцы

Нядаўна споўнілася 70 гадоў першаму кіраўніку незалежнай Беларусі, аўтарытэтнаму палітыку і навукоўцу Станіславу Шушкевічу. Як ацэньваюць ягоную дзейнасьць на чале дзяржавы вядомыя ў краіне асобы?

Станіслаў Шушкевіч быў на навуковай канфэрэнцыі ў ЗША… Як успрымаюць Шушкевіча ў палітыцы людзі, якія цягам усіх гэтых гадоў ідуць, прынамсі, паралельнымі курсамі?

Вось меркаваньне сакратара ўправы БНФ Віктара Івашкевіча:

"Перадусім гэта чалавек незвычайнага лёсу — маючы на ўвазе, што лёс сам ствараў падзеі, а Шушкевіч воляй гэтага лёсу апынуўся ў яго эпіцэнтры, можа таго нават не чакаючы і не жадаючы. Гэта і тое, што яму давялося пазнаёміцца з Освальдам, і тое, што ён стаў кіраўніком беларускай дзяржавы, і тое, што Савецкі Саюз разбурыў у Белавескай пушчы. Можа, у гэтым найбольшы сымбаль той Беларусі, калі мы, зноў жа, воляй лёсу апынаіся ў такім стане. Таму Шушкевічу пажаданьне: каб у яго было здароўе дачакацца і паназіраць за тым, што будзе ў наступныя гадоў дваццаць.

Да сярэдзіны 1990-х Станіслаў Шушкевіч сапраўды быў у эпіцэнтры міжнародных падзеяў. Новыя геапалітычныя рэаліі падштурхоўвалі да вызваленьня ад старой савецкай ізаляцыі. На думку ўсіх маіх суразмоўцаў, імя Шушкевіча трапіць у энцыкляпэдыі сьвету найперш дзякуючы Белавескім пагадненьням. А кульмінацыяй новых замежнапалітычных стасункаў часу ягонага кіраўніцтва стаў візыт у Беларусь тагачаснага прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана. Гаворыць былы судзьдзя Канстытуцыйнага суду Беларусі Валеры Фадзееў:

"Мяркую, ягоная галоўная заслуга тая, што ён стаяў ля вытокаў нараджэньня новай беларускай дзяржаўнасьці й дэмакратыі ў Рэспубліцы Беларусь. І ўвогуле, як ён парлямэнтам кіраваў, хоць адназначна яго кіраўніком у тым сэнсе, які мы звычайна ў гэта ўкладаем, назваць нельга, але мне тыя мэтады заўсёды падабаліся. Мне здаецца, ён заўсёды быў прыхільнікам дэмакратыі й гэтыя ідэі праводзіў у жыцьцё. Такім ён, пэўна, і застанецца ў гісторыі. Праўда, гавораць, што ён разбуральнік Савецкага Саюзу… Я думаю, гэта не зусім так: Савецкі Саюз разбурыўся не таму, што гэтага захацеў Шушкевіч ці хтосьці іншы. Такая была хада гісторыі".

Сам Станіслаў Шушкевіч на падзеі сьнежня 1991 году мае адназначнае меркаваньне — трэба было цывілізавана разьвесьці саюзныя суб'екты.

(Шушкевіч:) "Калі была ўтвораная СНД, то фактычна было спыненае кровапраліцьцё — былі ўтаймаваныя канфлікты паміж былымі суб'ектамі СССР. Нават армянска-азэрбайджанскі канфлікт — вельмі складаны, вельмі цяжка ў яго было ўмешвацца. Болей за тое, нэўтралізаваныя пэўныя ўнутрыдзяржаўныя канфлікты, да прыкладу Абхазія—Грузія. Так што, я перакананы: задача цывілізаванага разводу суб'ектаў СССР адбылася самым дасканалым чынам. Другой задачай было ўтварэньне цывілізаванай супольнасьці. Дык вось, супольнасьць утвораная, а цывілізаванасьці ў ёй няма".

Зрэшты, некаторыя палітыкі цяпер да яго ставяцца досыць крытычна. Адзін з прыкладаў — былы міністар замежных справаў Пётар Краўчанка .

"Мы далёка не сябры, хоць працавалі разам ва ўнівэрсытэце, я яго рабіў прэзыдэнтам адной навукова-тэхнічнай арганізацыі. Ёсьць прынцыповыя падставы, і тут палітыка перамешваецца з асабістым да яго стаўленьнем. Але галоўнае — гэта палітычныя яго недахопы. Гэта чалавек, які прайграў усё, што было можна".

Падобныя меркаваньні маюць права на існаваньне, але практычна ўсе сыходзяцца ў іншым: Беларусь з Шушкевічам якраз выйгравала.

****************************************************

## У Беларусь эмігруюць з Азіі, а зь Беларусі – у Эўразьвяз, ЗША і Канаду

*Прадстаўнікі Дэпартамэнту ў грамадзянстве й міграцыі прадставілі інфармацыю аб міграцыйнай сытуацыі ў Беларусі – колькі чалавек маюць статус уцекачоў, колькі так званых "нелегалаў" затрымалі на тэрыторыі краіны – але колькасьць беларускіх грамадзянаў у замежжы невядомая.*

Сёлета супрацоўнікі праваахоўчых органаў выявілі 120 груповак так званых "нелегалаў". Намесьнік кіраўніка дэпартамэнту Аляксей Бягун назваў лічбу 24 800 – столькі іншаземцаў прыцягнулі да адказнасьці за парушэньне правілаў знаходжаньня й транзытнага праезду праз тэрыторыю Беларусі.

Больш за тры тысячы беларускіх грамадзянаў пакаралі за тое, што не забясьпечылі іншаземцам выкананьне правілаў знаходжаньня. Больш за 2 000 іншаземцаў дэпартавалі з краіны, палову зь іх – пад канвоем. Аляксей Бягун абвінавачвае нелегальных мігрантаў у распаўсюдзе арганізаванай злачыннасьці.

"Чым займаюцца незаконныя мігранты? Перш за ўсё – гэта незаконная прадпрымальніцкая дзейнасьць. Частка зь іх займаецца крымінальным бізнэсам – гэта й гандаль наркотыкамі, зброяй і перапраўкай сваіх суайчыньнікаў за мяжу. Але казаць пра тое, што яны істотна ўплываюць на правапарадак у Беларусі, не даводзіцца. Канечне, часам іншаземцы зьдзяйсьняюць так званыя гучныя злачынствы, зьвязаныя з жорсткасьцю і незвычайнасьцю для Беларусі. Знаходжаньне такой групы асобаў заўсёды бяруць пад пільны кантроль".

Выканаўца абавязкаў кіраўніка менскага спэцпрыёмніка Міхаіл Шабанаў паведаміў Радыё Свабода, што цягам году ў камэры спэцпрыёмніка трапляюць нелегальныя мігранты.

"Індыя, Аўганістан, са Шры-Ланкі група была, Кітай, Віетнам, а цяпер Ірак і Іран – гэта асноўныя краіны, адкуль нелегалы. Яны ў нас, а потым іх забіраюць прадстаўнікі дэпартамэнту і самі дэпартуюць. Іх няма пакуль дзе трымаць. Магчыма, пабудуюць лягеры і будуць трымаць іх там".

Ня толькі беларускія грамадзяне просяць прытулку ў замежжы. 800 чалавек маюць статус уцекачоў у Беларусі. Большасьць зь іх – былыя грамадзяне Аўганістана і афрыканскіх краінаў. Сёлета ўцекачамі сталі 11 грамадзянаў Аўганістану і 6 – Грузіі.

Дакладную лічбу беларускіх грамадзянаў, якія маюць статус уцекачоў у іншых краінах, прадстаўнікі Дэпартамэнту не назвалі, спасылаючыся на адсутнасьць адпаведнай статыстыкі. Невядома таксама і колькі беларусаў выяжджае ў замежжа на заробкі. Вядома, што сёлета 2000 чалавек заключылі працоўныя дамовы, каб зьехаць у краіны Эўразьвязу. Але для таго, каб працаваць у Расеі, папярэдніх дамоваў ня трэба, а туды штогод едуць дзесяткі тысячаў чалавек.

Супрацоўнікі Дэпартамэнту казалі пра тое, што шмат беларусаў пакідаюць краіну назаўсёды. Большасьць зь іх селіцца ў краінах Эўразьвязу, Канадзе і ЗША. Галоўным чынам гэта – аб'яднаньне сям'і і атрыманьне палітычнага прытулку. Тысячы беларусаў просяць прытулку ў замежжы, але далёка ня ўсім адказваюць станоўча. Супрацоўнікі дэпартамэнту паведамілі, што сёлета некалькі былых грамадзянаў Беларусі, якія раней эміграваілі ў Ізраіль, вярнуліся жыць на Бацькаўшчыну, але пакуль з якасьці іншаземцаў.

# Беларуская музыка ў эфіры

Праблемы панаваньня ў айчыннай інфармацыйнай прасторы нізкаякаснай поп-прадукцыі сапраўды патрабуюць вырашэння. За пятнаццаць гадоў свайго суверэнітэту Беларусь не здолела штосьці процiпаставіць агрэсіі попіндустрыі як з Усходу, так і з Захаду. Па-свойму плённымі ў гэтым сэнсе з'яўляюцца грамадскія ініцыятывы накшталт нядаўна ўсталяванай рэгулярнай акцыі аматараў беларускай музыкі «Штурм-FM» (калі ў пэўны час вялікая колькасць людзей пачынае званіць на пэўную радыёстанцыю і замаўляць беларускія музычныя кампазіцыі).

Але перш за ўсё ўзнікае пытанне не запаўнення радыёэфіраў, а якасці самой беларускай музыкі. Гэту думку пацвярджаюць шматлікія меркаванні экспертаў. Рэдактар Інтэрнэт-праекта «Радыё Беларусі» Максім Гайко адзначае зніжэнне цікавасці рэкламадаўцаў і простых слухачоў да FM: «Радыё ўжо не выконвае функцыю музычнай адукацыі сваіх слухачоў»...

«Зусім не радыёстанцыі павінны стаць рухавіком развіцця беларускай музыкі! — больш рэзка заяўляе вядомы беларускі радыёвядучы, а па сумяшчальніцтву музыкант, Вячаслаў Бандарэнка. — Радыёстанцыі — гэта ці не апошняе звяно на шляху раскруткі песні». Галоўная ўвага, на яго думку, павінна ўдзяляцца вытворчасці якаснай музыкі, а для гэтага патрэбны адпаведныя вытворчыя ўстановы — рэкардкампаніі, лэйблы. «У ідэале іх павінна быць некалькі, — мяркуе Слава Бандарэнка. — Скажам, адзін альтэрнатыўны, другі — больш папсовы, трэці — зусім папсовы».

Менавіта такімі сродкамі і мяркуе міністэрства інфармацыі дасягаць задазенных 75 працэнтаў. Ніна Раеўская, намеснік загадчыка аддзела электронных СМІ Мініфнармацыі абвясціла сяроды іншага пра стварэнне адмысловага прадзюсарскага цэнтра, мэтай якога будзе творчая дапамога беларускім музыкам. У адным інтэрв'ю яна заўважыла: «Неабходна, каб у радыёэфіры гучала 30—40 новых беларускіх хітоў штомесяц. І гэта пры тым, што сёння на станцыі паступае толькі 2-3».

Нельга сказаць, што беларуская поп-музыка знаходзіцца ў заняпадзе. Шэраг праектаў апошніх гадоў (гурт «Краскі», «Крамбамбуля», Сяргога, Аляксандра і Канстанцін) даказвае, што беларускія выканаўцы канкурэнтаздольныя не толькі на айчынным рынку. Увядзенне 75-працэнтнай квоты ў любым выпадку створыць для дзеячаў айчыннай поп-культуры спрыяльны клімат. Але апошняе слова — якраз за імі.

****************************************************

## "Amnesty International": Пасьля рэфэрэндуму сытуацыя ў Беларусі пагоршылася

*Міжнародная праваабарончая арганізацыя "Amnesty International" выдала адмысловае паведамленьне, у якім канстатуе істотнае пагаршэньне сытуацыі з правамі чалавека ў Беларусі пасьля кастрычніцкіх выбараў і рэфэрэндуму. "Amnesty International" таксама нагадвае, што Расея ў Арганізацыі аб'яднаных нацыяў заблякавала абмеркаваньне сытуацыі ў Беларусі.*

На думку міжнароднай праваабарончай арганізацыі, свабода выказваньняў, крытыка ўладаў робіцца ў Беларусі ўсё больш небясьпечнай справай.

У паведамленьні "Amnesty International" прыгадваюцца выпадкі перасьледу за крытыку: прыцягненьне Гары Паганяйлы да крымінальнай адказнасьці за інтэрвію швэдзкай тэлевізіі, абвінавачваньне Анатоля Лябедзькі ў паклёпе на прэзыдэнта, прыпыненьне выхаду гарадзенскай газэты "Біржа інфармацыі" і накладаньне штрафу на яе рэдактара Алену Раўбецкую, адміністрацыйны арышт журналіста Паўла Мажэйкі, выклік у пракуратуру журналісткі Ірыны Халіп.

У паведамленьні "Amnesty International" адзначаюцца жорсткія дзеяньні міліцыі супраць удзельнікаў мірных маніфэстацыяў пратэсту супраць фальсыфікацыі выбараў і рэфэрэндуму, зьбіцьцё Анатоля Лябедзькі, адміністрацыйныя арышты і штрафы 40 удзельнікаў гэтых акцыяў пратэсту.

Міжнародная праваабарончая арганізацыя заклікае міжнародную супольнасьць учыняць ціск на беларускія ўлады, каб прымусіць іх спыніць парушэньне правоў чалавека.

****************************************************

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## "Выбранае" Анатоля Бярозкі

Нядаўна выйшла ў Менску ніга "Анатоль Бярозка "Выбранае". Кнігу выдаў фонд А. Белага "Спадчына". Гэтая кніга пра літаратурны і грамадзкі даробак А. Бярозкі — Др. Мацьвея Смаршчка, які жыве ў ЗША, выдана ў прыгожым афармленьні і падборы цікавых вершаў, тэкстаў і фотаграфіяў. 193 стр. Віншуем!

****************************************************

## Чыноўнік Мінюсту, які адказны за закрыццё грамадскіх арганізацый, зышоў у адстаўку

*Днямі стала вядома, што Міхаіл Сухінін пакінуў пасаду кіраўніка Ўпраўлення грамадзкіх аб'яднаньняў Міністэрства юстыцыі. Міхаіл Сухінін займаў пасаду кіраўніка Ўпраўлення грамадзкіх аб'яднаньняў з моманту стварэньня гэтай структуры. Амаль дзесяць год ён кіраваў органам, які ажыцьцяўляў рэгістрацыю і кантроль за дзейнасьцю грамадзкіх аб'яднаньняў і палітычных партыяў. Гэты час умясьціў у сабе розныя стадыі стасункаў паміж дзяржавай і структурамі грамадзянскай супольнасьці: ад пэрыяду актыўнага стварэньня грамадзкіх аб'яднаньняў у пачатку 90-х гадоў, да пазьнейшых працэсаў рэпрэсіўнай перарэгістрацыі, масавай ліквідацыі недзяржаўных арганізацыяў і фармаваньня неспрыяльнага клімату для структураў грамадзянскай супольнасьці.*

Міхаіл Сухінін вядомы як асьцярожны і ўзважаны дзяржаўны службоўца. Менавіта гэтыя асабістыя якасьці і адпаведны імідж дапамог яму такі працяглы час утрымацца на гэтай адказнай пасадзе, якая патрабуе выдатнага пачуцьця палітычнай атмасфэры, поўнай ляяльнасьці да кіроўнага рэжыму і чуйнасьці да грамадзка-палітычнай атмасфэры.

Падставай для сыходу ў адстаўку высокага дзяржаўнага службоўца стала дасягненьне ім пэнсійнага ўзросту: у лістападзе бягучага года Міхаіл Сухінін адзначыў 60-годзе.

Цяпер абавязкі кіраўніка ўпраўленьня грамадзкіх аб'яднаньняў Міністэрства юстыцыі выконвае Алег Сьліжэўскі, загадчык аддзела палітычных партыяў упраўленьня грамадзкіх аб'яднаньняў, паведамляе www.belngo.info.

****************************************************

## У ВАРШАВЕ АДБЫЎСЯ СХОД "ЗЬВЯЗУ НА КАРЫСЬЦЬ ДЭМАКРАТЫІ Ў БЕЛАРУСІ"

20 лістапада ў Варшаве прайшоў сход грамадзкай арганізацы "Зьвяз на карысьць дэмакратыі ў Беларусі", сябры якога планавалі сваю дзейнасьць на наступны год. Нягледзячы на тое, што "Зьвяз на карысьць дэмакратыі ў Беларусі" - арганізацыя даволі маладая, пра яе ўжо добра ведаюць у Польшчы. Шматлікія акцыі ў падтрымку дэмакратыі ў Беларусі, хэпэнінгі, канфэрэнцыі, беларускія канцэрты й дыскатэкі паказалі, што сябры Зьвязу сур'ёзна зацікаўленыя пашырэньнем у Польшчы ведаў аб сытуацыі ў Беларусі і беларускай культуры.

Пра пляны на наступны год гаворыць намесьнік старшыні "Зьвязу на карысьць дэмакратыі ў Беларусі" Антось Цялежнікаў.

"Сёлета мы пачалі цыкл канцэртаў "Беларуская музычная партызанка", які выклікаў вельмі вялікую зацікаўленасьць у Польшчы. Думаем пашырыць гэтыя канцэрты на рэгіёны Польшчы. Важныя таксама інфармацыйныя мерапрыемствы - канфэрэнцыі з выкарыстаньнем мультымэдыйных сродкаў. Каб людзі маглі ўявіць, якая беларуская сытуацыя насамрэч. Інфармаваньне палякаў вельмі важнае. Хочам таксама знайсьці добраахвотнікаў, якія хацелі б працаваць з намі разам на карысьць дэмакратычных зьменаў у Беларусі". Цікава, што цягам гэтага году ў "Зьвязу на карысьць дэмакратыі ў Беларусі" зьявіліся рэгіянальныя аддзяленьні ў Кракаве, Познані, Вроцлаве й Лодзі.

****************************************************

# «Вялікае Княства Літоўскае» вяртаецца на Беларусь...

**СЬВЕТАГЛЯД**

...у выглядзе энцыклапедыі

З галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» Генадзем Пашковым мы сустракаліся і гутарылі не аднойчы. І заўсёды ў Генадзя Пятровіча на стале ляжала некалькі новых кніг, якімі ён хацеў (і меў на тое ўсе падставы) пахваліцца. Мінулым разам, напрыклад, ён паказваў мне проста шыкоўнае выданне «Жывапіс барока Беларусі» і двухтомнік «Тэатральная Беларусь» (забягаючы наперад, скажу, што гэта выданне вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі). Цяпер я ішла і разважала, чым жа мяне здзівіць шаноўны галоўны гэтым разам, і як гэта будзе ўвязаць з першым пытаннем, якое рыхтавала да яго даўно, яшчэ з лета. Хутчэй не пытанне нават, а праблему, якую хацелася абмеркаваць. Сёлета выдавецтва завяршае свой пасапраўднаму грандыёзны праект — выданне 18-томнай універсальнай «Беларускай энцыклапедыі». Але ўжо зараз чуюцца галасы крытыкі ў адрас гэтага выдання, якім мы па праву можам ганарыцца — Беларусь першая з краін былога Саюза завяршае выпуск уласнай поўнай энцыклапедыі (тут яшчэ можна дадаць і тое, што ні адна былая саюзная рэспубліка не мае свaёй гістарычнай энцыклапедыі, а ў нас ужо ёсць — у шасці тамах)...

Зрэшты, вернемся да крытыкі, пра гонар пагаворым ніжэй. Літаральна некалькі месяцаў таму выдавецтва публічна — на старонках «ЛіМа»— вымушана было «адбівацца» ад нападак аднаго навукоўца, які палічыў, што на старонках энцыклапедыі вельмі мала месца адведзена артыкулу пра народ, які жыў на Беларусі спрадвеку, і ў даволі рэзкай форме (таксама публічна) абвінавашіў стваральнікаў энцыклапедыі ледзь не ў шавінізме. На што супрацоўнікі выдавецтва спакойна і падрабязна тлумачылі шаноўнаму, што ёсць пэўныя нормы, правілы напісання энцыклапедычных артыкулаў, што яны кіраваліся толькі гэтым, а не нейкімі там уласнымі прыхільнасцямі ці антыпатыямі. Канфлікт быў, здаецца, вычарпаны, але непрыемны асадак у энцыклапедыстаў, думаю, застаўся. Як і пастаяннае ўсведамленне верагоднасці таго, што падобныя прэтэнзіі — не апошнія, што знойдуцца яшчэ незадаволеныя, якія будуць пісаць, гаварыць, абуpацца...

Я, калі дамаўлялася на сустрэчу, нічога пра гэтыя свае думкі спадару Пашкову не казала. Але... Ці то ён угадаў, ці то праблема гэта і яму спакою не дае?.. Як бы там ні было, Генадзь Пятровіч мяне, па традыцыі, сустрэў з энцыклапедыяй, але... амерыканскай. Яна у іх «Кніга Свету» называецца. І паказваў ён мне ў ёй... вялізны артыкул пра Гітлера. Пры гэтым разважаючы:

— Сапраўдная пакута для энцыклапедыстаў — калі аўтары бяруцца крытыкаваць, падыходзячы да ацэнкі энцыклапедыі з дапамогай радкамера: таму аддалі больш радкоў, таму — менш. Мы ж працуем зусім па іншаму прынцыпу: што ні чалавек, што ні з'ява — то свая біяграфія. У кагосьці яна была больш насычаная падзеямі, у кагосьці — менш. А хто гэты «хтосьці» — геній або злодзей — гэта ўжо другасна. У энцыклапедыі павінна быць месца і аднаму, і другому. Энцыклапедыя — не дошка гонару, яна — поўны даведнік. Вось у амерыканскім выданні Адольфу Гітлеру адведзена значна больш месца, чым камусьці з амерыканскіх жа прэзідэнтаў. Але гэта не значыць, што амерыканцы так любяць Гітлера. Проста яны стварылі поўны партрэт вялікага разбуральніка, які ўвайшоў у гісторыю. І гэта правільна і апраўдана. Абвінавачванне ў прадузятасці, у прыхільнасці або, наадварот, непрыязі — самае крыўднае, для тых, хто робіць энцыклапедыю. Мы даём толькі факты. Высновы чытач павінен рабіць сам...

— Зразумела, што падабацца ўсім проста немагчыма. Але калі падобныя нападкі адбіваюцца яшчэ і на фоне заканчэння вялікай працы, на якую пакладзена столькі гадоў, а пасля яе завяршэння — невядомасць, наогул сумная карціна атрымліваецца...

— Так, канешне, сум ад таго, што вялікая, значная праца набліжаецца да завяршэння, крышку ёсць. Але сумаваць няма калі, гэтаксама як і звяртаць асаблівую ўвагу на падобныя прэтэнзіі. У нас ёсць планы на дзесяць гадоў наперад і яны пачалі рэалізавацца. Сёлета выйдзе першы том «Чырвонай кнігі Беларусі». Рыхтуецца да выхаду першы том двухтомнай энцыклапедыі «Вялікае Княства Літоўскае». Пачынаецца рэалізацыя надзвычай важнага цікавага праекта — пятнаццацітомнай энцыклапедыі «Гарады і вёскі Беларусі». Гэта будзе сапраўды унікальнае выданне, падобнае мела толькі Украіна яшчэ за савецкім часам, яно тады атрымала дзяржаўную прэмію Саюза. Ужо сёлета і ў нас выйшаў першы том, прысвечаны Гомельскай вобласці. Упершыню ў адным выданні будуць сабраныя ўсе населеныя пункты нашай краіны, якія калі-небудзь існавалі на нашай зямлі, напісана іх гісторыя. Нават тых, якіх ужо няма. Мы працавалі над гэтым выданнем сумесна з Інстытутам этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі. А перад гэтым хутка пабачыць свет (ужо здадзены ў друк) аднатомны энцыклапедычны даведнік «Рэспубліка Беларусь: вобласці і раёны». Гэта кніга на беларускай мове, але найбольш важная інфармацыя пададзена яшчэ на рускай, англійскай і нямецкай мовах, каб яна магла стаць дапаможнікам для ўсіх, хто цікавіцца нашай краінай, яе гісторыяй, гісторыяй яе паселішчаў... Хаця яна, канешне, не заменіць пятнаццацітомнае поўнае выданне... А яго зацікаўленым чытачам давядзецца збіраць некалькі гадоў, бо за год ці за два усе пятнаццаць тамоў выдаць немагчыма... Рыхтуецца «Энцыклапедыя беларускага фальклору» ў двух тамах, першы том выйдзе ў наступным годзе. Ужо складзены слоўнікі для энцыклапедыі «Кіно Беларусі». Яна будзе прысвечана не толькі беларускаму кіно і працы «Беларусьфільма», але і акцёрам, рэжысёрам, сцэнарыстам з іншых краін, якія мелі нейкае да нашага кіно дачыненне, працавалі на яго...

— Спачатку «Тэатральная Беларусь», пасля «Кіно Беларусі»... Можа, гэта становіцца добрай традыцыяй, і ў хуткім часе мы пачуем пра выданні «Мастакі Беларусі», «Пісьменнікі Беларусі»...

— Сапраўды, наконт «Пісьменнікаў Беларусі» мы нешта нават ужо прыкідвалі. Але перш за ўсё ў нас выйдзе энцыклапедыя «Сусветная літаратура» на базе універсальнай 18-томнай. Будуць агульныя артыкулы пра літаратуру той ці іншай краіны і асобна будуць пададзены звесткі пра самых яскравых прадстаўнікоў нацыянальнага прыгожага пісьменства. Але гэта пакуль планы... Так што, як бачыце, планы ёсць, работа ёсць — вельмі цяжкая і карпатлівая работа, хачу зазначыць... Пакуль ёсць дзяржава, пакуль ёсць дзяржаўная падтрымка, мы, я ўпэўнены, без справы не застанемся. А рэальная падтрымка — гэта фінансаванне нейкіх буйных праектаў. Ні ў адной краіне энцыклапедычнае выдавецтва без дзяржаўнай падтрымкі існаваць не можа.

— Пасля выдання універсальнай «Беларускай савецкай энцыклапедыі» у 70-я гады мінулага стагоддзя амаль адразу выйшла пяцітомная энцыклапедыя «Беларуская ССР», прысвечаная іменна Беларусі, прычым у двух паралельных варыянтах — на беларускай і на рускай мове. Вы не збіраецеся прадоўжыць традыцыю?

— Пачынаецца праца над 6-томнай энцыклапедыяй «Рэспубліка Беларусь». Мы спадзяёмся і адчуваем, што міністэрства інфармацыі нас у гэтым падтрымлівае. Новае выданне, канешне, будзе адрозніваецца ад папярэдняга і напаўненнем, і пабудовай, яно ні ў якім разе не будзе паўтараць і новую універсальную энцыклапедыю. Гэта выданне будзе ўтрымліваць самыя поўныя звесткі пра нашу краіну — пра яе гісторыю, культуру, эканоміку, прыроду, карацей, пра усё. Яно будзе ажыццяўляцца на рускай мове.

— Чаму іменна на рускай?

— З мэтай эканоміі, калі неабходна выбіраць, які варыянт выдаваць, мы спыніліся на рускамоўным. У такім выпадку гэта энцыклапедыя пойдзе за межы нашай дзяржавы і стане своеасаблівым пашпартам. На кніжнай выставе ў Маскве я нядаўна размаўляў з прадстаўнікамі нашага пасольства ў РФ, яны паабяцалі дапамагчы нам у прапагандзе і распаўсюджванні гэтага выдання ў суседняй дзяржаве. Рашэнне амаль прынята, таму праца над энцыклапедыяй актыўна вядзецца.

— І ўсё ж, калі мець на ўвазе «пашпарт», можа, лепш было б яго выдаць па-англійску?

— Шасцітомнік, бадай што, не варта на англійскай выдаваць. А што трэба выдаць добры, талковы энцыклапедычны даведнік пра Беларусь і на англійскай, і на нямецкай, і на французскай мове, — у гэтым ёсць рацыя. Але тут праблема з перакладчыкамі: яны павінны валодаць не толькі замежнымі мовамі, але і дасканалымі ведамі ў той ці іншай галіне, і філалагічнымі здольнасцямі, каб гэтыя веды нармальна выказаць на старонцы...

— «Чырвоная кніга Беларусі», пра якую вы згадалі, — гэта ж перавыданне?

— Гэта ніякім чынам не перавыданне! За час, які мінуў з выхаду папярэдняга выдання, у прыродзе многае змянілася — некаторыя прадстаўнікі беларускай флоры і фауны перасталі быць пад пагрозай знікнення, іншыя наадварот — трапілі ў трывожныя спісы. Самыя найноўшыя звесткі будуць у новай «Чырвонай кнізе»...

— Энцыклапедыя «Вялікае Княства Літоўскае», несумненна, зацікавіць масавага чытача ў Беларусі. А як, вы мяркуеце, да яе выдання паставяцца нашы суседзі, літоўцы, з якімі гісторыя гэтай дзяржавы ў нас агульная?

— Калі нашы літоўскія калегі пачулі пра тое, што мы збіраемся выдаваць падобную энцыклапедыю, вялася нават размова аб тым, каб рабіць яе сумесна. Але мы рашылі, што такая энцыклапедыя павінна ў нас быць свая. Тут і моўны бар'ер, і мяжа, і, што ўтойваць, — успрыманне гістарычнай рэчаіснасці, погляд на яе...

— Выходзіць, калі падобнае выданне выйдзе ў Літве, яно будзе істотна адрозніваецца ад нашага. А як жа тады аб'ектыўная праўда і непрадузятасць, якую спавядаюць энцыклапедысты?

— Так, сапраўды, у нечым, напэўна, гэтыя выданні будуць адрозніваюцца. Што ж, у нас будзе наша непрадузятасць і наша праўда, у іх — іхняя...

— Ці вялікі тыраж гэтага выдання паступіць у продаж?

— Першы том выходзіць сёлета, другі — на наступны год. У абодвух наклад тры тысячы. Тысяча пойдзе на бібліятэкі, дзве — у продаж. Зразумела, гэта мала, і набыць кнігу змогуць не ўсе жадаючыя. Але і тут усё ўпіраецца ў фінансы. Выйсце ёсць: перанесці выданне (не толькі гэта, але напрыклад, і першыя тамы універсальнай энцыклапедыі, якія ўжо сталі бібліяграфічнай рэдкасцю) на электронныя носьбіты, на дыскі. Але гэта патрабуе адаптацыі, падрыхтоўкі і вядома ж, адпаведнай тэхнічнай базы. Час дыктуе свае ўмовы, і мы ўсё роўна рана ці позна вымушаны будзем да гэтага прыйсці. Ва ўсякім разе, большасць выдадзеных у «Беларускай энцыклапедыі» кніг вартая, каб з'явіцца і ў электронных носьбітах, стаць тым самым больш даступнай для чытачоў...

Гутарыла Алена ЛЯЎКОВІЧ. /Звязда/

# Тайна Крыжа Ефрасінні

У ліпені 1941 года, калі фашысцкія войскі імкліва прасоўваліся на ўсход, акупіраваўшы ўжо значную частку Беларусі, з Магілёўскага краязнаўчага музея эвакуіравалі найбольш каштоўныя экспанаты. Самым дарагім з іх быў, безумоўна, Крыж Ефрасінні Полацкай — галоўная хрысціянская рэліквія Беларусі... Гэта быў апошні раз, калі пра яго гаварылі як пра рэч рэальна існуючую. З тых часоў крыж знік. І па сённяшні дзень, разам са знакамітым Бурштынавым пакоем, ён застаецца адным з каштоўнейшых помнікаў гісторыі і культуры, страчаных падчас Вялікай Айчыннай.

ПРОСТА ТАК знікнуць крыж не мог. Вельмі дарагі ён не толькі з пункту гледжання духоўнага, гістарычнага, але і матэрыяльнага. Мяркуйце самі: кіпарысавае дрэва, залатыя пласціны з каштоўнымі камянямі, бясцэнныя эмалі дванаццатага стагоддзя — сапраўды ювелірны шэдэўр. Безумоўна, менавіта на гэта пакваплiліся тыя, хто крыж да рук прыбраў. Аб яго духоўнай каштоўнасці для беларускага народа новы гаспадар (або гаспадары) наўрад ці ведаюць і задумваюцца. Цалкам верагодна, не ведае ён і сэнсу напісаных на крыжы старaславянскай вяззю слоў. А гэта ж не што іншае, як праклён. У перакладзе на сучасную рускую ён гучыць прыблізна так: «Древо святое бесценное... и пусть не выносят его из монастыря никогда, и не продают, и не отдают. Если же не послушается кто и вынесет из монастыря, пусть не поможет ему святой крест ни в этой жизни, ни в будущей...»

Хто напісаў гэтыя словы — невядома. Магчыма, сам майстар, які вырабіў крыж у 1161 годзе, палачанін Лазар Богша. А можа, сама святая Ефрасіння Полацкая, па чыйму слову і быў створаны крыж, загадала выразаць на ім гэтыя словы. Каб ніхто не вынес яго з роднай зямлі, бо крыж быў святыняй Полацка. Менавіта для Полацка, для яго духоўнай абароны даслалі ігумені Ефрасінні з Візантыі кавалачак іншага Крыжа — самага галоўнага, з кроплямі крыві Збавіцеля на ім. Для гэтай бясцэннай рэліквіі яна і замовіла ювеліру Богшу дастойнае «сховішча». Па задумцы святой, крыж павінен быў вечна «жыватварыць» душы палачан і ўсіх жыхароў роднай зямлі. Ён не толькі духоўны сімвал — ён сімвал дзяржаўнасці старажытнай Беларусі, пакінуты нашчадкам першай усходнесла- вянскай святой.

Ці то дзейнічаў праклён, напісаны на крыжы, ці то нікому нават думка не прыходзіла аб тым, што можна гарадскую святыню кудысьці вывезці, але за ўсю сваю шматвекавую гісторыю крыж пакідаў Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр у Полацку, дзе захоўваўся з самага пачатку, усяго двойчы. Першы раз у XIV стагоддзі яго забралі з Полацка смаленскія князі, а праз некалькі гадоў ён апынуўся ў царскай казне вялікага князя Маскоўскага Васілія III. Аднак яго сын, Іван Грозны, як ні дзіўна, вярнуў крыж на месца. На думку адных гісторыкаў, ён зрабіў гэта, спалохаўшыся слоў праклёну, іншыя мяркуюць, што вяртанне крыжа было ўмовай абяцання, дадзенага царом перад паходам на Полацк («калі ўдасца захапіць горад — вярну крыж»), трэція вылучаюць версію аб тым, што такім чынам цар-вар'ят хацеў хоць крыху загладзіць віну перад Богам — яго стральцы выразалі ўвесь Полацк: летапісы сведчаць, што «Полота была белая от тел, а Двина — красная от крови». Апошняя версія гучыць не вельмі пераканаўча: даволі цяжка ўявіць Івана Грознага, які каецца ў сваіх дзеяннях...

Крыж спакойна знаходзіўся там, дзе яму і належала, амаль пяцьсот гадоў — да 1917-га. Паслярэвалюцыйнае цемрашальства не пакінула ў душах многіх веры ў Бога. У варвараў паднялася рука нават адчыніць раку з мошчамі святой Ефрасінні. А крыж для іх быў усяго толькі дарагой рэччу. Яго з манастыра вывезлі як «дзяржаўную каштоўнасць» і змясцілі ў пакоі-сейфе

краязнаўчага музея ў Магілёве. Там ён і захоўваўся да свайго злашчаснага «падарожжа» ў 41-м...

АБ ТЫМ, ШТО КРЫЖ трэба паспрабаваць знайсці, многія дзеячы беларускай культуры гаварылі адразу пасля вайны. Аднак іх галасы гучалі нязладжаным хорам і пачуты фактычна не былі. У пачатку 90-х гадоў пра Крыж Святой Ефрасінні загаварылі зноў, на гэты раз больш аргументавана і ўпэўнена. Беларусь стала незалежнай дзяржавай, і што магло стаць лепшым сімвалам адраджэння духоўнасці і культуры народа, як не вяртанне страчанай святыні? Прыкладалася нямала намаганняў, каб знайсці хаця б ніць, якая вядзе да крыжа. Аднак ніцяў, аднолькава верагодных, аказалася шмат, і ніводная з іх пакуль да святыні не прывяла. Тое, што крыж «асеў» дзесьці ў прыватных калекцыях — хаця і не бясспрэчна, але вельмі праўдападобна. Толькі вось дзе? Верагодная геаграфія яго месцазнаходжання — увесь свет... А калі нават шукальнікі і наткнуцца на дакладны след — хто ж з калекцыянераў прызнаецца, што крыж у яго? Каб прымусіць яго гэта зрабіць, трэба ведаць дакладна. А як дакладна ведаць, калі некалькі зусім розных версій — аднолькава рэальныя?..

Паводле адной з іх, крыж разам з іншымі каштоўнасцямі з магілёўскага музея даехаў толькі да Смаленска. Там яго захапілі немцы, і беларуская святыня трапіла ў сховішчы сумна вядомага ведамства Розенберга. Калі кіравацца гэтым меркаваннем, крыж або па сённяшні дзень знаходзіцца ў Германіі ў якой-небудзь прыватнай калекцыі, або ён быў вернуты пасля вайны разам з іншымі нарабаванымі каштоўнасцямі краіне-пераможцы. Вярталіся музейныя экспанаты ў Расію, у горад Пушкін, а адтуль ужо размяркоўваліся па саюзных рэспубліках паводле прыналежнасці. Вядома, што ў Беларусь было адпраўлена тады два вагоны. Але што ў іх было і — галоўнае — куды знікла іх змесціва, даведацца да гэтага часу не ўдалося. Цалкам верагодна, што сярод вернутых каштоўнасцяў быў і Крыж Ефрасінні. Разам з астатнімі скарбамі яго маглі прыбраць да рук беларускія партыйныя босы. Аднак гэта толькі больш ці менш лагічныя здагадкі: ніякіх дакументальных пацвярджэнняў яны не маюць.

Другая версія здаецца шукальнікам крыжа больш прывабнай. Крыж у 41-м усё ж даехаў да Масквы. І ўжо там на яго паклаў вока хтосьці з партыйных кіраўнікоў, якім прысвоіць яго нічога не каштавала. Захаваліся нават успаміны сведак аб тым, што Лаўрэнцій Берыя, вядомы як знаток рэдкіх рэчаў, не мог схаваць свайго захаплення, калі прыбылі эвакуіраваныя каштоўнасці з Беларусі. Ёсць яшчэ адно ўскоснае сведчанне таго, што крыж да Масквы ўсё-такі давезлі. Выступаючы на пасяджэнні ЦК партыі ў 1943 годзе, кіраўнік БССР Панамарэнка на чыюсьці заўвагу, што ў беларусаў няма нічога свайго, парыраваў тым, што ў беларусаў ёсць Францыск Скарына і яго кнігі і Крыж Ефрасінні Полацкай. Значыць, у 43-м ён гаварыў пра крыж як пра рэальна існуючы. Калі дадаць яшчэ, што ён сам за эвакуацыю каштоўнасцяў «адказваў», то ўсё выглядае больш чым праўдападобна.

У гэтым выпадку геаграфіяй пошуку сапраўды становіцца ўвесь свет. Крыж мог трапіць у рукі расійскага калекцыянера. Ён мог стаць прадметам якога-небудзь важнага дзяржаўнага абмену, а потым перайсці ў запаснікі амерыканскіх, англійскіх, іншых калекцыянераў і музеяў. Нядаўна беларускія даследчыкі з адпаведным запытам звярнуліся ў амерыканскі фонд вядомага калекцыянера Перпонта Моргана. Ён цікавіўся падобнымі рэчамі, пасля вайны скупліваў каштоўнасці па ўсёй Еўропе. У фондзе захоўваюцца чэшскія, нямецкія крыжы, падобныя на беларускі і па часу вырабу, і па стылістыцы. Аднак Крыжа Ефрасінні Полацкай сярод іх няма. Ва ўсякім разе, так было сказана ў афіцыйным адказе. Праўда, было дабаўлена, што крыж не выяўлены толькі ў фондзе, а за астатнія зборы сп. Моргана фонд адказнасці не нясе. Такая прывабная нітачка абарвалася, так і не разматаўшыся да канца...

Некаторыя даследчыкі лічаць, што крыж маглі і не вывозіць з Магілёва, а схаваць яго або ў самім горадзе, або ў наваколлі. Потым той, хто хаваў, загінуў у пажары вайны, а тайнік так і застаўся невядомым. Але шукаць яго, не маючы нават намёку на які-небудзь план, можна з тым жа вынікам, як шукаюць ужо каторы год легальныя і «чорныя» археолагі скарбы Напалеона. Вядома ж, што, адступаючы, ён кінуў нарабаванае на тэрыторыі Беларусі. А вось дзе дакладна — да гэтага часу застаецца загадкай.

І нарэшце, самая неверагодная, але такая прывабная версія: крыж ніколі не пакідаў Полацка і да гэтага часу знаходзіцца там. Прафесар Адам Мальдзіс, адзін з самых стараннах шукальнікаў крыжа, лічыць гэту версію не такой ужо і неверагоднай. Ён узгадвае словы аднаго з самых адукаваных людзей Беларусі, вядомага вучонага першай паловы XX стагоддзя Вацлава Ластоўскага, які ў апісанні крыжа пасля яго канфіскацыі з манастыра піша аб тым, што крыж зроблены з дубу. Але ж вядома, што крыж кіпарысавы. Няўжо вучоны памыліўся? А можа, у руках у яго была па-майстэрску выкананая копія? Цалкам верагодна, святары і манашкі, даведаўшыся аб тым, што крыж збіраюцца забраць, зрабілі яго копію, а саму святыню схавалі да лепшых часоў. Потым усе, хто хаваў, памерлі, а крыж застаўся ў нікому не вядомым сховішчы чакаць свайго часу.

НЕКАЛЬКІ ГАДОЎ назад пры непасрэднай падтрымцы беларускай дзяржавы Крыж Ефрасіньні Полацкай быў адноўлены брэсцкім майстрам Мікалаем Кузьмічом па апісаннях і фотаздымках, якія захаваліся. Дакладная копія святыні была асвечана праваслаўнай царквой. Нядаўна крыж на некалькі дзён прывозілі з Полацка ў Мінск, каб і жыхары сталіцы маглі яму пакланіцца. Людзі стаялі ў доўгай чарзе, каб пацалаваць галоўную духоўную каштоўнасць краіны.

Аднак копія, няхай і дакладная, няхай і асвечоная, усё роўна застаецца копіяй. Нядзіўна, што пошукі гэтага крыжа працягваюцца. І будуць працягвацца да тых часоў, пакуль будзе хоць бы самая найменшая верагоднасць таго, што ён дзесьці існуе. Людзі, якія шукаюць яго, вераць, што ён знойдзецца. Што гэта будзе знак зверху аб тым, што мы сталі такімі, якімі нас марыла бачыць нябесная апякунка Беларусі — святая Ефрасіння Полацкая.

Эмілія ШЭЛЕСТ. /Звязда/

*************************************************************

# УСХОДНЯЕ ВЫМЯРЭНЬНЕ ПОЛЬСКАЙ ЗАМЕЖНАЙ ПАЛІТЫКІ

**Апошнім часам мы зьяўляемся сьведкамі важных палітычных падзеяў у Беларусі, але перш за ўсё ва Ўкраіне. Як далей будзе выглядаць хада падзеяў і якую ролю у гэтым можа адыграць Польшча?** З гэтым пытаньнем мы зьвяртаемся да экспэртаў.

Гэта:

**Эва Фігель** – кіраўнік аддзелу краінаў Усходняй Эўропы Міністэрства Замежных Справаў,

**Якуб Баратыньскі** – дырэктар міжнародных праграмаў Фундацыі Стэфана Баторыя,

**Войцех Бародзіч-Смаліньскі** – аналітык Цэнтру Міжнародных Адносінаў.

**Днямі дарадца прэзыдэнта Польшчы Станіслаў Цёсэк сказаў пра Ўкраіну: "Мы шмат гаварылі, але эўрапейскія салёны нас ня слухалі." Ці цяпер эўрапейскія салёны прыслухоўваюцца да польскага голасу? Ці польскае пасярэдніцтва ў перамовах можа прычыніцца да завяршэньня ўкраінскага канфлікту?**

**Э.Фігель:** Я думаю, што ў дадзены момант згаданы канфлікт памяняў напрамак. Яшчэ ў панядзелак і аўторак нам здавалася, што польскае пасярэдніцтва ў перамовах ці пасярэдніцтва міжнародных прадстаўнікоў можа значна спрычыніцца да вырашэньня сытуацыі, зь якой пакуль што ня бачна выйсьця, што гэта можа давесьці да паразуменьня паміж блёкамі абодвух кандыдатаў. У дадзены момант, калі дэманстрацыі працягваюцца ўжо некалькі дзён, ацэнка сытуацыі крыху мяняецца, бо надалей вырашальным будзе пытаньне ўнутранай развязкі канліфкту, зразумела, з пэўнымі элемэнтамі і ўплывамі звонку. Тут я маю на ўвазе пасярэдніцтва ці то Польшчы, ці то іншых дзяржаваў, напр. апошнім часам гаворыцца пра Летуву як арбітра. Тым ня менш вырашальны голас належыць да штабаў абодвух кандыдатаў, і ў першую чаргу да прэзыдэнта Кучмы.

**Украінская апазыцыя пакуль ня хоча размаўляць з прэм'ерам Януковічам, які выказаў гатовасьць да дыялёгу.**

**Э.Фігель:** Я думаю, што прэм'ер Януковіч выказаў гатовасьць да дыялёгу, але пры ўмовах, на якія ня можа пагадзіцца апазыцыйны бок, бо ён хоча размаўляць з пазыцыі пераможцы ў выбарах. Другі бок не прыймае гэтых вынікаў выбараў, а таму няма супольнай плоскасьці дзеля паразуменьня. На мой погляд, адзіная магчымасьць дзеля паразуменьня – гэта калі абодва бакі прызнаюць вынікі выбараў несапраўднымі й вырашаць правесьці выбары яшчэ раз пры захаваньні дэмакратычных працэдураў.

**Мы гаворым пра значэньне польсага пасярэдніцтва ў перамовах, зьвязаўскага. А якую ролю ў сёньняшняй сытуацыі ва Ўкраіне адыгрывае Расея?**

**Я.Баратыньскі:** Пазыцыю Расеі мы бачылі ў першую чаргу перад выбарамі. Два візыты прэзыдэнта Пуціна выразна паказалі, па якім баку сымпатыі. Я думаю, што ў дадзены момант, насуперак агульнаму перакананьню, Расея не мае аж такога значнага ўплыву на сытуацыю ва Ўкраіне. Гэтыя крокі будуць абцяжарваць у першую чаргу рахунак Кучмы. Хоць, несумненна, расейскі фактар аказаў уплыў.

А што тычыцца пасярэдніцтва ў перамовах, то ім у значнай ступені можа перашкодзіць – асабліва з боку апазыцыі – моцнае жаданьне перамагчы ў гэтай бітве. Магчымасьці перамоваў значна пашыраца тады, калі ня будзе бачна выйсьця з дадзенай сытуацыі. А пакуль што апазыцыя разьлічвае на тое, што ўсё больш прадстаўнікоў уладных структураў будзе пераходзіць на іхны бок, што наступіць ланцуговая рэакцыя, у выніку якой адбудзецца мірнае пераняцьцё ўлады апазыцыяй. Тое, на што моцна зьвяртае ўвагу Эўразьвяз ды ўвесь дэмакратычны сьвет – гэта пазьбяганьне сілавых крокаў з боку ўлады. Калі ўлада адважыцца выкарыстаць сілу, то яна мусіць спадзявацца санкцыяў. Гэта той рэальны ўплыў, які міжнародная грамадзкасьць можа мець на сытуацыю ва Ўкраіне.

**Некаторыя гавораць, што ва Ўкраіне адбываецца рэвалюцыя ружаў, хоць да канца невядома, ці так, бо сытуацыя вельмі хутка мяняецца. Такі спосаб пераняцьця ўлады становіцца папулярны на прасторы постсавецкіх ці посткамуністычных дзяржаваў, а прыгадайма прыклад Грузіі ці Сэрбіі. Ці рэвалюцыя руж можа адбыцца ў Беларусі, асабліва, калі ўлічыць пасыўнасьць беларускага народу ды слабасьць апазыцыі?**

**В.Бародзіч-Смаліньскі:** Паўстае пытаньне, хто такую рэвалюцыю меў бы правесьці? Калі сама апазыцыя без падтрымкі беларускага народу, то тады такая рэвалюцыя ня будзе мець сэнсу. Тады гэта будзе выглядаць больш-менш так, як выглядалі дэманстрацыі 18 і 19 кастрычніка ў Менску. Як усе мы бачылі, ужо 20 кастрычніка дэманстрацыя не сабрала паўтары тысячы чалавек, а толькі каля 50-60. Такім чынам, у сытуацыі, пакуль беларускі народ не абудзіцца так, як абудзіўся ўкраінскі народ, нельга гаварыць пра перамены.

**Чаму беларуская апазыцыя ня ў стане вывесьці масы людзей на вуліцы так, як у Кіеве? А яшчэ некалькі гадоў назад на дэманстрацыі ў Менску выходзіла па некалькі дзесяткаў тысяч асоб. Сёньня гэта ледзьве 3 тысячы. Можа сапраўды беларускай апазыцыі аплачваецца, каб Аляксандар Лукашэнка заставаўся пры ўладзе?**

**В.Бародзіч-Смаліньскі:** Праўдападобна, справа ў тым, што беларуская апазыцыя ня мае такой сеткі СМІ, якая ёсьць ва Ўкраіне. Зразумела, я тут не гавару, што ва Ўкраіне яна ідэальна разьвітая. Тым ня менш існуюць апазыцыйныя газэты, радыёстанцыі, якія падаюць праўдзівую інфармацыю. У сваю чаргу ў Беларусі апазыцыйныя газэты, калі выходзяць, то вельмі малым накладам, і таму амаль не ўплываюць на тое, што думае грамадзтва. Апрача таго гэтыя газэты трапляюць толькі да тых, хто й так разумее, што ў Беларусі адбываецца нешта дрэннае.

**Тут мы ўжо згадвалі расейскую палітыку, палітыку Эўразьвязу. Тым часам на беларускіх ды ўкраінскіх вэб-сайтах можна прачытаць, што сёньняшняя ўкраінская рэвалюцыя руж ці каштанаў – як некаторыя інакш яе называюць – становіцца спрэчкай паміж Усходам і Захадам, паступова перараджаецца ў новую "халодную вайну". Ці вы верыце ў тое, што гэтая барацьба за палітычныя зоны ўплываў можа перарадзіцца ў "міні-халодную вайну"?**

**Я.Баратыньскі:** На маю думку, няма шанцаў вяртаньня да "халоднай вайны". Дарэчы, найлепш гэта ілюструе выпадак Грузіі. Гэта быў момант пэўнага напружаньня ў першую чаргу ў расейска-амэрыканскіх суадносінах. Але ён не зьмяніў асноўных элемэнтаў міжнароднага ладу, які сфармаваўся за апошнія 15 гадоў.

Калі ва Ўкраіне дойдзе да перамогі Юшчанкі, то гэта, здаецца, будзе больш значная праблема. Але трэба памятаць, што Ўкраіна, нават калі пры ўладзе будзе Юшчанка, не пачне весьці антырасейскай палітыкі. Гэта Расеі не пагражае. А гэты гістэрычны, я б сказаў, упор хутчэй за ўсё абумоўлены неадлучным перакананьнем расейскіх элітаў у тым, што Расея мусіць быць імпэрыяй. Калі браць пад увагу выключна факты, то Ўкраіна пад кіраўніцтвам Юшчанкі ня стане з дня на дзень месцам, дзе ўмацуецца антырасейская палітыка ў дадзеным рэгіёне.

**Э.Фігель:** Я б таксама не дзяліла так радыкальна й аднaзначна на чорнае ды белае, што калі Януковіч – то будзе толькі ўсходняя палітыка, а калі Юшчэнка – то заходняя. Тут будзе дзейнічаць прынцып свайго роду раўнавагі, бо Расея застаецца суседам, таксама як партнэрам застаецца Захад. Зразумела, тэндэнцыі будуць адрозьнівацца. У сваю чаргу, калі паглядзець на сытуацыю ў Расеі, то яна сёньня зьяўляецца непасрэдным наступствам моцнага ўмяшальніцтва ў перадвыбарчы працэс ва Ўкраіне. На маю думку, цяпер у выніку Расея апынулася ў вельмі няёмкай сытуацыі, бо калі будзе выйгрываць кандыдат апазыцыі, то гэта падкрэсьліць слабасьць прапаганды ды ўплыву расейскага фактара на падзеі ва Ўкраіне.

**У размовах зь беларусамі, якія жывуць у Варшаве, выразна чуваць шкадаваньне, што Польшча ў сваёй палітыцы прысьвячае значна больш месца Ўкране, чым Беларусі.**

**Э.Фігель:** Я б не падзяляла гэтага меркаваньня. Гэта адрозная сытуацыя ў выпадку Беларусі ды ў выпадку Ўкраіны. Значна больш дзеяньняў бачна ў выпадку Ўкраіны, бо там сытуацыя разьвіваецца інакш. Назіраецца розная дынаміка пэўных зьяваў. Мы рэалізуем шэраг вельмі канкрэтных дзеяньняў адносна Беларусі, як перад рэфэрэндумам, так і пасьля яго. Асноўным пунктам, зь якога мы выходзім, фармуючы нашую палітыку, зьяўляецца прызнаньне сувэрэнітэту Беларусі. І ўсімі магчымымі спосабамі мы стараемся пазьбягаць разгляду беларускага пытаньня ў кантэксьце суадносін з Расеяй. Для нас гэта незалежная дзяржава са складанай унутранай сытуацыяй, якая тым ня менш надалей утрымлівае сваю незалежнасьць. Беларусь мае сур'ёзныя праблемы. І таксама нам яна стварае вялікія праблемы ў рэалізацыі нашых прапаноў дзеяньняў адносна Беларусі. У сваю чаргу ў коле эўразьвязаўскіх дзяржаваў Польшча зьяўляецца адной зь нешматлікіх краін побач з Прыбалтыкай, якія часта ўзьнімаюць беларускае пытаньне й стараюцца не дапускаць сытуацыі, калі пра Беларусь проста забудуць. У мяне часта складваецца ўражаньне, што шмат краін Заходняй Эўропы стараецца, альбо нават ужо акрэсьліла месца Беларусі ў зоне ўплыву Расеі.

**Здаецца, спадар Бародзіч не падзяляе вашых перакананьняў у справе канкрэтных дзеяньняў адносна Беларусі. Ня так даўно ў тыднёвіку "Polityka" быў апублікаваны артыкул Войцеха Бародзіча-Смаліньскага й Паўла Казанэцкага, у якім аўтары публікацыі абвінавачваюць Міністэрства Замежных Справаў у безьдзейнасьці й абыякавым стаўленьні да лёсу Беларусі.**

**В.Бародзіч-Смаліньскі:** Гэты артыкул быў напісаны яшчэ перад парлямэнцкімі выбарамі. І мы так стараліся апісаць сытуацыю, як яна выглядала на той момант, паводле нас. Агульна кажучы, мы закідвалі Міністэрству Замежных Справаў адсутнасьць празрыстай канцэпцыі адносна таго, што – і якім чынам –польскае МЗС мае падтрымліваць беларускую апазыцыю. З другога боку – хоць можа ў артыкуле не было выразнага націску на гэта – але мы таксама зьвярталі ўвагу на павольнасьць руху МЗСу пры прыняцьці розных рашэньняў, хаця б у выпадку цэлага працэсу набору назіральнікаў за выбарамі ў Беларусі. Да апошняга моманту не было вядома, ці яны ўвогуле паедуць.

**Э.Фігель:** Я б тут хацела зьвярнуць увагу на факт, што дагэтуль Польшча ўвогуле ня ладзіла настолькі вялікай назіральніцкай місіі. Беларусь была першай краінай, адносна якой мы прадпрынялі такога роду дзеяньні. А свайго роду працягам было высланьне вялікай групы назіральнікаў на Ўкраіну. Дагэтуль найчасьцей на розныя назіральніцкія місіі з Польшчы выяжджалі 3-4 асобы.

**Хто будзе прэзыдэнтам Украіны?**

**В.Бародзіч-Смаліньскі:** Прэзыдэнтам Украіны будзе той, каго выбраў украінскі народ. Гэта такі палітычна правільны адказ. Я думаю, што будзе ім, а хутчэй – ужо ім ёсьць Віктар Юшчанка.

**Я. Баратыньскі:** Я хацеў бы, каб так было, бо думаю, што так будзе лепш і для Ўкраіны, і для Эўропы. Калі б я мусіў паставіць на нешта, то думаю, што выйграе Юшчанка.

**Э.Фігель:** Я асабіста маю надзею, што будзе перамога Віктара Юшчанкі. А Ўкраіне жадаю ня страціць патэнцыялу ды таго, што нарадзілася ў гэтым незалежніцкім зрыве.

**Я.Баратыньскі:** Калі мы гаворым пра ўсходнюю палітытку, то, паводле мяне, асноўнай праблемай зьяўляюцца не памылкі ў канцэпцыі, бо адносна Беларусі можна было б працягваць палітыку паралельных размоваў як з урадам, так і з апазыцыяй, але яна, хоць добра выглядала ў тэорыі, то ў рэчаіснасьці не здала экзамену. Тым ня менш, трэба было спрабаваць, трэба было пакінуць А.Лукашэнку пэўнае поле манэўраў, разьлічваючы на тое, што розьніцы паміж ім і Пуцінам маюць ня толькі тактычны характар. Я спадзяюся, што цяпер усе мы бачым, як выглядае сытуацыя ў Беларусі, і не паўторым наступнай памылкі, калі ўсьлед за розьнымі амбітнымі плянамі ня йшлі рэальныя рэсурсы. Калі мы падкрэсьліваем, што дэмакратыя ў Беларусі настолькі важная, то трэба быць гатовым выкладаць грошы на розныя канкрэтныя дзеяньні. А Польшча найчасьцей дагэтуль старалася стварыць уражаньне прыязнага клімату. Я тут маю на ўвазе цэнтральныя ворганы ўлады, бо нельга не заўважыць часам нават вельмі імпануючых дасягненьняў мясцовых ворганаў, якія нешта робяць на сваім лякальным узроўні. Цяпер сытуацыя памянялася. Будзем спадзявацца, што яна знойдзе адлюстраваньне ў бюджэце на наступны год, што мы будзем ня толькі прыгожа гаварыць, але й будзем мець грошы на тое, каб нешта зрабіць.

**Э.Фігель:** Я цалкам пагаджаюся з такім меркаваньнем. На маю думку, калі мы хочам весьці эфэктыўную палітыку адносна ўсходніх суседзяў, то мусім мець на гэта сродкі. Адкрытым застаецца пытаньне, хто і ў бюджэце якой установы такія сродкі павінен знайсьці? Ці можа лепш было б стварыць Фундацыю Падтрымкі Дэмакратыі на Ўсходзе? На гэта павінны быць прызначаныя вялікія сумы. Для прыкладу, падам факт дзейнасьці расейскага клюбу ў Кіеве. Гэта сапраўды былі значныя сродкі, выдзеленыя Расеяй дзеля таго, каб заснаваць у СМІ ды аказаць уплыў на выбарчы ўплыў.

Іншае пытаньне – гэта апрацоўка доўгатэрміновай і суцэльнай канцэпцыі вядзеньня канкрэтных дзеяньняў адносна польскіх партнэраў з Усходняй Эўропы. Праўда, мы не заўсёды ў стане прадугледзець настолькі хуткія зьмены, як гэта сёньня адбываецца ва Ўкраіне. Тым ня менш, ужо даўно было вядома, што выбары адбудуцца. Гэта дазваляе плянаваць пэўныя дзеяньні.

**В.Бародзіч-Смаліньскі:** Іншая была мэта расейскага клюбу ва Ўкраіне – гэта было яўнае ўмяшальніцтва ў выбарчы працэс і ў тое, што адбываецца. У сваю чаргу амбіцыі Польшчы заключаюцца ў тым, каб нейкім чынам распаўсюджваць аб'ектыўную інфармацыю пра тое, што адбываецца. Гэта мы можам рабіць нават на месцы, у Польшчы.

**Фінансы – гэта вельмі істотная справа. Злучаныя Штаты Амэрыкі прызначылі 40 млн. даляраў на дзейнасьць беларускай апазыцыі, разьвіцьцё незалежных СМІ ў Беларусі і г.д. Ці не здаецца вам, што важныя ня столькі самыя сумы, колькі спосаб іх выкарыстаньня і ў якіх мэтах?**

**Я.Баратыньскі:** Зразумела, што грошы трэба выдаваць разумна. Шмат інвэстыцыяў у Беларусь, якіх, безумоўна, было замала, прынесла марныя эфэкты. Вялікай праблемай дзеяньняў на Ўсходзе зьяўляецца тое, што грошы нараджаюць карупцыю, часам псуюць людзей. Пардаксальна, але адной з прычын перамогі працэсу пераўтварэньняў у Польшчы была адсутнасьць сур'ёзнай фінансавай падтрымкі. Некаторыя краіны больш праблематычна даходзяць да этапу перамен – я маю на ўвазе напр. збройны канфлікт на Балканах. Вялікі наезд дабрачынцаў, міжнародных арганізацыяў, гуманітарных і іншых – гэта выклікае сындром узалежненасьці. Адукаваныя людзі замест таго, каб фармаваць кадры дзеля новай дзяржавы, ангажавацца ў разьвіцьцё напр. асьветы, працуюць у якасьці перкладчыкаў ці сакратароў у замежных арганізацыях. У Беларусі ці ва Ўкраіне гэта ня мела вельмі вострых формаў, хоць часам здаралася, але цяпер гэта мяняецца. На шчасьце, амэрыканцы маюць вялікі досьвед у выдаваньні грошай на Беларусі.

**Часам можна пачуць, што Польшча не ангажуецца моцна ў беларускае пытаньне з тае прычыны, што ў Беларусі пражывае значная польская меншасьць. У інтэрвію для нашага радыё старшыня Саюзу Палякаў Беларусі Тадэвуш Кручкоўскі абвінавачіў Польшчу ў адсутнасьці канцэпцыі, якім чынам рэалізаваць усходнюю палітыку адосна польскай меншасьці.**

**Э.Фігель:** Я думаю, што рэалізуюцца ўсе асноўныя мэты, якія мусіць рэалізаваць МЗС адносна палякаў, якія жывуць ці то ў Беларусі, ці то ва Ўкраіне. Існуе шэраг праблемаў па другім баку, бо мы даволі часта сустракаемся зь цяжкасьцямі як з боку беларускіх, гэтак і ўкраінскіх уладаў. Вынікаюць яны зь вельмі розных прычынаў, напр. гэта пытаньне фінансавага характару, калі беларуская ці ўкраінская ўлады ня могуць выдзяліць столькі датацыяў польскай меншасьці, якая пражывае на іхнай тэрыторыі, колькі выдзяляе адпаведна мяншыням польская дзяржава. Можа варта было б перагледзець тэндэнцыі ды пачаць перадаваць сродкі на крыху іншыя абшары. Хаця б з тае прычыны, што сутыацыя ўнутры дадзеных дзяржаваў мяняецца, што стварае неабходнасьць часьцейшай мадыфікацыі пэўных праграм, каб іх актуалізаваць і ўсучасьніць. Мне здаецца, шо Польшча ня ў стане зрабіць для палякаў за межамі больш, чым робіць дагэтуль.

**Я.Баратыньскі:** Калі мы гаворым пра ўсходнюю палітыку, то быў такі, несумненна, рамантычны пэрыяд на пачатку `90-х гадоў, калі Польшча была перакананая, што пераўтварэньні за ўсходняй мяжой у падобным накірунку, паводле падобнай мадэлі – непазьбежна адбудуцца. Пазьней наступіла расчараваньне, якое праяўлялася ў перакананьні, што на ўсходзеназіраецца кансэрвацыя пэўнай альтэрнатыўнай сыстэмы – ані савецкай, ані камуністычнай, ані дэмакратычнай. А сёньня гэтае перакананьне рассыпаецца ў нас на вачох. Высьвятляецца, што прывязанасьць людзей да базавых, элементарных дэмакратычных каштоўнасьцяў, да свабоды настолькі вялікае, што, нягледзячы на стомленасьць, нягледзячы на пэрыяд апошніх больш за 10 гадоў, які многія назіральнікі й тыя ж самыя ўкраінцы лічаць страчаным, тым ня менш гэтае абуджэньне грамадзкай сьведамасьці аказалася магчымым. І ня толькі ў Грузіі, дзе дзейнічала крайне неэфэктыўная сыстэма, але таксама ва Ўкраіне, дзе гэтая сыстэма нейк там дзейнічала, бо сьведчыць пра гэта хаця б эканамічны рост. Тым часам высьвятляецца, што гэтага недастаткова. Я думаю, што нас чакаюць складаныя пытаньні, на якія сёньня пакуль што мы ня бачым адказу: Якім чынам прыстасавацца да новай рэчаіснасьці? Нават калі цяперашняя барацьба не прынясе вырашэньня, згоднага са спадзяваньнямі апазыцыі, то й так відавочным застаецца патрэба радыкальнай зьмены ў грамадзтве. Зьмены ў бок эўрапейскіх стандартаў, у бок дэмакратычных каштоўнасьцяў. Нязалежна ад таго, як мы ацэньваем апазыцыю. Бо – пэўна як пасьля кожнай рэвалюцыі – неўзабаве акажацца, што апазыцыя мае шмат цёмных бакоў, шмат абяцаньняў застанецца нявыкананымі. Патэнцыял украінскага грамадзтва настолькі вялікі, што яго нельга ня ўлічваць у польскай усходняй палітыцы. Тое, ці ўдасца мірным шляхам выйсьці зь сёньняшняй сытуацыі ва Ўкраіне – гэта будзе больш важным для Беларусі, чым тое, што Польшча зробіць, ці ня зробіць.

**В.Бародзіч-Смаліньскі:** Часта да польскай краіны даходзяць галасы, што сродкі, аддадзеныя ў распараджэньне Саюзу Палякаў Беларусі, выкарыстоўваюцца нязгодна з прызначэньнем, а можа нават часам і нязгодна з правам. У сваю чаргу няма адваротнай інфармацыі з Польшчы, што гэта нейкім чынам правяраецца. Гэта таксама можа быць пацьвярджаньнем таго, што Польшча аднак ня мае суцэльнага падыходу да палітыкі адносна Ўсходу.

Другая справа – гэта патэнцыял да зрыву ці пераломy ва ўкраінскім народзе. Ён можа аказацца вялікім плюсам. Але ў сытуацыі, калі Польшча, як украінская суседка, ня зможа выкарыстаць дадзенага патэнцыялу, ня зможа стварыць уражаньня – як пры дапамозе фактаў, так і ў мас-мэдыя, што палякі падтрымліваюць украінскае грамадзтва, і калі – ня дай Бог – гэтая рэвалюцыя аранжавых ружаў ня ўдасца, то тады на вельмі доўгі час мы пагасім полымя грамадзянскай актыўнасьці.

**Э.Фігель:** Я б не стварала ўяўленьня, што нешта робіць толькі ці Міністэрства Замежных Справаў, ці іншае міністэрства, ці няўрадавыя арганізацыі. Я думаю, што дзеяньні павінны йсьці паралельна на розных узроўнях і да розных грамадзкіх групаў, павінны ахопліваць як мага больш абшар розных галінаў грамадзкага, палітычнага й эканамічнага жыцьця. І нават сёньня мы бачым такі прыклад. Сэйм прыняў адпаведную ўхвалу. Паасобныя ўлады таксама займаюць акрэсьленую пазыцыю. Ніхто ў Польшчы не прызнаў вынікаў выбараў за сапраўдныя. Польшча, так як і рэшта дэмакратычнага сьвету, дамагаецца, каб украінцы – як незалежны, сувэрэнны народ – мелі права правесьці свабодныя, дэмакратычныя выбары. Каб яны самі, а не нехта за іх, маглі вырашыць, хто будзе іхным прэзыдэнтам. Ім толькі трэба дапамагчы стварыць адпаведныя ўмовы. Цэлая міжнародная супольнасьць, усе назіральніцкія цэнтры падважваюць легальнасьць праведзеных выбараў, прызналі іх фальсыфікаванымі ў значнай ступені. Мы ня можам прыняць вынікаў, якія падала Цэнтральная Выбарчая Камісія. Тым ня менш, мы ня можам даваць зразумець, хто павінен выйграць дадзеныя выбары, хто павінен стаць прэзыдэнтам. Гэта павінен быць выбар украінскага народу. Тое ж самае датычыць Беларусі, калі гаварыць пра будучыя прэзыдэнцкія выбары. Мы можам пэўнымі дзеяньнямі спрыяць фармаваньню незалежных ацэнак, але ня можам умешвацца ва ўнутраныя справы іншых дзяржаваў. Я выказваюся за тым, каб падтрымліваць тыя ініцыятывы, якія там нарадзіліся. І ў Беларусі, і ва Ўкраіне наступае зьмена генэрацыі. Да голасу даходзіць маладзейшае пакаленьне, якое натуральным чынам думае інакш, бо мае цалкам іншы вобраз вонкавага сьвету. Я выказваюся за тым, каб падтрымліваць працэсы самаадукацыі, асьветніцкай дзейнасьці, каб паказваць, як мяняецца сьвет, як сёньня выглядае аб'ядная Эўропа. Але выбар належыць да ўкраінцаў, да беларусаў.

**На канец яшчэ адно пытаньне. У Польшчу прыяжджае прэзыдэнт Узбэкістану Іслам Карымаў ці Казахстану Нурсултан Назарбаеў. У гэтых краінах палітычнае жыцьцё далёка адбягае ад дэмакратычных стандартаў. А Аляксандру Лукашэнку зачыненая дарога ў Польшчу, таму што яго лічаць недэмакратычнай галавой дзяржавы.**

**Я.Баратыньскі:** На маю думку, польская замежная палітыка – неаднародная. Польшча – гэта не імпэрыя. І, парадаксальна, яна можа сабе дазволіць весьці палітыку больш этычна, больш маральна, чым вялікія імпэрыі, якія бачаць свой інтарэс паўсюль. Мне цалкам не падабаецца тое, што ў пытаньні Цэнтральнай Азіі пануе абсалютная цішыня, што ад прэзыдэнта Узбэкістану, дзяржавы, дзе ёсьць 6 тыс. палітычных вязьняў – з увагі на агульную стратэгічную сытуацыю – Эўропа не патрабуе дэмакратычнасьці, бо Узбэкістан – тактычны саюзьнік ЗША. У такой сытуацыі, калі Аляксандар Лукашэнка абвінавачіць Эўропу ў выкарыстоўванні падвойных стандартаў, безумоўна, будзе мець рацыю. Але на гэта можна яму даказаць, што іншыя ёсьць спадзяваньні ад краін Цэнтральнай Азіі, а іншыя ад краіны, якая разьмешчана прынамсі ў геаграфічным цэнтры Эўропы.

**Э.Фігель:** Я думаю, што спадзяваньні й стандарты павінны быць аднолькавыя адносна ўсіх дзяржаваў. У сваю чаргу з боку Аляксандра Лукашэнкі на сёньняшні дзень цяжка заўважыць нейкія дзеяньні, якія сьведчылі б пра ягонае жаданьне зьмяніць сваю палітыку. Ці то адносна апазыцыі, ці то няўрадавых арганізацыяў. Менавіта ягоныя дзеяньні выклікаюць шмат сумневаў у міжнароднай супольнасьці, а ў тым ліку й Польшчы.

***********************************************



## Сакрат ЯНОВІЧ, Беласточчына

# БЕЗ МОЛАДЗІ НЯМА НАЦЫІ

Без моладзі няма нацыі, таму што нацыя — гэта працэс з працягласьцю на пакаленьні.

Беларуская нацыянальная меншасьць у Беластоцкім Краі яшчэ ўсё фармуецца. У пасьляваенны час існавала яна як вясковая этнаграфічная група. У яе агульнаграмадзкай сьвядомасьці асобная іншасьць зводзілася да рэлігійна-праваслаўнай тоеснасьці і, часткова, моўнай асаблівасьці, /м. ін. няпольскі акцэнт у польскамоўі/. Характэрна, што утвораныя беларускія школы беспраблемна самаліквідаваліся, нярэдка ў выніку патрабаваньня саміх бацькоў, заклапочаных будучыняй сваіх дзяцей у Польшчы.

У адпаведнасьці з такой сітуацыяй адбывалася палітыка афіцыйных уладаў да беларусаў. Ім яны ўяўляліся накшталт кашубаў, шлянзакаў, і падобным да іх рэгіянальных зьяваў. Нават арганізацыя Беларускага грамадзка-культурнага таварыства і рэдакцыі тыднёвіка "Ніва" абгрунтоўвалася аблягчэньнем паланізацыі. У іх дзейнасьці не дапускалася акцэнтацыя гісторыі Беларусі як і беларускага нацыянальнага патрыятызму. Лічылася гэта праявай беларускага нацыяналізму, шкоднага Польскай Дзяржаве і яе камуняцкай партыі. У тагачасных медыях надзвычай рэдка згадвалася беларусаў і ніколі іначай, як толькі этнаграфічнага зьявішча. Даволі сказаць, што адзінай формай беларускай дзейнасьці тае пары, якая не падлягала рэстрыкцыйным абмежаваньням, былі фалькларныя сьпявацкія калектывы драматычныя гурткі з вясковым рэпертуарам. Найбольш строга рэгламентавалася асьвета, абмежаваная амаль цалкам да навучаньня беларускай мовы і яе граматыкі, /без элементаў гісторыі/. Элімінацыя гістарычных ведаў належыць да прадуманых асімілятарскіх захадаў: бяз веданьня нацыянальнай гісторыі немагчымая нацыянальная сьвядомасьць і фармаваньне нацыі. Мова важны фундамент, але сама мова няшмат тлумачыць, хто мы такія і адкуль. Адначасна з такім кліматам вакол беларускага насельніцтва ўсяляк перапыняўся кніжны друк, хаця-б чыста літаратурны.

Цэнзарскі і сакрэтна-паліцэйскі вышук беларускіх нацыянальных аспектаў у публікацыях дасягнуў паранаічнага дна ў дэкаду Герка, апавяшчэньня маральна-палітычнага адзінства народу Польшчы. Пачаўся адкрыты наступ на беларушчыну, адміністрацыйную — хоць не раптоўную — ліквідацыю дазволеных уладамі структураў. Даходзіла да шызафрэнічных нападак на "Ніву" за тое, што падкрэсьлівала яна адданасьць беларусаў ідэям сацыялізму. Тая-ж "Ніва" павінна была перастаць быць беларускім тыднёвікам, але ўсяго толькі беларускамоўным выданьнем для польскага насельніцтва. Трэба падкрэсьліць, што дэградацыяй беларускай нацыянальнай меншасьці займалiся найактыўна мясцовыя палітыкі беларускага паходжаньня з-пад Гайнаўкі, Бельска, Гарадка. Карэнныя палякі ў адрозьненьне ад іх паводзілі сябе ганарова і за вельмі не наступалі нам "на хвост". Бяда была з тутэйшымі асімілянтамі.

Так было да 1980 году, да выбуху ў Польшчы "Салідарнасьці". Некаторыя беларускападобныя партыйцы зьмянілі тады фронт, пашыўшыся ў польскія шавіністы ды каталіцкія клерыкалы; давалася ім тое параўнаўча лёгка, базуючы на змаганьні з беларускасьцю, або і праваслаўем. Рымакаталіцкі клір рашуча процібеларускі ў нас.

Калі здавалася, што беларускую нацыянальную меншасьць чакаюць ужо капцы, эмерыцкае дажываньне яе рэшткаў, недабойкаў, раптам здарыўся цуд/!/. У настаўшую свабоду выйшла на арэну падзей беларуская моладзь. Перш за ўсё студэнцтва, якое неўзабаве аформілася ў Беларускае аб'яднаньне студэнтаў. Адміністрацыйныя ўлады, вядомая справа, супрацівіліся, але дапамагла студэнтам аўтаномія польскіх універсітэтаў, на тэрыторыі якіх не абавязвалі шмат-якія афіцыйныя забароны. Зьявілася паўяўнае беларускае моладзевае падпольніцтва, на працягу амаль усяго ваеннага становішча ў Польшчы, /1981-97/. У тыя гады нелегальшчыны канчаткова ўзьнікла беларуская нацыянальная меншасьць як палітычная і культурная катэгорыя. Выходзілі ў падпольлі або паўлегальна беларускія часопісныя ды кніжныя выданьні, /дзейнічала, напрыклад, Беларускае Незалежнае Выдавецтва/.

Выходжаньне маладых на першапланавыя ролі мела тут характар — іншы раз гвалтоўны, прабойны. У настроі класічнага канфлікту дзяцей з бацькамі. Пакаленьне Беларускага грамадзка-культурнага таварыства — акрамя літаральна некалькіх выключэньняў — не падтрымала маладабеларускага руху, што на першы погляд можа падацца дзіўным. Бацькі актывістаў Беларускага аб'яднаньня студэнтаў, як і пасьлейшага Зьвязу беларускай

моладзі засталіся пакаленьнем этнаграфічных беларусаў, якіх задавальняў народны фальклор, песні і танцы, усякія фэсты і нічога болей. Яны ня былі яшчэ беларускай нацыяй, беларускай нацыянальнай меншасьцю, ано рэгіянальнай асаблівасьцю польскай тэрыторыі. Паўночна-усходнім каларытам краіны.

Дочкі і сыны ўжо ведалі гісторыю Беларусі — ад Рагвалода ў дзсятым стагодзьдзі да Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" у нашы дні. Хадзілі пад знакамі Пагоні і бел-чырвона-белага сьцяга. Гаварылі па-беларуску не адно ў заціхлай вёсцы, але і на шумных бульварах Польшчы, і далей, Эўропы. Іх сьвет не канчаўся ў акруговым Беластоку, а філасофія быту не фіналізавалася ў царкве, але ў канкрэтыцы нацыянальнае ідэі. Гэта былі народзіны беларускай нацыі Эўропы. У апошнія дэкады дваццатага стагодзьдзя ў другім тысячагодзьдзі ад Хрыста.

Можна мець жаль да старых, што гэта не яны дабіліся нацыянальных вышыняў, ашчаджаючы нашчадкам высілкаў на змаганьне быць сабою. Каб пайсьці ўглыб жыцьця, у разьвіцьцё. Але сталася як сталася, бо магчымасьці бацькоў аказаліся мізэрнымі, матэрыяльна ды інтэлектуальна. Займаліся выжываньнем і, дзякаваць Богу, адукаваньнем дзяцей.

Трэба ганарыцца тым, што зьмена пакаленьняў у нас не закончылася татальнай катастрофаю беларускай нацыянальнай меншасьці, яе росквітам і навечным культурна ўмацаваньнем. Цывілізацыйная рэвалюцыя, што адбываецца на нашых вачах, ліквідуе традыцыйнае грамадзтва, а ў ім вёскувясковасьць як сьлед феадалізму. Гарадызацыя пераўтварае беларусаў у партнёрскі элемент, зьмяняе грамадзкі стэрэатып беларускай мовы з сялянскай у інтэлігенцкую. Генік з пушчанскай Старыны канчае варшаўскі ўніверсітэт, селіцца ў Беластоку, стецца паўнафарматным нацыянальным дзеячам роўным з польскімі. Разумее, што можа выйсьці ў людзі тады толькі, калі ня будзеш зацюканым, пасьляпаншчынным, селянінам, які саромеецца свайго радаводу. Хочаш быць вартым чалавекам, дык будзь сабою, гэта значыць: беларусам! Генік ня быў і ня будзе ў Беларускім грамадзка-культурным таварыстве, створаным камуністамі, бо ў гэтым таварыстве адсутнічае высокі дух, а ўсё музыканяць ды спраўляюць рытуалы "апошніх індзейцаў Эўропы". Сіроты сацыялізму, гарадзкія адшчапенцы ўсходнеславянскага племя праваслаўных. Беларусы — не беларусы, рускія — не рускія, мабыць украінцы — але дзе тая Ўкраіна, за гарамі-лясамі... Праваслаўныя палякі, але такіх ніколі не было ў каталіцкай Польшчы, падвтыканскай. Словам — трагедыя тых, хто не стаў натуральнай сабе нацыяй, /г. зн. беларусамі/.

Маладыя беларусы перастаюць быць маладымі. І ў іх нараджаюцца дзеці, унукі "апошніх індзейцаў Эўропы". Вырастаюць з іх нармальныя людзі, што не азіраюцца за сябе, гаворачы па-свойму, па-беларуску. Гэта гіганцкі здабытак нам. Тым больш, што ў іх заўсёдная альтэрнатыва адмежавацца ў польскасьць. Палякамі ў нас робяцца тыя, у каго слабы характар або недавучанасьць. Стацца палякам прасьцей, ня трэба столькі інтэлігентнасьці ані праяваў волі. Так у старажытнасьць Рымская Імперыя асімілявала ўсе навакольныя дзікія народы, не даючы рады раманізаваць аднак-жа грэкаў, бо інтэлігентных у сваёй масе. Заганарыўшыся сваім уласным. Падобная няўдача ўпаткала Расейскую Імперыю, надумаўшую русіфікаваць палякаў.

Працэс асіміляцыі спыняецца на парозе нацыянальнай інтэлігентнасьці. Замурзаны Ванька з Каралёвага Стойла ня будзе ганарыцца сваім, бо ў яго і без беларускасьці цяжкі лёс.

Мацаваньне беларускай нацыянальнай меншасьці адбываецца дзякуючы маладым інтэлігентам, якіх у гады Беларускага грамадзка-культурнага таварыства налічвалася адзінкі, прычым прыміты̂ўна закамплексаваныя патомным мужыцтвам. Чаму пакаленьне бацькоў не вылучыла нацыянальных лідэраў, хоць паяўляліся такія яшчэ ў даваенныя часы? Гэта стане зразумелым, калі ўлічым тую гістарычную акалічнасьць, што ў камуністычных умовах мела месца вайна супраць сялянства як класа ўласьнікаў, непрымальнага паноўнай ідэалогіяй. Гэтая сацыяльная масакра выклікала эксодус насельніцтва ў прамысловыя гарады, апустынішы тэрыторыю. Засталіся гібеючыя вёскі, што сёньняшнім часам застаюцца толькі на мапах, зарастаючы маладнякамі. Таму няма выпадковасьці ў тым, што беларускае нацыянальнае адраджэньне сінхранічнае з заняпадам камунізму. Кожная нацыя бярэцца з уласнасьці, з уласнай маемасьці, зямлі і мінулага. Без паняцьця "маё" не бывае айчыны, а без айчыны можна наглядаць толькі насельніцтва, заклапочанае тым, чым напхаць жывот ды прыкрыць хрыбет. Аніякага духа, ні трохі сэрца! Жывінны інстынкт выжыць, напасьціся! Напладзіцца.

Зьнікненьне вёскі, таварызацыя сельскай гаспадаркі, пераўвасабляе беларускую нацыянальную меншасьць з сялянскай у мяшчанскую. Дэмаграфічна яна паменшае, але культурна і інтэлектуальна набудзе дынамічнасьці, як гэта зазвычай бывае з гарадзкім элементам. Моладзь, былыя БАСаўцы, фанаты "Басовішча", высьпеляць ды стабілізуюць нашу тут нацыю. Мала таго — яны дадуць пачатак новай беларускай нацыі ў Эўропе, а менавіта нацыі беларускамоўных беларусаў як супрацьлегласьць расейскамоўных за ўсходнім кардонам. Адсюль магчымая капітальная выснова: перастанем быць беларускай нацыянальнай меншасьцю ў Польшчы і Эўропе, перафармаваўшыся ў беларускамоўны малы народ Эўропы, што пражывае ў эўразьвязавай Польшчы. Усяму гэтаму паспрыялі маладабеларусы, ня столькі сьвядома, колькі ў моц аб'ектыўных законаў грамадзкага жыцьця.

Дзеці беларусаў-фальклярыстаў павырасталі проста на беларусаў, як палякі на палякаў, немцы на немцаў, французы на французаў. У кожным народзе спачатку было племя і потым ужо народ, нацыя. Мы толькі што выходзім з племя, крокамі маладых, ясная рэч.

№№№№№№№№№№№№№№№№№№№№№№№№№№

**Сакрат Яновіч**

# Беларусь заўтра

Банальна вядома, што прагнозы, асабліва дэталёвыя, не спраўджваюцца, але гэта зусім не значыць, што яны не маюць сэнсу. Прагназаваць трэба, як трэба думаць, замест таго каб чакаць цудаў. У выпадку будучыні Беларусі ўяўляецца яна даволі адназначна. З падабенства сённяшняга дня, які вынікнуў з учарашняга.

Будучыню Беларусі абумоўлівае найперш яе каланіяльны лёс. Ён не мог быць суверэнным у сітуацыі арэха ў абцугах канкурэнтных між сабою імперыяў - польскай і расійскай. Гэта ідэальна паказвае моўнасць беларусаў, так сказаць, ад плоту да плоту - ад паланізацыі да русіфікацыі. Нараджэнне беларускай нацыянальнай культурнасці, хоць і мела месца ў тое ж «дзевятнаццатае стагоддзе нацыяў», засталося ў акварыумным становішчы. У беларускіх этнічных водах віравалі не тыя рыбы.

Этнічнасць кожнае нацыі ў пачатковай стадыі трымаецца на сялянстве і яго кансерватыўных структурах, надта постсярэднявечных. Але нацыястваральны працэс немагчымы без удзелу гораду, мяшчанства. Вёска - гэта індывідуалісты, якія маюць усенька сваё: хату, поле, жывёлу, калодзеж - словам, гаспадарку. Атам этнасу. Горад жа таксама гаспадарка, але адна на ўсіх у ім, праўда, у рознай ступені ўзаемазалежнасці. Пажар гораду - зусім не тое, што пажар хутару або сяла. У гараджан інстынкт арганізаванасці і ўсякія рэвалюцыі бяруцца з парыжаў, пецярбургаў - ніколі з Гуляй-Поля, якому чужая дысцыпліна, урэшце, не той патэнцыял, інтэлект. Сялянскія войны нязменна варварскія і нязменна прайграныя. Нацыі, якая ў сваім фармаванні не выйшла з вёскі, у найлепшым выпадку наканаваны лёс малых народаў Захаду (фрызы ў Нідэрландах, правансальцы ў Францыі, серба-лужычане ў Саксоніі і інш.).

Беларусы ўвайшлі ў горад не з разгорнутымі сцягамі, а цішком, пагорбленымі ад нянавісці да свайго лёсу, самаедамі, што ўцякалі з вясковага свету. Нельга гаварыць аб тым, што ў пасляваенныя гады сяляне запаланілі горад. Уцекачы нікога не запаланяюць: дзеля гэтага патрэбна самаадчуванне ўласнай каштоўнасці, роўнасці. Яшчэ ў дадзяржаўны перыяд польскімі гарадамі завалодалі літоўцы, нямецкімі - латышы і эстонцы.

Пра шпаркасць развіцця эканомікі беларускіх гарадоў у тыя часы цяжка гаварыць, калі ведаць, што ніводзін з іх - нават Менск - не быў бы ў стане раўняцца з прамысловай дынамікай павятовага тады Беластоку, што прысмактаўся да польскіх фабрычных дынастыяў. А горад, які не развіваецца, не патрабуе дадатковых, сялянскіх, рук. У Беларусі горад гістарычна стаўся чужародным і цяпер столькі тае розніцы, што чужароднасць засвоілі беларусы. Беларусь без беларускай культуры і беларускай мовы з посткаланіяльнай адміністрацыяй роднай гадоўлі змушае гаварыць пра афрыканізацыю краіны. Са штучным гербам, штучным сцягам, штучным гімнам. Ніводнаму з гэтых знакаў няма хоць аднаго стагоддзя нейкай традыцыі. Ну, паўстагоддзя. Беларусь не можа квітнець, застаючыся перыферыяй (усё роўна чаго). Трэба думаць, што з гэтага яна няхутка выйдзе. Справа ў тым, што ў моц тэхналагічных рэвалюцыяў ужо нікому не акупляецца мець каланіяльныя тэрыторыі, якія давалі метраполіям сыравіну ды працоўную сілу. Калоніі перасталі даваць даход, што першымі зразумелі ангельцы, апошнімі - партугальцы. Сённяшнім часам, каб падвоіць вытворчасць, не трэба падвойваць лічбу работнікаў і караблямі ці эшалонамі вазіць сыравіну. Савецкі Саюз прапаў не з фанабэрыі Ельцына, а заваліўся пад цяжарам шматлікіх унутраных калоніяў; адчапіўшыся ад іх, Расія ў будучыні рушыць шпаркімі тэмпамі да сусветнага лідэрства. Беларусь пакінута жыць на ўласны рахунак. Не будзе яна бзыкаць каля расійскай «катлеткі». А кыш!

Беларусь будзе выходзіць з перыферыйнасці вельмі доўга. Прычынаў таго складзецца некалькі, і кожная блізкая галоўнасці. Найперш, каланіяльная метраполія заўсёды ў лепшай сітуацыі ад некалі залежнай ад яе тэрыторыі. Расія з Масквою, аднак, сама паўкалонія - жыве з продажы нафты ды газу, замест гатовых тавараў. Традыцыйна завозіць заходнія тэхналогіі, якія дорага каштуюць і вымагаюць высокакваліфікаваных кадраў замест Ванькі-п'яніцы. Акрамя выдаткаў на новыя тэхналогіі, трэба яшчэ часу на іх засваенне, а затым умець канкураваць з іншымі за рынкі збыту. Пакаленні прамінуць, пакуль тое збудзецца. Таму арыентацыя Беларусі на расійскія рынкі ўяўляецца просьбаю ўнука аб кавалку пірага ад бабулі. Расейцы калісь перастануць купляць беларускія тавары, як тую бульбу, якая пецярбуржцам падалася паршывай і менш смачнай за чысценькую ды гладкую нямецкую з Брандэнбургіі. І, што галоўнае, не даражэйшую. Капіталізм тым адрозніваецца ад камунізму, што ваюе змяншэннем цэнаў, каб выперці канкурэнта за дзверы. У камунізме ж ніхто не дурыў сабе галавы барацьбою за ласку кліента. Было: пошел вон!

Выходжанне Беларусі з перыферыйнасці абумовіць і нястача сродкаў на мадэрнізацыю вытворчага патэнцыялу, які немінуча апускаецца ў стагнацыйную архаічнасць. Не можа быць іначай ва ўмовах ізаляванасці ад эканамічных цэнтраў Еўропы, а сама арыентацыя выключна на Расію надта каратканогая з той простай прычыны, што тая ж Расія прэзентуе сабою тэхналагічны Трэці Свет, яе тавары тапорныя на цывільныя патрэбы. Яна, праўда, мае чым плаціць - газам і нафтаю - за прывоз сучасных тэхналогіяў, што зусім не значыць, што пачне дзяліцца імі з Беларуссяй. Няма такое дзяржавы ў свеце, што працуе на іншую, на суседку. Усё падлічана, і нічога бясплатна. Небагатага асартыменту беларускім таварам блізкія характарыстыкі «дорага і кепска». Машыны без гарантыі шматгадовай безаварыйнасці - скажам, васьмігадовай, як у японцаў.

Беручы пад увагу той факт, што ўдзел Расіі ў глабальным таваразвароце складае каля двух працэнтаў, а з Захадам - тры чвэрці аднаго працэнта, быццам курам на смех, не даводзіцца ўсур'ёз разважаць наконт беларускага следу ў сусветнай эканоміцы. Выйсце з маргінальнасці адно: прыцягненне замежных інвестараў, найлепей заходніх або амерыканскіх. Аднак не відаць добрых дзядзькоў з мяшком долараў на спажыву бандытаватым фінансавым службам, здольным каўкнуць які хочаш капітал, уключна з бюджэтам ЗША. Адзін прэзідэнт Пуцін шчыра прызнаўся ў мізэрнасці расійскага дзяржаўнага бюджэту - роўнага бюджэту мікраскапічных Нідэрландаў або лонданскага мегаполісу. Колькі капіталу ў менскіх сховах, не варта даходзіць. Што можа мець калонія з комплексам сірочасці, якая не мае адвагі і жадання стаць самастойнай? Усё роўна што жарт гучаць дэкларацыі палітычнага Менску пра выпрацоўку заходняй палітыкі. Няўжо Захад такі наіўны. каб паверыць савецкаму слову? Няма там такіх дурняў, што адразу рынуцца ў Беларусь пад сталінскім, чырвона-зялёным сцягам, бы па легендарнае залатое руно. Нават суседняя Польшча наракае, што багатая Еўропа ўсё баіцца яе. Яе калдобістых дарогаў, недысцыплінаванасці, хабарніцтва аднізу даверху, сацыялістычнага рабочага класа, што надалей вызнае прынцып «мала працаваць, многа браць». Беларусь не ў стане ператварыцца прынамсі ў трамплін дзеля пераскоку на гіганцкі расійскі рынак; лукашэнкаўцы падаткамі задушаць, бы таго аўстрыяка, што ледзь з духам выбраўся адсюль дамоў і столькі тае карысці дабіўся пасля, што сваё «хождение по мукам» апісаў у тоўстай кнізе, даходна прадаючы яе ў кнігарнях.

Маецца ўражанне, што Беларусь сапраўды не жадае пайсці за цывілізаваным светам; ёй дастаткова «шкваркі і чаркі», шчасця калгасніка.

Сур'ёзным ментальным бар'ерам бачыцца і псіхалогія асады ў беларусаў, шпіёнаманія, быццам шпіёнам цікава шпіёніць у замурзанай Задрыпоніі. А яшчэ тая закаханасць у прасцяцтве ды галотнасці. Памятаюцца кінакарціны «Мосфильма» пра бальшавікоў і «белых». Не знаходзілася такога ў нашай вучнёўскай сябрыне, хто марыў прыпадобніцца пад камісара або Чапаева; гідзілі нас сваімі трантамі ды безразумнасцю. Кожнаму хацелася быць белагвардзейскім паручнікам - чыстым, добра апранутым, лагічным, фігурна прыгожым. Як разумею савецкі менталітэт, акуратнасць павінна была кампраметаваць Белую Армію. Скутак быў жа адваротны тут, на Беласточчыне, што мала зазнала чырванасцяжнай басоты ды амаральнасці. Саветаў мы сардэчна не любілі за іх непашану да чалавека, алкагалізм, зладзейскія рукі, ашуканства. Пісаў некалі Шаляпін: «Они всё лгут, когда надо и когда не надо». Такая прырода іхняга характару: не могуць дня пражыць, не абдурыўшы каго. Улада Вялікага Хама. Камічна мець жаль да ваўка, што ён воўк.

Шлях Беларусі да нармальнасці мусім мераць не гадамі, а пакаленнямі. Пэўна біблейскай меркаю, чакаючы народзінаў дзяцей, не пакалечаных псіхічна рабскімі атавізмамі бацькоў. Паміж канцом паншчыны і пачаткам саветчыны прамінула ўсё ж няшмат гадоў; ад панскага бізуна адбегліся - куды? Беларусы любяць служыць камусьці, няпроста ім будзе пазбыцца таго парабкоўства. У гэткіх абставінах Лукашэнка выконвае трагічна-камічную ролю, сам аб тым не ведаючы: што ні кажы, а першы ён у навейшыя часы ўласнік Беларусі, хоць аж дрыжыць дастацца на службу ў Крамлі. Вось іронія лёсу: не бяруць, хоць ты крычы! Нічога, што васал, але ўласнік дзяржавы, не прысланы губернатар ці колішні першы сакратар рэспубліканскага ЦК. Усё часцей чуем пра «страну», не «республику». Хто калі за савецкімі часамі назваў Беларусь «страною»? Сімптаматычна? Безумоўна! Сімптомы, як бактэрыі: спачатку не кідаюцца ў вочы.

Польскі пралетарскі Валенса казаў: «Не хачу быць прэзідэнтам краіны, але мушу...» Пра Крэмль не марыў.

Думаючы пра заўтрашнюю Беларусь, прыгледзімся да прыроды самое ўлады сённяшняй Рэспублікі Беларусь. Незалежнасць прыйшла сюды ў камедыйным стылі. Распаўся Савецкі Саюз, усе наўкола парабіліся незалежнымі, палітычны Менск заліўся слязьмі сіраты. Беларуская незалежнасць - гэта сірочая незалежнасць. Не хочам, але мусім. Кленчым перад Масквою, але яна - Божа мой! - шпарыць ботам між вачэй ды сыпле ябукамі ў наш бок. Таго ніхто ў нас не спадзяваўся, узвычаіўшыся ўсё пад кагосьці лягаць. Такою была наша доля і гісторыя.

За першапачатковую незалежнасць Рэспублікі Беларусь каб хоць адзін хто наклаў галавою або, як мінімум, пасядзеў у вязніцы і дастаў па зубах на КДБоўскіх допытах. Існавала літаральна жменька «шептунов», якіх ужо цяжка было зразумець, бо размаўлялі яны «нечеловеческим языком», г. зн. па-беларуску. Іх на ўсю Беларусь кадэбоўцы налічылі сем чалавек, надта заядлых, нават кахаліся яны з жанчынамі на беларускай мове. «Тихий ужас!»

Не змянілася тое і цяпер. Трохі да лепшага хінулася псіха-грамадскае становішча беларушчыны ў тым значэнні, што беларускае слова як быццам сакралізаванае, зрабілася яно літургічным, святочным, бы ў папоў царкоўна-славянская ў маскоўскай рэдакцыі, не кірыла-мяфодзеўскай. У беларусаў сённячы дзве мовы: «общепонятный язык» і «национальный», шыльдавы. Цацка дарослым дзецям. Я доўга не мог сцяміць, чаму гарачыя беларускія патрыёты вельмі неахвоча запрашаюць на вечар у свой дом пагутарыць. Здагадваўся, што не маюць чым пачаставаць, хоць да бедных непадобныя... Урэшце зразумеў: у іх сем'ях гудзе «великий и могучий». Я не супроць яго, а супроць выкідвання беларускай мовы на сметнік. Супроць махлярства я, супроць двухаблічнасці, цванства. Я ім усё роўна што дурань. Хочаш, дурню, беларускай мовы, то я табе ствару гэткую прыемнасць; дома, з жонкаю і дзяцьмі, я «вполне нормальный человек».

Апошні шанс дэрусіфікаваць беларусаў прамінуў адначасна з упадкам Шушкевіча. Яшчэ жыло пакаленне, якому беларускае слова не ўяўлялася дзівацтвам, чымсьці лішнім, інтэлігенцкай фанабэрыяй. Аднаўлялася школьніцтва і кнігадрукаванне. Меліся кадры, здольныя жыць па-беларуску. Я тады часта ездзіў у Менск, мяне шмат хто ненавідзеў, але «понимал». А цяпер - у Менску няма нянавісці да мовы, яе проста перастаюць разумець. Крыху так, як я не злуюся на цыгана, бо я яго - звычайна - не разумею, ягонай рускай мовы, быццам у чачэнца...

Беларускі нацыяналізм - гэта выдумка маскоўскіх «господ» і варшаўскіх яснавяльможных паноў. Ці магчымы нацыяналізм нацыі, якой не існуе? Бо беларускай нацыі практычна няма; яна ўсё фармавалася, накшталт неграў Конга, і гэты працэс быў перапынены ў другой палове дзевяностых гадоў. Прысутнасць эліты - толькі ўсяго перадумова ўзнікнення нацыі. Акрамя нацыянальнага нацыяналізму, навука ведае і эканамічны. Ён, другі, праўда, ёсць у Беларусі, аднак слабенькі (даволі было б аднаго батальёна дэсантнікаў, каб на працягу летняе ночы ліквідаваць яго яшчэ да ўсходу сонца). Паўжартам кажучы: самі тыя нацыяналісты гатовы былі б падняць рукі ўгору і пакрыць кошт такога дэсанту, слёзна дзякуючы за вызваленне ад пакут незалежнасці...

Уладныя кадры і не кампрадорскія. Яны безнадзейна савецкія, задаволеныя, што аб'явіўся пан над імі. Мужыкі, якія не так, як нам цяпер здаецца, пакутавалі ад прыгону, бо па ліквідацыі паншчыны плакалі: «А як жыцьмем без пана?!» Прыгон навучыў нас бесталковасці і гультайству; рабілі тое, да чаго цівун пагнаў, і нічога з сваёй ініцыятывы. Паны трактавалі мужыкоў як вялікіх дзяцей. Тадышнія даследаванні паказвалі, што сярэдні ўзровень інтэлекту «дзецюка» (слоўца Каліноўскага) не перавышаў узроўню чатырнаццацігадовага хлопчыка; дзяўчынкі затрымліваліся ў сваім псіхічным развіцці на дванаццатым годзе жыцця.

У менскіх развагах пра сутнасць характару цяперашніх беларусаў шчырасць і не начавала - татальная ілюзія. Кажуць - ёсць праблема з

 



беларускамоўем. Катастрофу яго знікнення называюць праблемаю. Адзін Акудовіч не баіцца праўды. Беларускамоўе спляжылі разам працоўны люд і родная ўлада; уцалеў дробны архіпелаг жывое нацыянальнае мовы. Ян Максімюк з Прагі кажа, што беларускае слова выратуецца як эстэтычная катэгорыя, галоўным чынам у літаратуры. Здалёку лепей відаць. Дакладна спраўджваецца гэта Максімюковае адкрыццё менавіта ў літаратуры, у якой усё вартаснае ствараецца па-беларуску, не па-расійску. Дзіва дзіўнае: у расійскамоўнай нацыі мастацкае слова беларускамоўнага радаводу. Прычына таго нават дэбілу павінна быць зразумелая: геній літаратуры беларусаў рэалізаваўся ў іх этнічным моўі. Нельга шукаць аналогіі ў ірландцаў, шатландцаў - ім ангельшчына даўным-даўно родная.

Як доўга пратрымаецца беларускамоўная літаратура небеларускамоўнага народу? Які самаліквідоўвае апошнія школы; бо ні вышэйшых, ні сярэдніх ужо няма, усяго знікаючы адсотак вясковых, калгасных. Адсутнічае русіфікацыя, буяе самарусіфікацыя. Анклаў шчырых беларусаў у беластоцкім краі пагоды не зменіць, пераўтворыцца ў новую беларускую нацыю Еўропы, Еўразвязу. Так будзе. Якіх чорных сноў трэба, каб прыснілася, што палякі не намагаюцца размаўляць па-польску, а літоўцы па-літоўску. А вось беларусы намагліся - са стопрацэнтным вынікам (ну, хай 98). Тыя, што ў перапісе падалі роднай мовай беларускую - нешта каля 40 працэнтаў - мелі на ўвазе, відаць, сваё моўнае паходжанне, не будзённую практыку. Прэзідэнт Лукашэнка можа спакойна рэалізаваць будаўніцтва расейскамоўнае Рэспублікі. Па-беларуску ён не загаворыць, бо да каго (?). Выйдзі на вуліцу і паслухай, «какая народная молва плещется на тротуарах и бульварах».

Чаму мы трактуем лукашэнкаўцаў як дурняў?! Яны ж савецкія людзі, ім Беларусь уяўляецца фрагментам вялікае зямлі ад Берасця да Сахаліна, а не святой Бацькаўшчынай. Іхныя ўнукі адчуюць тут айчыну сабе, не раней. Рэспубліку Беларусь абараняюць не таму, што патрыёты, але таму, што расіяне нічога ім не гарантуюць. Гэта патрыёты са страху, з боязі за кавалак хлеба. І не больш. Калі б былі яны патрыётамі з беларускай культурай у душы, тады і не падумалася б ім, каб душыць беларушчыну, рваць на шматкі нацыянальны сцяг.

Дурманімся перакананасцю, што зніштожаную мову магчыма аднавіць, быццам зруйнаваны будынак адбудаваць. Гэта - або дурнота, або самаашуканства. Мовы, пахаваныя ў магілу, не ўваскрасаюць, няма такога прыкладу ў свеце (акрамя ізраільскага). Шмат якія былі ў занядбанні, скажам чэшская, але не затаптаныя так, як беларуская сёння, што нават вёска ўжо не гаворыць на ёй; ажно смешна слухаць пра яе дыялекты, след ад іх прастыне праз гадоў дзесяць. Будзем гартаць атласы былых дыялектаў былое мовы.

Ужо падрастаюць аўтары расійскамоўнай літаратуры расійскамоўнай Беларусі. Будзе гэта даволі нерасійская расійская мова пісьма і гутаркі. Трохі па аналогіі ангельскіх моваў (англа-амерыканскай, англа-аўстралійскай, англа-ірландскай, і да т. п.). Будзе расійска-беларуская; яна ёсць пакуль зародкава.

Пытанне мовы і будаванай на яе фундаментах культуры бачыцца вырашальным у прагназаванні будучыні. Русіфікацыя раўназначная перыферыйнасці, яна раўняецца страце этнічнага эпіцэнтру, прасоўванню на далёкія кругі іншага, не свайго. Кожны акупант імкнецца асіміляваць акупаванага, што трывала замацоўвае акупацыю, якая з часам - дзякуючы той жа асіміляцыі - засвойваецца ды «адчужыньваецца».

Недэрусіфікаваная Беларусь застанецца на векі вечныя кавалкам большае цэласці. А ўсякі кавалак - гэта толькі кавалак, без унутранае энергіі, - на падабенства ампутаванае рукі. Істоту нацыянальнай ідэі можна коратка дэфініяваць імкненнем да лепшага жыцця. Апазіцыя да чужароднае эсплуатацыі. Нежаданне працаваць на этнічнага суседа. Такое рэагаванне немагчымае ў класічнай калоніі. Яна заўсёды шчаслівая таму, што каланізатар паляпшае яе быт, ствараючы сабе такім чынам зручнейшыя ўмовы эксплуатацыі. Калоніі, далучаныя да цывілізацыі, не вызваляюцца, іх пакідаюць, нярэдка ў выніку барацьбы паміж канкурэнтнымі метраполіямі (не ўзніклі б ЗША без зацікаўленасці ў тым антыангельскае Францыі, яе мілітарнай дапамогі). Славутая дэкаланізацыя адбылася зусім не таму, што за савецкія грошы дзейнічала хаатычная ды паўбандыцкая партызанка. Куды мацнейшую арабска-алжырскую калонію французы разнеслі на шматкі і затым прызналі Алжыру незалежнасць. У чым справа? Калі чаго не цямім, дык уся справа ў грошах. Калоніі, замест прыносіць даход, сталіся дэфіцытнымі. Змянілася сусветная эканоміка, тэхналагічныя рэвалюцыі выразна паменшылі попыт на сыравіну і разам з тым - на новыя арміі працоўных рук. Характэрна, што калоніяў пазбыліся найперш развітыя імперыялізмы Захаду - Англія, Францыя. Заўзята не выпускала са сваіх кіпцюроў афрыканскія калоніі адсталая Партугалія, гэтак жа Іспанія ў прыатлантычным берагоўі Чорнага Кантыненту. Развал Савецкага Саюзу, як ужо ведаем, не быў выкліканы нейкімі варожымі падкопамі, зваліўся расійскі каланіялізм, якога сама Расія ўжо не вытрымлівала. Цяпер расійскія палітыкі кажуць, што Расія ў СССР уяўляла сабою «дойную карову». Няхай, але хто прасіў Расію падстаўляць вымя?! Займаць кантынент?! Бо Расія не развівалася, яна жыла заваёвамі, анексіямі, дзяржымордствам. Безупыннымі войнамі, быццам чалавецтва заелася спляжыць Расійскую Старану... Усё тое - байкі старым дзецям. Расія за савецкімі часамі пачала пераажываць мілітарысцкі «бум», усякія «магнітагорскі», і сама, як тая мацёра, прысмактала да сваіх цыцак розных «черножопых».

Беларусь расійцы кінулі, бы п'яніцы надакучную бабу. Памятаюцца дзевяностыя гады, Расія Ельцына, дрыжачыя дзень і ноч беларускія патрыёты, што па сваёй марнай адукаванасці баяліся крамлёўскага анексіянізму. Яны думалі на ўзроўні мінулых часоў - «брать и не пущать». Гэта праўда, што расійцы не лічаць нас нацыяй, беларуская мова ім - заходні дыялект («трасянка» фактычна нешта такое нагадвае). Шумела-гудзела інтэгратарская лапатня, хоць ужо тады было вядома, што інкарпарацыя беларускай эканомікі каштавала б Расіі не менш чым сто мільярдаў даляраў. Тых мільярдаў Расія не мела і не будзе мець у рэальным даляглядзе. Узваліўшы на плечы Беларусь, расійскія ўлады былі б прымушаныя спыніць усё - каўказскія войны, капіталізацыю, а народ карміць травою. Нагадайма: фінансавы патэнцыял усёй Федэрацыі роўны нідэрландскаму; павятовы Сінгапур у параўнанні з Расіяй - гэта сапраўдная імперыя ў першай дзесятцы краінаў зямное кулі.

Ці Аляксандр Рыгоравіч не ведае аб тым? Ведае не горш за Ўладзіміра Ўладзіміравіча. Той і той, аднак, разлічваюць на непісьменнасць электаратаў, хоць гэты палкоўнік КДБ і нядаўні шпіён у Еўропе несумненна лепей інфармаваны, чымся гэтак жа нядаўні дырэктар саўгасу. Усё ж не тыя кабінеты і не тая інтэлігентнасць. Мужык да смерці мужык.

Аглядныя будучыні англафонскіх рэспублік Афрыкі і русафонскай Беларусі цалкам непараўнальныя. Англафоны азіраюцца на глабальных багатыроў, перш за ўсё на ЗША, а на каго азіраюцца русафоны? На расійскамоўны Трэці Свет. На Расію, прэзідэнт якой клянецца ў 2004 годзе пачаць змаганне з голадам і холадам грамадзянаў, дзяржава якіх захоўвае ў сваіх нетрах цэлую табліцу Мендзялеева, пачынаючы ад жалеза і вугалю. З кім гэта Лукашэнка намерваецца разбагацець? Хлеба не пабольшае ад арышту алігархаў. Не народныя масы разгортваюць гаспадарку: яны не думаюць катэгорыямі дзяржавы, думаюць жыватом, катэгорыямі стала і пасцелі. У слаўленай Амерыцы ўсяго дзесяць працэнтаў насельніцтва марыць аб уласным бізнэсе. Дзевяноста - жадае васьмігадзіннага працоўнага дня, хатняга зацішку, прыгожай жонкі і разумных дзяцей, водпускаў на карыбскіх астравах. Бізнэс - гэта не жарты, несціханы роздум аб тым, што і як рабіць, неспакойныя сны і ранні інфаркт, ракавы гуз у мазгах. Лепей наняцца за добрыя грошы, чым самому сушыць галаву. Вялікія грошы - гэта і вялізныя выдаткаванні. Заходнія дзяржавы не займаюцца ашчасліўленнем народу, не лезуць у гаспадарку, дзяруць падаткі на эфектыўную паліцыю, лагічнае заканадаўства, не бандытаваную адміністрацыю. У іх настаўнік пачатковае школы зарабляе больш, чым паліцыянт. Ленін пісаў: паліцэйская дзяржава - гэта такая дзяржава, у якой паліцыянт дастае больш грошай, чымся настаўнік. Ну як тут не пагадзіцца з Уладзімірам Ільічом!

Без нацыянальнай культуры дзяржаву чакае выраджэнне. Без нацыянальных настаўнікаў няма нацыі. Калі няма гэтых дзвюх рэчаў, дык няма аб чым гаварыць. Пустэча! Рэспубліку Беларусь празываюць у Маскве «случайным государством». На жаль, у гэткай зласлівасці знаходзіцца зерне ісціны. Падобнае на Сізіфаву працу штурханне Беларусі на гару расійшчыны; яна з тае гары пакоціцца ў протхлань. Нізавы пажар - паводле Янкі Брыля, - што выпальвае да галавешак беларускасць школаў, наогул асветы, некалі загасне ды апустыніць Беларускую Зямлю. Што на ёй застанецца? Цень расійскага суседа, але сам ён не захоча прыйсці сюды жыць; пажарышча смярдзіць, на ім швэндаюцца чалавечыя недабойкі, недарэкі. Чаго нармальнаму народу хадзіць у ненармальны? Не кожны цікавіцца мутантамі.

Кажуць - нігілізм. Напэўна. Нігілізм ёсць ідэяй гультаёў. Спадзяваннем на гатовае. На чужы стол. Калі табе кепска ў Беларусі, дык з'язджай у Расію. Ага, не прымаюць. Ніхто цябе там не чакае. Нікому ты не патрэбны даўжэй за гасцяванне. Нашто каму ты, калі сваіх поўна!? У гэтым увесь абсурд т. зв. інтэграцыі - лезці на чужое. Не абсурд, махлярства!

Рэспубліка Беларусь ёсць не нацыянальнай дзяржавай, а сацыяльнай. Дастаткова паслухаць яе прэзідэнта ды ягоных губернатараў. Яны жывуць у мінулым свеце Савецкага Саюзу. Гэта парэшткі былога савецкага народу. Часамі Лукашэнка карыстаецца словам «нацыя», але не зусім вядома, як ён яго разумее. Ні трохі не турбуецца высыханнем беларушчыны. Не ўздрыганулася яму рука разагнаць адзіную ў Беларусі сярэднюю школу, у якой вучняў навучалі на беларускай мове. Не дапушчана да стварэння беларускамоўнага ўніверсітэту. У сацыяльнай дзяржаве нацыянальнага аспекту не існуе. У ёй няма гуманнага чалавека-грамадзяніна, дамінуе эканамічны чалавек. Чалавек-жывот, страўны тракт замест сэрца, якое не болей чым помпа, што ганяе кроў па арганізме.

Сацыяльныя дзяржавы вядомыя ў гісторыі. Узначаленыя зверападобнымі, часта непісьменнымі тыранамі, яны занепадалі, не пакідаючы пасля сябе нічога, вартага ўвагі наступных пакаленняў. Калі ў XIX стагоддзі паўстала Італія як аб'яднаная дзяржава, адзін з яе айцоў сказаў: «Мы ўжо стварылі Італію, цяпер трэба стварыць італьянцаў». Аналагічнымі думкамі не дураць сабе галавы лукашэнкаўцы. Беларусь як хворы чалавек Еўропы павінна выклікаць інтарэс псіхіятрычнай навукі. Пішуцца, пэўна, дактараты на гэтую тэму... Унікальную, з перспектывай на эпахальнае адкрыццё новае хваробы, быццам азіяцкага «птушынага грыпу».

Несціхана баліць мне трактоўка нацыянальнай мовы, гэтага адзення душы беларускай. Калгасны хамут з універсітэцкім дыпломам у кішэні плюецца на яе. Салжаніцын увёў у расійскую мову паняцце «образованщина» ў супрацьлегласць да «интеллигенция». Што і казаць, цэльнае разрозненне на людзей інтэлігентных і на людзей толькі адукаваных, адпаведна падрыхтаваных вінцікаў у дзяржаўна-грамадскай машыне. Інтэлігентам быць - неабавязкова быць дыпламантам. У інтэлігента ёсць пачуццё місіі, чаго не наглядаецца ў «образованного», прафесійнага абмежаванца.

Бліжэйшая будучыня Беларусі - гэта тэрытарыяльнае ўтварэнне з няяснай дзяржаўнай атрыбутыкай. Надакучліва падкрэсліваецца не «беларускі народ», але «народы Беларусі». Акцэнтуецца тэрытарыяльнасць кшталту «народы Сібіры». Беларусь - шматнацыянальны рэгіён Расіі, у якім усе 123 нацыянальнасці накрылі каўпаком русіфікацыі? А дзе ж тытульная нацыя!? Яна самазніштажаецца ў прыклад тым 123-м. Чорная старагрэцкая трагедыя.

Акварызацыя культур. Вось акварыум, у якім плаваюць беларускія рыбкі. А там вось - польскія, татарскія, украінскія і г. д. Няма акварыуму з расійскімі рыбкамі, бо расійскамоўным наведнікам гэта аказалася б нецікавым і нават незразумелым: авечкагадоўцу не патрэбен музей авечкі. А была ж даваенная БССР з чатырма дзяржаўнымі мовамі: беларускай, расійскай, польскай, жыдоўскай. Як у Швейцарыі, таксама з чатырма, але ад вякоў (зірніце ў энцыклапедыю, у расійскую, не вельмі нахабна змахляваную).

Чаму мы пазбягаем аб'ектыўнай інфармацыі? Савецкі гэта навык - успрымаць жаданае за рэальнае. «Мировоззрение лгуна». Махляр на махляры і махляром паганяе! Анклаў пустадомкаў; еўрапейскі ўнікаліум. Хоць ты экскурсіі вадзі. Найлепей немцаў, бо добра плацяць.

Наймацнейшае падазрэнне выклікае заядлае пляжанне беларушчыны, спіхванне яе ў фальклорнасць. Музеефікацыя! Няслушна, аднак, бачыць у гэтым «руку Москвы». Тым часам прычына такое нянавісці да нацыянальнае культуры ляжыць на паверхні: расійскамоўнаму народу, загледжанаму ў маскоўскае азіяцтва, беларуская нацыянальная культура проста па сваёй натуры чужая, бо ўся яна менавіта еўрапейская. Успомнім элементарную яе гісторыю, хаця б таго Францішка Скарыну - заходнееўрапейскага доктара навук. Або Сімяона Полацкага, што даў маскоўцам уяву культурнасці, смак вершу, літаратуры, навучыў дапятроўскіх Раманавых лаціне ды польскай мове (Пётр I, рэфарматар Расіі, свабодна ёю паслугоўваўся, а яго сястра нават пісала польскія вершыкі).

Чаму якраз мова смяротна прыдушаная, не этнаграфія?! Граматыка кожнай нацыянальнай мовы - гэта асобая філасофія чалавечага сусвету. Ліквідацыя беларускай мовы раўназначная ліквідацыі беларускага светаўспрымання на карысць расійскага светаўспрымання. Расійскамоўны беларус - гэта ўжо падгатунак расійскай нацыі, расійскіх адносінаў да суседзяў, да Еўропы, да ўсяе зямное кулі. Гэта як афранцужаная маці Пушкіна, што секла сына розгамі за гаварэнне па-расійску (набраўся Саша тае заразы ад нянькі, якую любіў да смерці, словам паэзіі не згадаўшы пра родную маці). Беларусь мела родную мову, выраклася яе існа ў Багдановічаўскім стылі геніяльнай «Пагоні», пакінуўшы на кпіну архіпелагі беларускамоўя, экзотыку інцыдэнтальнага беларускамоўя на праспектах Менска. Гэта ўжо мова інцыдэнту, сенсацыі сярод прадаўшчыц ды таксістаў, быццам ты азваўся да іх па-французску, па-ангельску. Сенсацыйнасць беларускамоўя засмучае, ва ўнівермагу прадаўшчыца вылупліваецца на цябе, быццам угледзела нейкую дзівосу перад сабою, нават паспачувае, што не даеш рады загаварыць да яе «человеческим языком». Такая аўра, грамадская аўра, вакол канстытуцыйна першай дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь.

Пімен Панчанка не жартаваў, называючы беларусаў адрачэнцамі.

Якія ж перспектывы ў адрачэнцаў з псіхалогіяй калекаў? Адрачэнец - гэта чалавек, які ганьбуе самім сабою са спадзевам, што камусьці тое даспадобы. Натура парабка ў панскім двары або курвы заможнага каханка. Нявера ў сваю дастойнасць, сваю волю. Яны не грамадзяне, а насельніцтва. Каб быць «грамадзянамі Беларусі», да гэтага трэба дарасці. Грамадзянінам, як і героем, ніхто не нараджаецца. Ім стаюцца. Дзяржава, якая не зацікаўлена ў выхаванні людзей на грамадзянаў, - гэта не дзяржава. Гэта ўсяго толькі адміністрацыя ды паліцэйскі ўчастак. Яна сама пад сабою капае яму. Неўкаранелую, змяце яе стыхія падзей.

Ну што зможа краіна такіх людзей? У іх сэрцах пуста, жывуць яны з інерцыі, «абы ціха». У стаячай вадзе хіба што жабы водзяцца... З апалонікамі. Сонны двор. Людзі-кастраты. Няхай і чорны прагноз ім таксама без сэнсу. Падзеі ў мужыцкай рэспубліцы захопліваюць не болей, чым рэха падзей наўкола яе. Інтэграцыя з Расіяй нудзіць Расію. Ба, палохае. Славянскае адзінства недадумкаў, якія не падазраюць, што кожны трэці грамадзянін Расіі не ёсць славянінам або хаця б праваслаўнае веры. Славянскае адзінства - смяротны ўдар па Расіі! І мы з чымсьці такім лезем у інтэлігентны Крэмль, да патрыярха, самі маючы мільёны католікаў і пратэстантаў. Гэта ж трэба з глузду з'ехаць!

Дурная палітыка бесперспектыўная, хоць можа праводзіцца доўга. Сталін дзесяткамі мільёнаў забіваў - і нічога, дажыў да старасці. Гітлер з падобным генацыдам немцаў не пратрымаўся б і аднаго году. Што магчымае ў Азіі, абсалютна немагчымае ў Еўропе. Фашыста Мусаліні скінулі самі фашысты. Сталіна давялося атруціць, а самога атрутніка на ўсякі выпадак расстралялі без суду і следства. У стылі Чынгіз-хана, з той розніцай, што цяпер не садзяць на кол.

Запынімся пры пагардзе расійскамоўных да беларускамоўных. Яна ўжо часцей ціхая, не такая адкрытая, як пару гадоў назад. Давайце ўдумаемся, што значыць «говорить человеческим языком». Гэта значыць, што беларуская мова ёсць моваю першабытных дзікуноў. Тэрмін «человеческий язык» сустракаецца выключна ў Беларусі і нідзе больш у сучасным свеце. Ён займальны тым, што характарызуе бездань проста гідлівасці да чалавека нерасійскай мовы. Па-ленінску кажучы, нерасіянін, які стаў расійцам, страшнейшы за расійскага шавініста! У такога заалагічная нянавісць да нерасійцаў. Расіянін ён на дзвесце працэнтаў! Папраўдзе, у яго нянавісць да самога сябе, да ўласнага радаводу. Неафітызм спалучаны з новафанатызмам. Не дай Бог, каб халоп царом стаў!

Чым закончыцца вайна супроць беларускай культуры, «борьба за обрусение края»? Вядома, бліскучай перамогай; яна ўжо відаць. Як і пытанне - а што будзе далей? Зруйнаванне нацыі, расійскае гуляй-поле, касацыя беларускай прысутнасці ў чалавецтве. Беларуская эканоміка як частка расійскай, інтэгральная частка без свядомасці карэнных інтарэсаў; нават не калонія. Незаўважная тэрыторыя на працягу ад Бугу да Ціхага акіяну. Смешна прагназаваць будучыню гэтае тэрыторыі, пра якую будуць ведаць толькі географы. Думаеце, расійскамоўныя выедуць у Расію на багацейшы хлеб? Нікуды яны не павыязджаюць, нікому не будуць патрэбнымі, будуць галадаць і плакаць па бяздумна страчанай бацькаўшчыне; па-за сваёй дзяржаваю чалавек усюды лішні. Пойдуць следам за англамоўнымі ірландцамі, што зненавідзілі ангельцаў і паднялі антыангельскія паўстанні, размаўляючы трохі горш за ангельцаў па-ангельску (бо на сваёй мове ім язык не варочаўся). Дабіўшыся незалежнасці, аднак жа, не зажылі лепей: адзін ангелец, выбраўшыся наведаць Рэспубліку Ірландыю, вывучыў ірландскую мову, чым прыкра здзівіў потым ірландцаў. Аналагічна - калі паляк з Варшавы гаворыць у Менску па-беларуску, то гэта ненармальны асобень або мінулавечны дыверсант і шпіён. Так ці сяк ідыёт!

Што ні кажучы пра Беларусь, непазбежна загаворым пра яе безамбітнасць, неганаровасць. Драма ў тым, што гэта датычыць не аднаго простанароддзя, але ўсіх і ўсяго; выключэнні тут без грамадскага значэння, адзінкі. Разумею, чаму так. Але як жа цяжка бачыць будучыню краіне, якая баіцца будучыні. Бо тое, што мае яна, цалкам задавальняе яе. Гістарычна Беларусь разгортвалася, дастаючы поўху ад суседзяў. Славутае «абы ціха» ўзялося адтуль, а яшчэ і ад генацыду ў семнаццатым стагоддзі, у васемнаццатым, у дзевятнаццатым, і ў дваццатым з яго мільённымі ахвярамі. Першымі гінуць зусім не дурні.

Расійскамоўе - гэта катастрофа Беларусі. Невыпадкова беларускамоўнымі - самыя энергічныя, самыя інтэлігентныя індывіды. Мала за тое: стацца беларускамоўным патрабуе адчайнасці, а каму хочацца тае адчайнасці?! Выгадней плыць з плынню, нават рукамі памагаць не мус. У знакамітай кнізе Ільфа і Пятрова згадваецца транспарант: «Спасение утопающих - это дело рук самих утопающих». Хочаце пагібелі? Калі ласка!

Будучыня нацыі - ва ўласнай эканоміцы найперш. Калі нам і сёння жадаецца ў першую чаргу «людзьмі звацца» - корань самарусіфікацыі! - дык прычына таго культурнага абарыгенства - у галадушнай эканоміцы. Ірландцы, як і тадышнія беларусы, жылі па-быдлячаму, але вось падлічылі, што іх удвая больш эмігравала ў ЗША, чым засталося на радзіме (па-беларуску бульбаноснай). Хто падлічыць, колькі ўцякло беларусаў з Беларусі? Для прыкладу, у цяперашняй Польшчы нават яе прэзідэнт ды плойма міністраў - заходнебеларускага родавага паходжання: віленскага, лідскага, наваградскага, гарадзенскага, паляшуцкага. Чаго дзіваваць - апошні польскі кароль Станіслаў Панятоўскі меў бацькоў, якія падпісваліся з беларускай акцэнтацыяй на «ў». Ужо не кажучы пра найславутага нацыянальнага героя Польшчы Касцюшку, які спяваў беларускія паўстанскія песні і насцярожваў палякаў сваім няпольскім акцэнтам (з Берасцейшчыны). Міцкевіч, паднебная веліч іх літаратуры, пісаў таксама па-беларуску (захаваліся тэксты). Савет скажа, што гэта праява дружбы народаў, хоць савецкая дружба гэта ўсяго саманазва агрэсіі, захопніцтва. Дружба, у якой дружбак канае, задыхаецца ў абдымках дружбанта. Пятля на шыю!

Уласная эканоміка павінна мець - і мае! - уласную гісторыю. Пачынаецца яна з эканамічнай геаграфіі. Капітал дакастрычніцкай Беларусі быў аж у трыццаць восем разоў меншы ад капіталу расійскага Царства Польскага, тэрытарыяльна параўнальнага, а лікам насельніцтва большага троху вышэй як удвая. Царская ўлада ні капейкі не давала на падтрыманне польскай культуры, палякі і не прасілі яе. У расійскамоўным тады губернскім горадзе Варшаве фабрыканты-патрыёты фінансавалі польскія газеты, польскія тэатры, польскія кніжныя выдавецтвы, у іх ліку энцыклапедычныя, салоны мастацтва, патайныя школы, Лятучы Ўніверсітэт (падпольны, бо варшаўскі быў расійскім). Мелі за што ў той час, калі віленская «Наша Ніва» ледзь ліпела, а за кніжкі не плацілі ганарараў, паэты паміралі ад сухотаў або вешаліся. Вось табе і шкала сітуацыі!

Расійскі капіталізм пераскочыў польскі, гудучы ў паласе ад Петраграду на Маскву і Ўрал, з адгалінаваннем на ўсходнюю, данецкую, Маларасію, пакідаючы па-за сваёй увагаю «Северо-западный Край» лапцюжнікаў, шляхецкіх ваколіцаў, жыдоўскіх мястэчак, худых і недавучаных паэтаў з іх марамі «людзьмі звацца» - такі заклік у палякаў ці латышоў быў бы ўспрыняты як пропаведзь адарванага ад жыцця ксяндза-маралiста. У беларусаў гэта азначала наесціся. Культура ім-яму - гэта панская выдумка. І меў рацыю наш галотнік, бо сапраўды - ад недахопу культуры яшчэ ніхто не памёр. Дэфініцыя культуры: неабавязковая актыўнасць чалавека. Галодныя і запрацаваныя - без шанцаў на культурнасць, ёй патрэбны вольны час на чытанне і думанне, без праблемы хлеба. Таму няма бедных і культурных, ім бурчыць у жываце, кішкі марш граюць... Таму рэвалюцыя ўяўляе сабою ўсенародны рабунак, адкіданне эканомікі на цэлыя пакаленні назад. Чуваць віскат паршукоў, валочаных на сала. Мараль Пецькі-гвалтаўніка, ідэолага супольных жонак. Дабівае нас калектывізм, злосць на выдатнікаў. Усе роўныя, некаторыя раўнейшыя (сакратары партыі). У такіх роўных і раўнейшых эканоміка стагназуе з той элементарнай прычыны, што свет крочыць дапераду крокамі зусім не мільёнаў, але адзінак. Эдысан вынайшаў электрычную лямпачку, а раней Лукасевіч нафтавую лямпу; імі пакарысталіся затым мільёны, сотні мільёнаў, мільярды чалавецтва. Як у літаратуры - у ёй лес талентаў і дзе-нідзе высозныя сосны.

Мы, здаецца, растлумачылі самі сабе, што людзей фармуе ў нацыю асобны лёс. Гэтую тэзу букварна ілюструе гісторыя. Усяму пачатак дае ўлада. Нашы заходнія суседзі, палякі, узніклі на зломе стагоддзяў

 

 



дванаццатага і трынаццатага - за часамі караля Лакетка. Чэхі моцна хісталі прапольскай дзяржаваю палякаў, валодаючы Шлёнскам і далінаю Віслы з Мазовіяй. Калі б перамаглі, сёння за Бугам і гарадзенскай Свіслаччу мелі б мы дачыненне з чэшскім народам, ад Беластоку да прыгарадаў Вены. Краевугольны камень пад беларускі асобны лёс паклалі не варагі на чале з Рагвалодам, але Вітаўт Вялікі, ствараючы моц, па-партнёрску супрацьстаўную Кракаву, Маскве, Рызе, Мальбарку, Крыму. У меру таго як Вільня муршэла - сыпалася і само ліцвінства, што - і натуральна, і лагічна. Заваліся Польшча ўжо ў 1569 годзе (Люблінская унія!), сённяшнія палякі пакутавалі б ад ідэнтычных з нашымі праблемаў. Выпаласкаўся б ім польскі лёс менавіта. Хаця захавалася б мова польская ды ўся, важная ў нацыястваральным працэсе, этнаграфія. Перамога Тухачэўскага з Дзяржынскім пад Варшаваю ў 1920 годзе працягнула б польскае бездзяржаўе (з канца васемнаццатага стагоддзя), нягледзячы на ўтварэнне Польскай ССР ад Шлёнску да Бярэзіны, з Беларускай АССР на працягу Менскай губерні. Быў такі план, выраблены ў Беластоку. Палякам Ленін аддаваў пасля і Менск, але яны не захацелі, расшыфраваўшы бальшавіцкую задуму накарміць «польскага гусака» меншасцямі да такое ступені, што скончыўся б з абжорства, бы тая цётка Алюта ад велікодных кілбасаў пасля посту... Чытай - бездзяржаўя ў імперскай некалі нацыі. Варшаве ўсё ж хапіла розуму не кідацца на менскую дармаўшчыну. Палітыкаў мела першага гатунку; у беларусаў былі сялянска-шляхецкія самавучкі, якіх абдурваў кожны, хто не лянівы. Учынілі нашы змагары міністрам замежных справаў БНР якогасьці чарнасоценнага манархіста толькі таму, што няблага валодаў ён французскай мовай, абавязковай на палітычных паркетах Еўропы. Божа, з кім раўня?!

Дзеля перамогі нацыянальна-вызвольнага руху трэба мінімум дзве ўмовы: унутранай яго мацаты, немаргінальнай у краіне, і палітычна-матэрыяльнага заплечча ў выглядзе істотнай дзяржавы звонку. Іначай рух сточыць рак сірочасці, адрынутасці. Уявіцца мышкаю кату. Пройгрыш узмоцніць уціск. На саму нацыянальную свядомасць уздзейнічае гэта парадаксальна пазітыўна, адчыняючы перспектыву на змаганне наступным пакаленням. Такое здарылася з польскімі паўстаннямі, нязменна прайгранымі, у чым былі зацікаўлены менавіта ўсе тры еўрапейскія імперыі.

Гісторыкі чамусьці не запыняюцца над фактам ізаляванасці навачаснай беларускай дзяржаўнасці. Беларускай Народнай Рэспублікі не прызнаў Берлін з прычыны яе эфемернасці, што абумовіла еўрапейскі байкот ёй. Кароткачасова, да моманту фармальнага абвяшчэння Саюзу ССР, праіснавала нямецкая амбасада ў Беларускай ССР. Прыблізна тое ж упаткала і Рэспубліку Беларусь. У чым бяда? Думаю, у дысгармоніі беларускага лёсу, у тым, што Беларусь усё валачэцца за светам, замест крочыць з ім поплеч і ў нагу. Гэтая з'ява вечнай спозненасці на цягнік гісторыі вынікае з яе прыроднага сацыялізму. Як быццам мала таго, што ў стварэнні бальшавіцкае партыі пераважалі заснавальнікі з беларускага лёсу, з Крэсаў, і не знайшлося хаця б аднаго расійца, то яшчэ ад калыскі беларус класава свядомы, а нацыянальна - нуль. Характэрна, што камунізм перамагаў у адсталых краінах і ні разу - у развітай, заможнай. Рэвалюцыі супраціўныя гаспадарчаму росквіту, яны прытрымліваюцца прынцыпу аднае бяды на ўсіх. Зніштажаецца імі грамадскі слой людзей дзейных, арганізатараў прагрэсу вытворчасці; сутнасць эканамічнага наступу жа ў канкурэнцыі, якое не дапускае бюракратычная планавая гаспадарка. Гэта адназначна даказала эканамічная гісторыя Расіі. Яе капіталістычная дынаміка ў пачатку XX стагоддзя паказвала на тое, што вырасце яна ў найпершы патэнцыял свету, прыкладна ў маштабах ЗША. Бальшавіцкі пераварот адсунуў Расію на задні план нават далей, чым Францыю пасля якабінскага шаленства (1789-га).

Чаму русіфікацыя Беларусі вырашальная для яе будучыні? Чаму яна - гэта катастрофа з запозненым дзеяннем на гады? Справа тут нават не ў маргіналізацыі нацыянальнай культуры, выраслай жа на нацыянальнай мове, на карэннай этнаграфічнасці. Вернемся яшчэ да сутнасці нацыянальнай мовы як арыгінальнай, непаўторнай, філасофскай сістэмы, народнага светабачання, асаблівага сэнсу жыцця, што папулярна завём душою або нацыянальным духам. Гэта не ў моц Божае фанабэрыі - асіміляцыя ліквідуе нацыі, а затым і дзяржавы. Асіміляцыя, перш за ўсё моўная, значыцьме ліквідацыю іншае душы. І паслядоўна за тым - прыняцце іншага свету быту, духоўнасці. Абазначае гетызацыю нацыянальнага, кастрацыю.

Русіфікацыя Беларусі саштурхоўвае яе ў правінцыйнасць, у завал этнічнага эпіцэнтру. Рэспубліка Беларусь як духоўная, а затым і гаспадарчая расійская правінцыя. Вобласць. Менталітэт правінцыяла заўсёды прыніжаны, ён стаіць на каленях. Чытабельна тлумачыць нам той механізм пашырэнне моды - ад сталіцы ў глыбінку, ніколі наадварот. Апынуцца ў арэале расійскай мовы раўназначна з загледжанасцю на яе нармалізоўчы цэнтр. Не на Менск, а на Маскву, на Пецярбург. Менск ператвараецца ў славутую «глубинку»; не ён вызначае культуру расійскамоўя. Толькі на выгляд гэта як бы без вялікага значэння. От, беларусы дэмакратычна палічылі за лепшае адкінуць сваю родную гутарку; іх воля, іх выбар. Але яны застаюцца беларусамі. Чаго тут плакаць!?

Беларусы з расійскай душою? Як кажа прэзідэнт: «Мы те же русские». Ну, калі «те же», дык аб чым можа быць гаворка? Рэспубліка Беларусь як другая дзяржава расіянаў. Пуцін дзівіцца: на халеру яна, гэтая другая!? Дыверсійная яму структура?!

Дык вось, дакранаемся да грамадскай псіхалогіі, да пачуцця ўсенароднага сэнсу існавання Рэспублікі. Калі імкнёмся ўсе да расійскага лёсу, то адзінай грамадска прымальнай перспектывай Беларусі можа быць яе самаліквідацыя, найлепей у рэферэндуме. Голас народу - голас Бога.

У сучаснай Беларусі падкрэсліваецца эканамічны патрыятызм (не аддамо расійцам нашых кампаній, фабрык). Ужо сам гэты віскат гучыць як прызнанне ўласнае слабасці. Добра было б да эканамічнага патрыятызму далучыць і нацыянальны, але дзе ён у краіне, выпаленай пажарам русіфікацыі?! Беларускасць зрабілася сімвалам апазіцыі, марненькай у сялянскім народзе. Хоць і з касмічнай векавечнасцю. Які даўгавечны можа быць эканамічны патрыятызм? Не даўжэй, пакуль агрэсар не запэўніць вышэйшага дабрабыту. Расія - тэарэтычна - здольная на тое, а вось беларускай культуры яна ніколі для Беларусі не запэўніць. Праўда, расійская ўлада, як болей культурная, не завозмецца кусаць беларушчыну; робяць гэта нашы родныя хамы. Не стануць расіякі шпарыць міліцэйскімі гумамі за беларускае слова на вуліцы. Рэжыму і міліцыянтам беларуская мова сталася антыўрадавай, ненавіснай. Толькі для прыліку чапляюць афіцыйнікі беларускія шыльды, друкуюць трохі па-беларуску, але народ дасканала ведае, што гэта мыльныя бурбалкі. Замазаць вочы цывілізаванай Еўропе, але ж нават дзіця ведае, што Рэспубліка Беларусь не пойдзе за ёю. Беларусь плюецца на Еўропу, ванітуе на яе ад агіды. Пытанне - як доўга? Дзесяцімільённая сацыялістычная Рэспубліка Беларусь у капіталістычным атачэнні. Куба на ўсходзе славяншчыны. Думаць трэба! Саюз жабы з кароваю.

Не мы, беларусы, будзем рухаць мазгамі. Шчаслівыя не намагаюцца на роздумы, таму яны дурнейшыя за нешчаслівых. Якая можа быць будучыня ў шчаслівых? Нашто яна ім!? З дасягненнем камуністычнага раю чалавецтва застыла б у бяздзейнасці. Як у раі. Канец гісторыі. Гісторыя, аднак, усё коціцца, неабавязкова дапераду. У Беларусі лягла валуном. Бо і чаго ёй каціцца, калі ўсюды наўкола горай. А ў нас вось рэгулярна выплачваюць пенсіі, заробкі. У Расіі - не, ва Ўкраіне галадуха, у Літве разбой, у Латвіі блядства, у Польшчы вуліцы заваленыя трупамі памерлых ад бясхлебіцы. А ў Амерыцы б'юць неграў!

У Рэспубліцы Беларусь жыць а жыць, не паміраць! Толькі каго мы потым дагонім? Паўночную Карэю?

Прагназаваць для Беларусі будучыню - гэта дзіцячая гульня, простая з простых. Беларусы ў сваей масе, як тыя Майсеевы жыды, рушацца жыць па-чалавечаму толькі з адміраннем апошняга пакалення, якое памятае сацыялістычны рай (інакш: самарабства). Памятайма пры нагодзе: сацыялізм для гаспадаркі значыць стагнацыю, безрух, нірвану галоты.

Ці патрэбна буйная фантазія, каб угледзець Беларусь праз гадоў дзесяць? Ні трохі. Гэта будзе краіна з комплексам правінцыі і тэхнікай на музейным узроўні. Варта датлумачыць наконт тэхнікі: без інвестыцый у замежныя высокія тэхналогіі беларусы будуць кусаць свой хвост. Сур'ёзных інвестараў у беларускай эканоміцы не відаць. Яна праядае пакінуты ёй савецкі патэнцыял. Састарэлы, бо ў тэхнічным свеце кожнае дзесяцігоддзе адбываецца навукова-тэхнічны пераварот. Было так некалі ў сацыялістычнай Польшчы: аднойчы газеты распісаліся аб тым, што Захад купляе польскія такарныя станкі. Аказалася, што адзін станок набыў швейцарскі музей тэхнікі... Але наконт таго прапаганда змаўчала.

Аляксандр Рыгоравіч (на прамілы Бог!), як можа разгортваць сваю мацату краіна, абгароджаная плотам ізаляцыі?! Яна неўзабаве апусціцца ў стан такое беднасці, што з ёю ніхто не захоча гешэфтаў. Бо што з яе ўзяць, калі бульба і тая горшая ды даражэйшая за нямецкую. Неданяньчаная, як у баўэра. Бабы яе капаюць і п'яныя механізатары. Сярод багатых мала алкаголікаў, а сярод бедных гарэлка - нацыянальны напой. Па-пушкінску кажучы - «выпьем с горя, где же кружка, сердцу будет веселей». З той істотнай розніцай, што ў Беларусі «шкварка і чарка» лічыцца праяваю добрага лёсу, канчальнага раю. Мы маем сала, а вось расіяне зайздросцяць нам на гэтае сала... Дапусцім. На гэтым трымаецца беларускі патрыятызм, амаль нацыянальны.

Паеў - і ў хлеў, казала маці.

Як бядак нараджае бедака, так савет савета. Усё ж генетыка бярэ сваё. Нашы продкі не былі саветамі, хоць бедакамі. У іх бурліла амерыканская цяга разбагацець (ЗША стварыла еўрапейская эмігранцкая басота, а Аўстралію - лонданскія прастытуткі ды бандыты). Вывадак нашых дзяцей ужо не вельмі савецкі, а дзеці дзяцей павырастаюць на больш-менш падобных да еўрапейцаў. Галоўным чынам рацыянальных, не лірыкаў рэчаіснасці, што жывуць не для «великой страны», якой грамадзянін быў нічым, нулём, а салдат галодны і абадраны, а афіцэры - зладзеямі, а генералы - кантрабандыстамі, а спецназаўцы - эсэсаўцамі.

Ілюзіяй ёсць чакаць у Беларусі нацыянальнага адраджэння, хоць сама нацыянальная культура будзе нязгасна тлець, каб успалымнець у насталую свабоду. У Беларусі няма таталітарызму, не той народ, у якім мог бы ён укараніцца. Дух улады - адбітак народнага. Рэспубліка Беларусь не прападзе, занадта доўга яна існуе, выгадавала процьму ўласнае эліты, якую інтэграцыя з Расіяй выкасіла б да астатняга кусціка; акупанты прысылаюць сваіх ураднікаў у падпарадкаваны край. Эканамічны заняпад немінучы, Еўропе напляваць на сацыялізм беларускага прыходу (ёй важны гіганцкі расійскі рынак). Неістотны кантыненту паралюшны рэгіён можа сабе інфантыльна нагуляцца сваімі цацкамі, а калі што - адключым яму, тупалобцу, газ і нафту, на каленях тады прыпаўзе да Крамля, па-паншчыннаму, слёзна цалуючы боты «барина». Анексіі яму рабіць не будуць, бо нашто? Садзіць за стол неперспектыўнага нахлебніка, з якога ні ўзяць ні ўцяць? Хай сам сябе корміць, бы нейкае перыферыйнае племя, пра якое хаця б шведы не чулі, а ў Парыжы мяркуюць, што гэта цудам адноўлены анклаў Белай Расіі з казацкім гетманам украінскай пароды. Беларусь, ментальна набрынялая эйфарыяй калгаснага шчасця замест згрызотаў пошукаў шляхоў развіцця, «не желает» аніякіх партнёраў, а магчымыя (патрэбныя) партнёры і чуць не чувалі пра яе.

На найбліжэйшае дзесяцігоддзе прарочу ёй, на жаль, сітуацыю бантустану. Потым дай Бог каб не дайшло да сацыяльнага выбуху, калі пачнуць адыходзіць з жыцця масы шчаслівых.

P. S. Дзесяцігоддзе Лукашэнкі - гэта прамарнаванае дзесяцігоддзе. Таму наступнае дзесяцігоддзе будзе дзесяцігоддзем апамятання. І толькі ў трэцім - заварушыцца Беларусь. Раней гэта немагчыма: не тыя людзі, не тая ўлада, не тыя сродкі. "Arche" 2 2004

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

**Цімафей Ліякумовіч (Чыкага)**

# Нязгасны агонь пашаны, захаплення і натхнення

*190 год з дня нараджэння М.Ю.Лермантава*

У беларускай літаратуры, бадай, не знойдзецца ніводнага пісьменніка, які б ні звяртаўся з удзячнаснасцю да літаратурнай спадчыны Міхаіла Лермантава. І гэта зусім не выпадкова, бо паэзія, проза і драматургія рускага класіка – творы высокага гуманізму, якія палаюць полымем свабоды, гордасцю чалавечага духу, насычаны турботамі аб справядлівасці, аб светлым лёсе, аб неабходнасці наладжвання справядлівых умоў супольнага жыцця людзей. Лермантаў з болем пісаў пра чалавечыя пакуты, з гневам кляйміў парадкі, пры якіх чалавек не мог раскрыць сваё высокае прызначэнне на зямлі і вымушаны быў душыцца ў затхлай атмасферы рабскага падпарадкавання самадзяржаўнай уладзе. Ягоныя творы, светлыя і журботныя, напоўненыя філасофскім роздумам аб праблемах жыцця і смерці, дабра і зла, спачування і нянавісці, служаць палкім узорам памкнення да людскасці і паразумення. Мяцежны агонь лермантаўскага слова распальвае ў сэрцах полымя любві да ўсяго, што ўзвышае, і нянавісці да ўсяго таго, што прыніжае, чалавека. Творы, для якіх характэрны "высокая рамантыка, самаахвярнае каханне, спрадвечныя пошукі праўды і сэнсу жыцця, імкненне да подзвігу ў імя высакароднай мэты, глыбокае пачуццё грамадзянскага абавязку, уладарна прымушаюць думаць, трывожыцца, радавацца і абурацца. Магчыма, ніхто іншы не ўмее так моцна абудзіць у маладых сэрцах пачуццё чалавечай годнасці, гонару, пякучай нянавісці да ўсякай хлусні і несправядлівасці. І кожны з нас у сваю лермантаўскую ноч выходзіць адзін на прамяністую дарогу, каб паслухаць, як зорка з зоркай гаворыць, і памысліць пра жыццё". (П.Панчанка). Вось чаму не выклікае здзіўлення тое, што беларусы ўспрынялі Лермантава як роднага сабе чалавека, а творцы беларускага пісьменства ўзялі ў свой духоўны і мастацкі багаж набыткі ягонага высакароднага слова.

Ужо ў паэме "Тарас на Парнасе" лермантаўскае імя ўпаміналася побач з імёнамі Пушкіна, Гогаля і Жукоўскага як лепшых прадстаўнікоў рускай літаратуры, у чым, па думцы М.Багдановіча, праявілася блізкасць беларускага творцы да рускай літаратуры, разуменне, "при том не равнодушное, не безразличное", "кто у нее сын, а кто подкидыш".

Лермантаўскія сімвалы, вобразы і інтанацыі творча выкарыстоўваліся ў паэзіі першых заступнікаў беларускага сялянства, спрыялі сцвярджэнню дэмакратычнага напрамку развіцця беларускай літаратуры. Багушэвічавы "Хмаркі" аказаліся блізкімі да лермантаўскага верша "Тучи". Лермантаўскі ўплыў адчуваецца ў адкрытым сацыяльным характары лірыкі Цёткі, у творах якой выкрываліся злачынствы самаўладства, абараняліся інтарэсы гаротнага мужыка і ўслаўляўся чалавек, які набыў самасвядомасць і таму стаў актыўным шукальнікам уласнага лёсу.

Янка Купала прызнаваўся, што на пачатку сваёй літаратурнай дзейнасці захапляўся Лермантавым нават больш, чым Пушкіным, бо лічыў яго творы найбольш сугучнымі да той цяжкай справы змагання за разняволенне прыгоннага мужыка, чым пушкінскія. Лермантаўскую "прысутнасць" можна адчуць у такіх яго арыгінальных вершах, як "Бываюць хвілі…", "Б'юць на трывогу званы", "Легла на сэрцы гора нядольнае", "Мая доля", "Мая малітва" ("Я буду маліцца і сэрцам, і думамі…"), "Над калыскай" ("Спі, маленькі мой сыночак!"), "Прыстаў я жыць" і інш. Далейшае развіццё лермантаўскай думкі аб грамадзянскім прызначэнні мастака знайшло адлюстраванне ў вершах "Песня званара", "Гусляр", "Прарок", у паэме "Курган". У героях "Бандароўны" і "Магілы льва" прадстаўлены каларытныя вобразы, роднасныя рамантычным лермантаўскім героям, хаця яны, безумоўна, творы спецыфічна беларускага характару.

Як і Янка Купала, Якуб Колас таксама выхоўваўся на лермантаўскай паэзіі. Вершы рускага класіка запалі яму глыбока ў душу. Ён захапляўся "Парусом", "Тучами" (аўтар "Новай зямлі" лычыў гэты твор "выдатным па сіле паэтычнага майстэрства лірычным вершам"), быў упэўнены, што "Лермантаў застаўся б адным з першых свяцілаў літаратуры, калі б ён пакінуў нам толькі "Героя нашего времени". З дзіцячых гадоў Якуб Колас ведаў на памяць усяго "Демона". Уважлівае стаўленне беларускіх майстроў паэтычнага слова да лермантаўскай спадчыны тлумачыў тым, што напеўнасць і лірызм твораў рускага пісьменніка блізкія мелодыям беларускага народнага верша. З лермантаўскімі пераклікаюцца Коласавы "Вобразы самаўладдзя", "Мой дом", "Не пытайце, не прасеце…", "Паэту" і інш., сугучныя матывы адчуваюцца у паэмах "Мцыри" і "Сымон-музыка" з іх палкімі памкненнямі да духоўнага вызвалення чалавечай асобы, з іх насычаным трагізмам парывання да свабоды з ланцугоў няволі.

Шмат увагі аддаваў паэзіі Лермантава Максім Багдановіч. Ён прысвяціў яму артыкул "Одинокий" (1914), напісаны да 100-годдзя з дня нараджэння рускага паэта, нагадваў пра яго ў іншых літаратурна-крытычных працах, праяўляў інтарэс да лермантаўскіх "элементаў" не толькі ў беларускай, а і ва ўкраінскай паэзіі. Водгукі яе адчуваюцца таксама ў ягонай уласнай творчасці, асабліва ў паэмах "Максім і Магдалена" і "Страцім-Лебедзь", у якіх знайшла новае вырашэнне праблема неабходнасці самаахвярнасці ў імя іншых.

Станаўленне і развіццё нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі адбывалася пад непасрэдным і актыўным уплывам палкага лермантаўскага слова, а ўвага да яго выразнікаў долі мужыцкай закладвала плённы фундамент пад яднанне набыткаў рускай класікі з нацыянальнымі асновамі светаўспрымання.

Уздзеянне Лермантава на беларускую літратаратуру было жыватворным увесь XX век. Менавіта знаёмства з творамі Лермантава паслужыла, па іх уласнаму прызнанню, своеасаблівым штуршком да пачатку творчасці К.Крапівы, М.Лужаніна, А.Звонака і многіх іншых вядомых беларускіх мастакоў слова, што ўнеслі значны ўклад ў развіццё роднай літаратуры. Не размінуліся са словам класіка П.Броўка, Максім Танк, А.Зарыцкі, А.Русецкі, Н.Гілевіч, А.Лойка і многія іншыя паэты, якімі ганарыцца зямля з блакітнымі азёрамі і зялёнымі лясамі. Зварот да лермантаўскага творчага вопыту дапамагаў беларускім пісьменнікам паспяхова вырашаць многія творчыя задачы.

Так, аднім са штуршкоў для стварэння славутай паэмы "Сцяг брыгады" А.Куляшову паслужыў вобраз адзінокага лістка, адарванага ад дрэва і вымушанага блукаць па свеце.

*Як ад роднай галіны дубовы лісток адарваны,*
*Родны Мінск я пакінуў, нямецкай бамбёжкаю гнаны.*

Гэты вобраз, спрыяючы выяўленню трагічнай танальнасці твора, адыграў ролю напружанага горкага запеву для раскрыцця пакутных перажыванняў чалавека, гвалтоўна пастаўленага перад неабходнасцю пакінуць родны край і сваю сям'ю, якія стагналі пад жорсткім ботам захопнікаў, каб выканаць цяжкую і ганаровую працу вызваліцеля. Дакладна адзначыў гэта дачыненне двух паэтаў М.Лужанін: "А ў час Айчыннай вайны горка выдыхнуў тыя ж самыя словы, адчуўшы іх сваімі, беларускі паэт Аркадзь Куляшоў /…/ Дзіўна было б гаварыць у гэтым выпадку пра запазычанне ці

 

проста наследванне. Так, два пачатковых радкі супадаюць, хай гэта абумовіла рытмічную плынь "Сцяга брыгады", але ўсё ж падстаў для такой размовы далёка не хапае. Дый лёсы вобразаў дубовага лістка маюць толькі часовыя адзнакі падабенства і потым рэзка разыходзяцца. Відаць, справа тут хіліцца на іншае. Якой сілы і трываласці павінен быць паэтычны зарад у лермантаўскім слове, каб праз стагоддзе выбухваць новымі творамі, каб улада гэтага слова была настолькі неадольнай, што паэты іншай пары прызнаюць яго за ўласны, свайго духоўнага вопыту здабытак!"

Беларускія пісьменнікі знаходзілі ў рускага класіка найбольш блізкае свайму светапогляду, што спрыяла плённаму праламленню яго мастацкіх адкрыццяў у іх самабытнай творчасці. Ужо ўпамянуты намі М.Лужанін засведчыў, што Лермантаў пайшоў з ім "з маленста ў юнацтва, не выпусціў з-пад улады і тады, калі зачаравала, перш за ўсё роднасцю сваёю, слова Купалы, калі прывязаў да сябе невідочнымі ланцугамі Шаўчэнка, загрымеў літаўрамі верша Маякоўскі, шчымліва заспяваў Ясенін, рэзкаю віднатою пачуцця ўдарыў Блок".

Янка Брыль прызнаецца, што дотык душой да таго, што звязана з іменем Лермантава, таксама, як з імёнамі Льва Талстога, Янкі Купалы, Тараса Шаўчэнкі, Адама Міцкевіча, заўсёды ўздымае і ачышчае яго пачуцці, а значыцца, садзейнічае плоднай працы над словам, надае натхненне і ўзнімае працаздольнасць. Ён сцвярджае, што пра любоў да Лермантава можна гаварыць амаль таксама, як пра любоў да маці.

"Я не першы і не апошні станаўлюся перад ім на калені. Не адзін я, а тысячы людзей закаханы ў яго паэзію. І кожны з нас любіць яго па- свойму", -- прызнаецца Мікола Аўрамчык, у якога не толькі ў творчасці, але і ў жыцці рускі паэт адыграў значную ролю. Улетку 1941 года вайсковая часць, у якой служыў малады паэт, спынілася на кароткі начны час непадаёку ад лермантаўскіх мясцін. У парушэнне дысцыпліны камандзір дазволіў салдату адлучыцца ў Тарханы, каб сустрэцца з любімым пісьменнікам. Аўрамчык доўга хадзіў па пакоях музея-дома, у якім выхоўваўся Лермантаў. І не ўтрымаўся, каб не ўзяць адну з паштовых адкрытак з воблікам таго, каго абагаўляў. Тая паштоўка зрабілася яго талісманам, прайшла з ім праз ўсе цяжкія выпрабаванні. Калі Аўрамчык апынуўся ў палоне і быў вымушаны працаваць на паднявольнай працы ў шахтах Рура, паштоўка з воблікам Лермантава падтрымлівала яго ў самы цяжкі час, ператварылася ў сімвал Радзімы, якая абавязкова пераможа крыважэрнага ворага, надавала веру ў немінучасць вызвалення.

Многа зрабілі беларускія паэты дзеля таго, каб лермантаўскае слова, народжаная з агню і прамення, годна загучала на беларускай мове. Яшчэ ў 19–м стагоддзі гэту работу распачаў Альгерд Абуховіч, на пераклады якога звярнуў увагу М.Багдановіч, бо лічыў, што перакладчыцкая праца спрыяе пашырэнню тэматыкі і форм беларускай паэзіі.

Шырока разгарнулася праца па "перанясенню" твораў Лермантава на родную мову ў канцы 30-х гадоў мінулага века, калі Беларусь, разам з усім светам рыхтавалася спачатку адзначыць 125-годдзе з дня яго нараджэння (1939), а потым 100-годдзе з дня смерці (1941). З вялікай адказнасцю паставіўся да гэтай працы Янка Купала: "Перакладаю Лермантава на беларускую мову. Гэта вельмі вялікая, хвалюючая і патрэбная праца». На жаль, яго пераклады загінулі ў віхуры ваенных гадоў.

Новы ўзлёт перакладчыцкай працы твораў Лермантава на беларускую мову набыў у пасляваенные гады. У выніку яе ў 1950 годзе з'явілася кніга лермантаўскіх паэм у перакладах Якуба Коласа, А.Зарыцкага, А.Вялюгіна, А.Бялевіча і іншых.

У 1969 годзе ўбачыў свет зборнік Лермантава "Выбраная паэзія", які складаўся з перакладаў Аркадзя Куляшова – паэта, які так арганічна зжыўся з лермантаўскім словам, тонка адчуваў яго нюансы, рытмічны і стылістычны лад яго паэзіі, што ў адпаведнай мастацкай форме, "гэтак жа празрыста, выразна і кампактна", па вызначэнню А.Вярцінскага, перадаў "афарыстычнасць, гранёную чаканісць ёмістага лермантаўскага радка" на беларускую мову. За гэты зборнік яму была прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Янкі Купалы. Дарэчы, пераклады Куляшова рабіліся не па мандату абавязку, а па запатрабаванню сэрца. Справа ў тым, што напярэдадні вайны Куляшоў пераклаў шматлікую колькасць лермантаўскіх твораў, якія павінны былі скласці асобны зборнік, прымеркаваны да стогадовага юбілею рускага класіка, але і яго пераклады загінулі ў чорны час фашысцкай навалы. Давялося яму занава распачаць гэтую вялікую працу, якую лічыў для сябе пачэснай. Гармонія, якая існуе паміж арыгіналамі і куляшоўскімі перакладамі, здзіўляе сваёй паўнатой, сваёй сугучнасцю, пакідае ўражанне першароднага характава. Перакладчык надаў лермантаўскаму слову паўнацэннае жыццё ў беларускім варыянце.

Узнаўлялі слова Лермантава на роднай мове таксама Э.Агняцвет, К.Кірэенка, П.Макаль, У.Шахавец, В.Зуёнак, Я.Міклашэўскі і інш. Усе перакладчыкі сур'ёзна ставіліся да твораў Лермантава, адчувалі асаблівасці яго таленту, што спрыяла ў гнуткіх радках раскрыццю жывой душы рускага паэта, перадачы яго сумнага роздуму, журботнага настрою і светлых пачуццяў без парушэння эмацыянальнай насычанасці розных адценняў. Майстры беларускага слова здолелі не згубіць пры трансфармацыі лермантаўскіх радкоў на родную глебу характэрныя для яго пераходы ад журботных перажыванняў да філасофскіх разважанняў, выявіць глыбокі сэнс і падтэкст яго твораў, у якіх праяўляецца горды і нязломны чалавечы дух свабоды, адмаўлення ўсяго чужога чалавечай прыродзе. Пры знаёмстве з перакладамі складваецца ўражанне, што рускі паэт і яго перакладчыкі жылі агульным эмацыянальным уздымам. Чуйныя ж адносіны да паэтычных інтанацый першакрыніцы надалі перакладам адпаведную аўтарскай мяккую пластычнасць. Пераклады яшчэ больш далучылі беларусаў і беларускую літаратуру да палкага лермантаўскага слова, да тых высокіх ідэй, якія самаахвярна гучалі ў яго паэзіі, і ў той жа час абагацілі мастацкія магчымасці беларускага верша і беларускай мовы таксама.

Лермантаў так трывала ўвайшоў у жыццё і творчасць беларускіх пісьменнікаў, што многіх з іх натхніў на напісанне мастацкіх твораў, прысвечаных свайму настаўніку і дарадцу. Лермантава ўславілі ў вершах П.Броўка, Максім Танк, С.Грахоўскі, А.Зарыцкі, В.Таўлай, М.Аўрамчык, А.Лойка і інш.

Беларусь любіць і шануе бессмяротнае лермантаўскае слова. Думкі, пачуцці і развагі рускага паэта працягваюць хваляваць усё новыя пакаленні, знаходзіць жывы водгук у сэрцах людзей. Адметная лермантаўская пячатка пакідае адкладваць свой шчодры адбітак на духоўны свет творцаў беларускага пісьменства. У гэтым нагляднa выяўляецца несмяротнасць лермантаўскай паэзіі, якая спрыяе паразуменню паміж людзьмі і абагачэнню братніх культур. Яго зорная спадчына патрэбна беларусам сёння таксама, як і раней.



## Уладзімір АРЛОЎ: "Я дыхаў паветрам свабоды"

Пасля "рэферэндуму" і "выбараў" у Беларусі за станоўчымі эмоцыямі мы вымушаны ездзіць за мяжу. Кіеўскі майдан Незалежнасці ва ўсведамленні беларускіх патрыётаў - гэта пляцоўка, дзе ўжо адбываецца спектакль, які мы толькі марым паставіць на ўласнай палітычнай сцэне. Напрыканцы мінулага тыдня наш вядомы пісьменнік Уладзімір Арлоў быў у Кіеве. Па вяртанні з ім гаворыць наш карэспандэнт.

- Як бы Вы, спадар Уладзімір, сфармулявалі агульнае ўражанне ад паездкі?

- Калі вельмі коратка, я сказаў бы так: я дыхаў паветрам свабоды.

- Ці можна казаць пра нейкае рэальнае супрацьстаянне прыхільнікаў Юшчанкі і Януковіча?

- Кіеў адназначна за Юшчанку. Пра гэта сведчаць сотні тысяч людзей на мітынгах на майдане Незалежнасці, безліч аранжавых налепак, стужак, графіці. Не ўсе графіці вылучаюцца вытанчанай лексікай, але ўсе дасціпныя. У іх адчуваецца упэўненасць ў перамозе. Сярод аранжавага мора, якое захліснула Кіеў, я асабіста бачыў толькі трох чалавек з блакітна-белай сімволікай Януковіча. А яшчэ я быў сведкам хроснага ходу з харугвамі і партрэтамі кандыдата ад улады. Працэсія не ўражвала масавасцю. Акрамя некалькіх святароў, у ёй бралі ўдзел 27 вернікаў Украінскай праваслаўнай царквы Маскоўскага патрыярхату.

Дарэчы, кожным ранкам на майдане Незалежнасці праходзяць набажэнствы, ў якіх бяруць удзел святары грэка-каталіцкія і рымска-каталіцкія, святары Незалежнай Украінскай праваслаўнай царквы (Кіеўскі патрыярхат), часам - мулы і рабіны. Але тут ніколі не бачылі святароў украінскага аддзялення РПЦ.

- Што, на Вашу думку, можна сказаць наогул пра пазіцыю Масквы ў дачыненні да ўкраінскіх падзей?

- Масква церпіць цяжкую палітычную паразу. Можна ўжо абсалютна ўпэўнена сцвярджаць, што Януковіч, якога Пуцін (як і Лукашэнка) паспяшаўся павіншаваць з перамогай на прэзідэнцкіх выбарах, прэзідэнтам Украіны не будзе.

Гэта, вядома, не азначае, што Масква змірыцца са сваім фіяска. Мабыць, у бліжэйшай перспектыве яна паспрабуе рэалізаваць ва Украіне нешта накшталт прыднястроўскага сцэнару. Ну і, вядома ж, будзе і надалей запалохваць абывацеля ўкраінскім нацыяналізмам. Днямі на РТР паказвалі "дакументальны" фільм "Бандэраўцы". Я бяру слова "дакументальны" ў двукоссе, бо ўбачыў у фільме, які прысвечаны Другой сусветнай вайне ва Украіне, знаёмыя са школьных падручнікаў хрэстаматыйныя кадры зверстваў фашыстаў у акупаваным Мінску. Пры чым тут Украіна, пры чым бандэраўцы?

- Ваш прагноз наконт апошніх падзей ва Украіне?

- Віншаванні з перамогай на прэзідэнцкіх выбарах будзе прымаць Юшчанка, а я павіншую свайго сябра - аднаго з лідэраў украінскага пастмадэрнізму Аляксандра Ірванца з тым, што яго антыўтопія пра раздзел Украіны на дзве дзяржавы "Рівне/Ровно" ні гэтымі днямі, ні пазней не здзейснілася.

- І апошняе пытанне. Ці сустракаліся Вы з беларусамі, якія нясуць вахту салідарнасці ў намётах на Хрэшчацiку?

- Вядома, сустракаўся. Аднаму з іх, Алегу (прозвішча называць не буду, бо ён студэнт і ў яго і без гэтага праблем хапае) я падарыў сваю новую кнігу "Каханак яе вялікасці". Ад свежага бохана "Нарачанскага" хлеба Алег з сябрамі адмовіліся і папрасілі перадаць яго ўкраінцам, у якіх такога смачнага хлеба няма. Хлопцы казалі, што ім сніцца свая рэвалюцыя - бел-чырвона-белая.

Гутарыў Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.

***********************************************

## «Аранжавую» Украіну чакаюць у НАТО

Паўночнаатлантычны альянс ужо прыняў палітычнае рашэнне аб прыёме Украіны ў НАТО — засталося толькі аформіць яго юрыдычна. Пра гэта ўчора заявіў віцэ-прэзідэнт расійскай Акадэміі геапалітычных праблем генерал-палкоўнік Леанід Івашоў.

«Рашэнне аб прыёме ў НАТО Украіны — гэта буйны палітычны крок і, нягледзячы на негатоўнасць украінскіх узброеных сіл перайсці ў бліжэйшыя гады на стандарты альянсу, Кіеў будзе паскорана прыняты ў НАТО ў выпадку перамогі Юшчанкі», — сказаў Івашоў.

Ён таксама заявіў, што ЗША і НАТО імкнуцца адарваць Украіну ад Расіі, стварыць супраць Расіі магутны плацдарм і новыя ваенныя пагрозы. У выпадку ўступлення Украіны ў НАТО Расія будзе неадкладна выстаўлена са сваёй ваенна-марской базы ў Севастопалі, а яе флот — зацiснуты на кавалачку расійскага Чарнаморскага

***********************************************

## Януш Анышкевіч: Эўразьвяз не павінен праводзіць у дачыненьні да Беларусі выключна пасыўнай палітыкі

*Надоечы Менск наведаў намесьнік старшыні Эўрапейскага Парлямэнту Януш Анышкевіч. Падчас кароткага візыту ён сустрэўся зь лідарамі апазыцыі і віцэ-міністрам замежных справаў. Не сустрэўся з Аляксандрам Лукашэнкам. Радыё «Палёнія» папрасіла Януша Анышкевіча распавесьці пра свой візыт.*

- Асноўнай мэтай маёй паездкі быў збор інфармацыі, якая паслужыць мне дзеля апрацоўкі прапановаў розных дзейнасьцяў Эўрапарлямэнту і ўладаў Эўразьвязу. Усё гэта робіцца ў сувязі з апрацоўкай у Эўразьвязе ўзаемадачыненьняў з суседнімі краінамі, а значыць і зь Беларусяй таксама. Менавіта я павінен такую інфармацыю прадставіць, і адсюль быў мой прыезд у Менск на запрашэньне Італьянскай Амбасады. У Беларусі няма Амбасады Нідэрляндаў, і таму менавіта Амбасада Італіі нейкім чынам рэпрэзэнтуе там Эўразьвяз. На тэрыторыі Амбасады ў мяне адбыліся розныя сустрэчы з прадстаўнікамі незалежных і апазыцыйных асяродзьдзяў. Пазьней, пад канец, я сустрэўся зь віцэ-міністрам замежных справаў Беларусі Аляксандрам Міхневічам, а яшчэ пазьней, карыстаючыся нагодай, што быў якраз Дзень Правоў Чалавека, і што апазыцыя ладзіла дэманстрацыю, мэтай якой было прыпомніць, што многія іх сугрaмадзяне бясьследна зьніклі, і невядома што зь імі сталася, я пайшоў, каб сустрэцца з удзельнікамі дэманстрацыі й далучыцца да іх.

***– Якая была рэакцыя афіцыйнай Беларусі, па-першае, на тое, што намесьнік старшыні Эўрапарлямэнту прыехаў сустракацца зь лідарамі апазыцыі, а ня зь лідарам краіны, а па-другое, якая была рэакцыя на ваш удзел у дэманстрацыі? Ці вядома вам, што такія дэманстрацыі часта разганяюць?***

- Калі я там быў, шчыра кажучы, сытуацыя не выглядала гэтак грозна, бо дэманстрацыя была спакойная, вакол круцілася крыху міліцыянтаў, але ніякіх рэгулярных аддзелаў, якія былі б гатовыя да разгону дэманстрацыі так, як гэта, на жаль, вельмі часта ў Беларусі бывае, я ня бачыў. А пра рэакцыю ўладаў мне цяжка сказаць, бо я адразу пасьля дэманстрацыі сеў на цягнік і паехаў у Варшаву, таму й ня ведаю. Мне здаецца, што сам мой прыезд успрынялі досыць спакойна. Найлепшым доказам гэтага мне здаецца тое, што хаця я найперш меў сустрэчу з усімі прадстаўнікамі так званай "пяцёркі" й незалежных асяродзьдзяў, усё ж адбылася сустрэча й зь віцэ-міністрам Аляксандрам Міхневічам.

***– Скажыце, калі ласка, якія прапановы могуць увайсьці ў ваш будучы рапарт і якія будуць рэкамэндацыі адносна дачыненьняў краінаў Эўразьвязу з суседняй Беларусяй?***

- Эўразьвяз, безумоўна, не павінен праводзіць у дачыненьні да Беларусі выключна пасыўнай палітыкі, што абапіраецца на ізаляваньні краіны, ці дакладней - маўклівай згодзе на палітыку самаізаляцыі, якую, на добры лад, вядзе сама Беларусь. Кажучы ў больш станоўчым ключы, думаю, што Эўразьвяз павінен апрацаваць такія мэханізмы, дзякуючы якім можна было б падтрымваць паўставаньне ў Беларусі грамадзянскай супольнасьці, абыходзячы беларускія ўлады, і не пытаючыся ў іх дазволу, бо падтрымкі зь іхнага боку, натуральна, ня будзе. Таму я думаю, што тут трэба будзе задумацца над такімі мэханізмамі, узор якіх нам, палякам, дае колішні амэрыканскі "Фонд на карысьць дэмакратыі", які настолькі эфэктыўна падтрымваў усе асяродзьдзі, якія былі аб'яднаныя вакол "Салідарнасьці".

# Беларускія мелёдыі сярод хмарачосаў Чыкага

На выставе мастака Юзафа Пучынскага



Юзаф Пучынскі

Гэтая экспазыцыя здаецца дзіўнай і незвычайнай менавіта тут, сярод высотных будынкаў горада-мегаполіса, у шумным урбаністычным асяродзьдзі, там, дзе пачынаецца славутая "чароўная міля", што вядзе ў даўнтаўн Чыкага. Але тым не меней яна карыстаецца вялікім посьпехам у выставачнай зале прэстыжнай галерэі "Камр" на першым паверсе Drake Hotel, што знаходзіцца паміж вуліцай Мічыган і возерам з такой жа назвай. У гэтым гатэлі спыняюцца прэзідэнты Злучаных Штатаў Амэрыкі і іншыя знакамітыя асобы; тут у лістападзе распачалася персанальная выстава твораў мастака Юзафа Пучынскага, аднаго са старэйшых і вопытнейшых у эміграцкім асяродзьдзі майстроў выяўленчага мастацтва.

Выстава зьмяшчае ў асноўным пейзажныя творы мастака, напісаныя ім у розныя гады. Адразу ж зьвяртаеш увагу на нейкую незвычайна яскравую насычанасьць жывапісу Юзафа Пучынскага, на ягоныя сакавітыя фарбы, шырокія і тонкія мазкі з дзіўным багацьцем адценьняў, паўтаноў, каларыстычных пераходаў. Усё гэта вельмі добра чытаецца, напрыклад, у такіх карцінах як "Двое і дрэва" з яе арыгінальнай кампазыцыяй, "На беразе ракі", дзе вабіць радасьць адкрыцьця такога цудоўнага кутка прыроды, "Восень на рацэ Вяча", дзе сьвяткуюць урачыстасьць усемагчымыя фарбы восені, "Кастрычнік" – з падкрэсьленай, амаль рэальна адчувальнай сьвежасьцю паветра, якім насычаны пейзаж, "Асеньні стог" – своеасаблівым гімне прыродзе, дзе гарманічна спалучаюцца класічныя прапорцыі і лініі. Глядзіш на ўсе гэтыя фарбы, і здаецца, нібыта гучыць урачыстая сымфонія радасьці ды сьвятла.

Іншую групу пейзажаў Юзафа Пучынскага адрозьнівае гармонія нібы прыглушаных фарбаў, не кантрастных, але на дзіва арганічных, якія вельмі добра перадаюць эмацыянальны настрой. Вось, напрыклад, нібы знарок "апусьцелы" пейзаж з адценьнямі сіняга колеру ("Сакавік"). Амаль рэальнае адчуваньне ветру, яго парываньняў, подыху зімовага паветра на фоне адзінства таноў неба і зямлі чытаецца у карціне "Зімовая дарога". Стрыманая гама фарбаў і тонкія пераходы ад зялёнага колеру да сіняга характэрныя для пейзажа "Смалявічы". Своеасаблівы рытм, каларыстычныя пераходы пры адлюстраваньні натуры мы бачым у палотнах "Вечар", "Бераг", "Блакітны сьнег"… І ўсё гэта, магчыма, меньш кідкі вонкава, але такі ж сакавіты высокакласны жывапіс, дзе заўлена і майстэрства, і актыўная аутарская прысутнасьць – яго, аўтара, адносіны да таго, што ён адлюстроўвае.

Часам такія адносіны мастака да натуры падкрэсьліваюцца ў яго карцінах спецыяльна, і гэта амаль заўсёды выклікае адчуваньне радаснага суперажываньня. Мы, напрыклад, у захап- леньні ад прыгажосьці пейзажу ў карціне "Чырвоны дом у вёсцы", дзе з вялізнай любоўю выпісаны кветкі на пярэднім пляне, бярозкі, мілы маленькі дамок, рэчка ўдалечыні, дом на другім беразе, перспектыва прасторы, што знікае ўдалечыні.. Так, гэта – рэальная натура, але не бясстрасная копія яе, а мае асабістае суб'ектыўнае бачаньне, – нібыта кажа нам мастак. Такія ж актыўныя аўтарскія адносіны да таго, што ён малюе, чытаюцца ў карцінах "На рэчцы Гайна", дзе ў цэнтры прыцягвае ўвагу прыгожая бярозка, "Вясна", што напісана з нейкім асаблівым размахам з параўнаўча невялікім фармаце, "Вецер на Балтыцы", дзе вельмі ўражліва перададзены своеасаблівы подых стыхіяў прыроды – мора, неба, марскога берагу, дрэваў на беразе. Іх параўнаўча нямнога, гэтых дрэваў, але ж зірніце, як энэргічна яны



"Minsk, Evening, 1952", 14 x 19 ins.

выпісаны мастаком; здаецца, што зноў чуеш нейкую асаблівую мелёдыю гармоніі ўсяго сьвету.

Большасьць пейзажаў Юзафа Пучынскага, якія экспануюцца на гэтай выставе, напісаны ў роднай мастаку Беларусі. Але цепліня і арыгінальнасьць аўтарскага бачаньня прыроды захоўваецца і ў нямногіх працах, напісаных у іншых мясьцінах. Адзначым сьветлы "Карэльскі пейзаж", амаль казачную карціну "У гарах Урала", невялікае палатно "Балгарыя", дзе перададзена асаблівае захапленьне архітэктурай малых формаў, працу "Восень", дзе прываблівае і адлюстраваньне горнага масіву, і матыў таямнічасьці, загадкі дарогі, што убягае ўдалечыню, матыў, які, дарэчы, паўтараецца і ў іншых карцінах мастака.

І ўсё ж калі бачыш на палатне блізкія, пазнавальныя мясьціны роднай Беларусі, узьнікае асаблівае хваляваньне і адчуваньне таго, што цябе цягне туды. Маюцца на ўвазе такія пейзажы як "Менск, вечар", "Беларуская ўскраіны", "Менск, гаражы", "Восеньскі вечар у Менску" ды іншыя. А "Уваход у парк", своеасаблівая карціна-рэтра, прымусіла прыгадаць маладосьць, усё тое хвалюючае і незабыўнае, што было тады. Спалучэньне рэальнасьці пейзажу і своеасаблівай дэкаратыўнасьці вылучае і напісаную ў Менску працу "Мароз". З вялікай любоўю выпісаны мастаком і фасад будынка, і дрэвы, і постаць дзяўчынкі ў чырвоным, і чароўны бела-сіні сьнег, што ляжыць на зямлі, і сняжынкі, якія так ціха і мякка падаюць на зямлю…

А вось іншая тэма, таксама адтуль, з той зямлі. Гэта карціна "Былыя яўрэйскія могілкі", дзе столькі горкай памяці і актуальнай і сёньня трывогі. Твор заклікае да роздуму, да суперажываньня. Асабісты пачатак, усё перажытае, звязанае з удзелам у Вялікай Айчыннай вайне, з цяжкім раненьнем і іншымі выпрабаваньнямі, знаходзяць сваё адлюстраваньне ў эмацыянальных адценьнях многіх палотнаў Юзафа Пучынскага. Не выпадкова ў гэтай экспазыцыі асаблівую цікавасьць выклікае невялікая, але выпакутаваная, поўная філасофскага роздуму карціна "Скончылася вайна". Не адлюстраваньне натуры, а імкненьне яе спасцігнуць, перадаць яе глыбінную сутнасьць, – гэтак я б вызначыў адну з асаблівасьцяў творчай індывідуальнасьці мастака.

Шматгаліновая творчасьць Юзафа Пучынскага прадстаўлена на гэтай выставе пераважна пейзажнымі творамі. Але ў актыве мастака – і тэматычны жывапіс, і графічныя працы, і літаратурныя творы. Яго індывідуальная мастакоўская манера – гэта працяг дапытліва-рэалістычных і адкрыта-імпрэсіяніскіх традыцый, тонкі дэкаратыўны пачатак, паглыбленае спасцікэньне сьвету разам са сваімі аўтарскімі адносінамі да яго, з нейкай сваёй фантазіяй, што ідзе ад заснаванай Маркам Шагалам Віцебскай мастакоўскай школы. Менавіта там, у Віцебску, талент Юзафа Пучынскага набываў у перадваенныя гады асновы майстэрства. Зьвярнтце ўвагу: у мностве яго пейзажных працаў нідзе няма паўтораў пункту гледжаньня, ракурсу, каляровых спалучэньняў. Пейзажы Юзафа Пучынскага загадкавыя і філасафічныя; мастак запрашае гледача разам з ім зірнуць на натуру, пастаяць, падумаць, уявіць сябе ў тым часе і ў той рэальнасьці. "Хто мы? Адкуль мы?" – гэтыя адвечныя пытаньні чытаюцца і ў яго пейзажным жывапісу. Не выпадкова адзін з самых лепшых беларускіх паэтаў Рыгор Барадулін прысьвяціў свайму даўняму сябру Юзафу Пучынскаму верш, у якім гучаць і такія радкі:

… І толькі воку мастака
Краса даверыцца адкрыцца,
Каб непаўторна паўтарыцца
Цнатлівым дотыкам мазка.

Хочацца пажадаць Юзафу Пучынскаму моцнага здароўя, доўгіх творчых гадоў і новых посьпехаў ва ўсіх жанрах яго натхнёнай творчасьці.

*Ванкарэм Нікіфаровіч.* /Chicago/

*****************************************************

# Белмова выходзіць з акопаў літаратуры

**Пра маладзёвую ініцыятыву "Вока" шырокая грамадскасць даведалася ўвосень у сувязі з акцыяй "Штурм-FM". Нагадаем, што ў ходзе яе актывісты "Вока" тэлефанавалі на FM-станцыі з просьбай паставіць у эфір беларускамоўныя песні. Між тым гэта далёка не адзіная акцыя маладзёвай ініцыятывы, якая 15 снежня сьвяткуе сваю першую гадавіну.**

За год існавання каардынатарамі ініцыятывы было праведзена шмат мерапрыемстваў, сярод якіх дыспут "Становішча беларускай мовы ў грамадстве", футбольны чэмпіянат "За беларускую мову" і ўдзел ў арганізацыі "Фан-клуба беларускай музыкі". Шэраг ініцыятыў "Вока" накіраваныя на беларусізацыю інфармацыйнай прасторы. Павелічэнню колькасці беларускамоўных старонак у інтэрнэце імкнулася садзейнічаць акцыя "Зрабі-BY", таксама "Вока" выступае за паўнавартасны беларускамоўны сэрвіс ад мабільных апаратараў.

*"Галоўнае нашае дасягненне ў тым, што мы данеслі да людзей, што праблема беларускай мовы існуе",* — адзначыў у *інтэрв'ю "Белорусским новостям"* каардынатар маладзёвай ініцыятывы "Вока" **Віталь Дабранач**. Па ягоных словах, наступны, 2005-ы, год, яна абвяшчае "Годам беларускай мовы". 14 траўня, у прыватнасці, плануецца правесці акцыю, прысвечаную дзесяцігоддзю правядзення рэферэндума аб наданні рускай мове статуса другой дзяржаўнай.

На пытанне карэспандэнта *"Белорусских новостей"*, ці не паралельнай ёсць дзейнасць "Вока" і Таварыства беларускай мовы, Віталь Дабранач адказаў: *"У ТБМ працуюць у асноўным больш сталыя людзі, якім ужо па сорак-пяцьдзесят год. Мы ж модная моладзь, якая размаўляе па-беларуску". Але розніца ва ўзросце не перашкаджае ТБМ і "Воку" ладзіць сумесныя праекты, сярод якіх, напрыклад, акцыя "За беларусізацыю МТС".*

Каментуючы вынікі нядаўняй акцыі "Штурм FM-2", Віталь Дабранач зазначыў, што ў яе ўдзельнікаў атрымалася замовіць у праграмах па заяўках слухачоў толькі шэсць беларускамоўных песень. *"Ці гэта нармальна, калі 200 чалавек на працягу некалькіх тыдняў тэлефануюць на шэсць радыёстанцый, і ў выніку ў эфіры з'яўляецца толькі шэсць песень?"* – задае ён рытарычнае пытанне.

Дарэчы, пяць з шасці "шчаслівых" заявак датычаць "Крамбамбулі": тры разы па просьбе "штурмавікоў" на радыё прагучаў "Абсэнт", па адным разе – "Люблю" і "Госьці". Кампанію камандзе Лявона Вольскага склала няспраўджаная беларуская еўранадзея — Ягор Вайчок з песняй "Спявайце са мной".

Віталь Дабранач прызнае, што многія беларускамоўныя рок-гурты проста не падыходзяць пад фармат радыёстанцый, аднак лічыць, што FM-станцыі маглі б *"круціць усе песні з альбомаў той жа "Крамбамбулі", а не толькі галоўныя хіты".* Дарэчы, у планах "Вока" значыцца правядзенне наступнай восеньню акцыі "Штурм FM-3".

Любыя крокі ў падтрымку беларускай мовы, улічваючы ейны сённяшні стан, варта вітаць. Аднак наколькі плённыя такія ініцыятывы "знізу"? З гэтым пытаннем *"Белорусские новости"* звярнуліся да вядомага паэта і перакладчыка Андрэя Хадановіча.

*"Па-першае, прыгадаем пра кроплю і камень. Па-другое, існуе стэрэатып, што жывыя сучасныя людзі на ёй не гавораць. Маўляў, навошта яе пашыраць? А вось такія ініцыятывы "знізу" даказваюць, што жыве мова, жывуць яе носьбіты, і на гэта трэба рэагаваць, трэба рабіць невялічкія саступкі",* — лічыць Андрэй Хадановіч.

Суразмоўца *"Белорусских новостей"* прыгадаў адну арыгінальную ініцыятыву сваіх сяброў: *"Пару год таму яны звярнуліся да фабрыкі "Камунарка" з просьбай беларусізаваць назвы цукерак. Тлумачылі гэта тым, што беларуская мова для іх — гэта свята, гэта радасць, і ўдвая больш прыемна, калі гэтая радасць прыходзіць разам з цукеркамі".*

*"Мы прызвычаіліся да таго, што беларуская мова сядзіць у акопах беларускай літаратуры,* — заўважае Андрэй Хадановіч. — *Лічыцца, што на беларускай мове вельмі проста ствараць грамадзянскую лірыку, аднак складана гаварыць пра аўтамабілі, моду, сучаснае кіно, маладзёвую субкультуру. Трэба пераадольваць гэтыя стэрэатыпы"*

*****************************************************



## *Прадаўжэньне Лісты ахвярадаўцаў на "Беларускі Дайджэст" у 2004 годзе*

| | |
|---|---|
| Праф. Тамаш Е. Бырд | $125.oo |
| Кацярына Вініцкі | $100.oo |
| В. (Вячка) Станкевіч | $30.oo |
| Віталь Зайка | $20.oo |
| Антон Маркевіч (Канада) | $20.oo |
| Надзя Касмовіч (Нямеччына) | $20.oo |
| Др. Мацьвей Б. Смаршчок | $40.oo |
| Ніна Дудар | $40.oo |
| Мікола Дэркач | $40.oo |
| Лёнгіна Брылеўска | $100.oo |
| Уладзімір Вашчылко | $29.oo |
| Базыль Васільеў | $25.oo |
| Міхась і Тамара Белямук | $50.oo |
| Сыльвэстар Будкевіч (Англія) | $20.oo |
| Надзя Барт (Юрэвіч) (Нямеччына) | $40.oo |
| Элеонора Пітушка (Канада) | $50.oo |
| Мікола і Валь. Сьнежка | $50.oo |
| Мікола Сагановіч | $100.oo |
| Др. Марыя Дэмковіч | $50.oo |
| Др. Ян і Надзя Запруднік | $100.oo |
| Grand Valley State University | $30.oo |
| Вольга Грыцук (Канада) | $50.oo |

**Усім Шчырае ДЗЯКУЙ!!!**

*****************************************************




Сьв. Памяці

# Паўло Андрусышын

27. 09. 1924 — 25. 09. 2004



25 верасьня сёлета адыйшоў у вечнасьць у сваёй кватэры ў прысутнасьці сям'і сьв. памяці Паўло Андрусышын. Быў ён украінцам, нарадзіўся 27 верасьня 1924 году на Тарнопальшчыне ў Заходняй Украіне. Вызначаўся ня толькі прыгажосьцю, але і добрым, спагадлівым характарам, заўсёды быў гатовым дапамагчы кожнаму ў патрэбе.

Пахавальныя ўрачыстасьці адбыліся ва ўкраінскай каталіцкай царкве Сьв. Юрага ў Нью Ёрку, а пахаваньне на беларускіх могілках Жыровіцкай Божай Маці ў Нью Брансвіку, Нью Джэрзі.

Сьв. памяці Павал прыйшоў у беларускую грамаду дзякуючы сужэнству з Юляй Кахаtable ноўскай. На працягу 50 гадоў дзяліў лёс нашай эміграцыі: браў актыўны ўдзел у грамадзкай працы, у нашых радасных і сумных урачыстасьцях. Супольна з Юляй тварылі прыгожую сям'ю, якая працягвала найлепшыя патрыятычныя луцкевічаўскія традыцыі грамадзка-палітычнай дзейнасьці, гасьцінасьці, пашаны да мастацтва; адначасова ў гэтымжа духу падтрымлівалі ўкраінскую спадчыну.

У духу гэтых традыцыяў выхавалі двух сыноў: Юрага, адваката з прафэсіі, які асабліва вызначыўся, калі на беларускую эміграцыю нападалі паклёпамі бальшавікі праз розных лофтусаў ды саваласаў; Багдана (Данчыка), журналіста з асьветы і працы, які, дзякуючы ўроджанай харызьме, прыгожаму голасу ды створанаму ім патрыятычнаму рэпартуару, паездкамі з канцэртамі ў Беларусі адыграў вялікую ролю ў палітычным і культурным адраджэньні нацыі.

Кватэра спадарства Андрусышыных у Нью Ёрку і Родны Кут у Кэцкільскіх гарах заўсёды гасьцінна віталі выдатных дзеячоў з Беларусі розных кірункаў, якія прыязджалі ў Амэрыку на зьезды ці з канцэртамі.

Нягледзячы на цяжкую хваробу, сьв. памяці Павал не паддаваўся, ня траціў жыцьцёвага аптымізму і, уроджанага яму, пачуцьця гумару. Ягоны аптымізм стараліся падтрымаць сям'я і прыяцелі. І выказваньне Лэсі Ўкраінкі "Бэз надії такі сподіваюся", выказанае Васілём Быкавым у апошняй кніжцы "Доўгая дарога дадому", ня было для яго пераконлівымі. Ён казаў: "Буду жыць, колькі мне прызначана". А прызначэньне, нажаль, сталася фатальным.

У нас беларусаў так ужо ўвайшло ў традыцыю, што найлепшыя нашыя людзі адыходзяць ад нас да суседзяў. А вось што суседзі прыходзяць да нас і аддаюць нашаму народу свае здольнасьці — маўчым. Сьв. памяці Павал належыць да тых, хто прыйшоў да нас і сымпатыі свае дзяліў з намі не забываючы пра сваё.

У глыбокім смутку засталіся жонка Юля, сыны Юры з жонкаю Даянай, Багдан, цешча Яніна Кахаtableноўская.

**Дык няхай будзе вечная памяць і ўдзячнасьць яму!**

А. Шукелойць.

**************************************************





Сьв. Памяці

# Марыя Корбут

22. 05. 1905 — 14. 09. 2004.

З жалем паведамляем, што на 99-тым годзе жыцьця Марыя Корбут (Гуткоўская) адыйшла ў вечасьць у Аўстраліі.

Беларуская грамадзкасьць у Мэльбурне спачувае родным, застаўшыхся у смутку яе сынам — Фаніку Корбуту, Славіку Корбуту, дачцы Людміле Грэкаўскай і іх сем'ям, у якіх 7 унукаў і 15 праўнукаў.

Марыя Корбут нарадзілася на Беларусі ў вёсцы Жукавічы, Глускі раён. Перад ад'ездам з Нямеччыны ў Аўстралію, яна жыла ў беларускім лагеры Ватэнштэт.

Пахавана на могілках у Фаўкнэр.

**Вечная памяць!**

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# *Нам Пішуць...*

## Гадавіна "Слуцкага чыну" ў Лёндане, Англія

У сыботу 27-га лістапада 2004 г. у залі Беларускага Культурна-рэлігійнага цэнтра ў Лёндане адбылася ўрачыстая Акадэмія прысьвечаная 84-м угодкам Слуцкага Паўстаньня.

Перад Акадэміяй была адслужаная паніхіда за ўсіх герояў, якія аддалі сваё жыцьцё за Бацькаўшчыну Беларусь. Паніхіду адслужыў а. А. Надсон у капліцы сьв. апосталаў Пятра і Паўла. У рэлігійна-патрыятычнай пропаведзі а. Надсон нагадаў важнасьць гэтай гадавіны для беларускага народу, і што гэтая гадавіна не павінна ніколі забывацца.

Пасьля Багаслужбы адбылася Акадэмія падчас якой Сп-я Л. Міхалюк, старшыня Ўправы ЗБВ, прывітала прысутных і сказала пра важнасьць гэтай гадавіны для Беларускага народу. Хвілінай цішыні была ўшанавана памяць усіх тых, хто паклаў жыцьцё за Беларусь.

Прачытана было прывітаньне ад старшыні Рады БНР Сп-і Івонкі Сурвіллы. Зьмястоўны рэфэрат пра падзеі Слуцкага збройнага чыну прачытаў Сп. Мікола Пачкаеў, а Сп. Павал Шаўцоў прадэклямаваў два патрыятычныя вершы.

Далей былі выказваныя думкі пра палітычную сітуацыю ў Украіне, і Управа ЗБВБ запрапанавала рэзалюцыю салідарнасьці з украінскай апазыцыяй, якая была прынята аднагалосна.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі!" Як заўсёды жанчыны падрыхтавалі пачастунак. Пры чарцы віна хутка праляцеў час і ўжо трэба было вяртацца дамоў. *Сыльвэстар Будкевіч.*

**************************************************

## *Урачыстае Сьвяткаваньне Слуцкага Збройнага Змаганьня ў Мэльбурн, Аўстралія*

У нядзелю 28 лістапада 2004 г. Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі супольна з Парафіяй БАПЦарквы Сьвятых Віленскіх Пакутнікаў, адзначылі 94-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Змаганьня. Айцей А. Кулакоўскі супольна з а. Юрыям пасьля літургіі адслужылі паніхіду па загінуўшых змагарах за Беларусь.

Затым усе прысутныя перайшлі ў прыцаркоўную залю, каб належна адзначыць гэты слаўны дзень. Старшыня БЦКВ Алег Шнэк прывітаў прысутных, прачытаў імёны адыйшоўшых ад нас у вечнасьць беларускіх вайскоўцаў з Аўстраліі і запрапананаваў хвілінай цішыні ўшанаваць усіх змагароў, загінуўшых за волю нашай Бацькаўшчыны. Наступна ўсе прысутныя разам прасьпявалі жалобны гімн "Сьпі пад курганам герояў". Пасьля прачытаньня дасланых прывітаньняў, Сп. Я. Барысевіч прачытаў зьмястоўны даклад на тэму дня. Мастацкая частка складалася з дэклямацыі патрыятычных вершаў спадаром Аўгенам Грушам і спадарыняй Верай Шайпак. Верш "Запавет" прачытаў Сп. Слава Жук Гэты верш ён сам напісаў. На заканчэньне, як заўсёды, усе разам прасьпявалі наш нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Па заканчэньні афіцыйнай часткі сьвяткаваньня бальшыня прысутных засталася на сяброўскі пачастунак, а дэлегаты ад Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі і БЦКВ пасьпяшаліся ў цэнтр горада да будынку Прламенту штату Вікторыі па запросінах Украінскай грамады на дэманстрацыю ў падтрымку ўкраінскай апазіцыі Вікткра Юшчанкі.

З прамовай да прысутных спачатку выступіў старшыня ФРБАА Сп. Аўген Груша, затым старшыня БЦКВ Сп. А. Шнэк. Прамовы закончваліся клічам "Слава Ўкраіне — Жыве Беларусь!", на што

# У Вільні пахавалі камандзіра беларускай Краёвай абароны Кастуся Шышэі

і грамадзкага дзеяча Кастуся Шышэі.

Ураджэнец Наваградчыны Кастусь Шышэя ў часе другой сусьветнай вайны быў адным з камандзіраў Беларускай Краёвай абароны, за што пасьля доўгія гады правёў у сталінскіх лягерах.

У ГУЛАГу Шышэя пазнаёміўся з Ларысай Геніюш, якая піша пра яго ў сваёй кнізе "Споведзь", а Геніюш пазнаёміла яго зь сяброўкай слонімскай маладзёвай арганізацыі "Чайка" Леакадзіяй Кавальчык, якая стала жонкай Кастуся Шышэі.

Па звальненьні зь лягераў іхная сям'я жыла ў Вільні.

Памёр Кастусь Шышэя на 83-м годзе жыцьця. Пахаваньне адбылося сёньня на віленскіх Спаса-Эўфрасінеўскіх могілках. Пасьля Кастуся Шышэі засталася нявыдадзеная кніга ягоных успамінаў, фрагмэнты якой друкаваліся ў "Нашай Ніве".

**************************************************



людзі адказвалі аглушальнай авацыяй..

На другі дзень 29. 11. 2004 г. "Department of Immigration and Multicultural and Indigenous Affairs" запрасіў праз старшыню ФРБАА Сп. Аўгена Грушу прадстаўнікоў беларускай грамадзкасьці на сустрэчу з "Mr. Paul Smith, Principal Migration Officer", назначанага ў Маскву. У нашай дэлегацыі прынялі ўдзел спадары — А. Груша, А. Шнэк і С. Жук. Сустрэча адбылася ў вельмі прыемнай атмасфэры і на заканчэньне разьвіталіся з добрымі пажаданьнямі ў далейшым супрацоўніцтве.

*Алег Шнэк.*

**************************************************

# „Памажэм Беларусі!"

Цэнтрысцкая ўплывовая „Gazeta Wyborcza" апублікавала адкрыты ліст пад назовам „Памажэм Беларусі", пад якім падпісаліся, між іншым, былы міністар замежных справаў праф. Уладыслаў Барташэўскі, эўрадэпутаты Януш Анышкевіч і Конрад Шыманьскі, сэнатар праф. Збігнеў Рэліга, палітыкі Ян Літыньскі, Уладыслаў Фрасынюк, старшыня Ўправы CASE Эва Бальцэровіч, юрысконсульт Міхал Кулеша, рэжысэры Казімеж Куц і Анджэй Вайда, прафэсары Гэнрык Самсановіч, Міраслаў Нагельскі, Антоні Каміньскі. Акцыю падтрымлівае таксама палітык Ян Ракіта. У лісьце чытаем:

„Зьвяртаемся з просьбай падтрымаць народ Беларусі, якога тыраніць апошні дыктатар у Эўропе. Уважаем, што сёньня неабходна аказаць падтрымку дэмакратычным сілам у Беларусі. Мы перакананыя, што толькі сувэрэнная й дэмакратычная Беларусь можа быць бясьпечным і годным даверу партнэрам для Польшчы.

Гэта зразумела, што рэжым дыктатара Аляксандра Лукашэнкі знаходзіцца ў безупынным крызысе й будзе прымушаны раней ці пазьней пагадзіцца зь імпэрыяльнымі памкненьнямі Расеі ды — што з гэтым зьвязана — падпарадкаваць Беларусь расейскаму панаваньню.

Ці мы, палякі, хацелі б ліквідацыі беларускай дзяржавы, канчатковай русыфікацыі й асыміляцыі беларусаў? Ці хацелі б, каб расейскія войскі апынуліся ля нашых межаў? — пытаюць падпісанты адкрытага ліста, зьмешчанага на старонакх „Gazety Wyborczej".

Гэта праўда, што Польшча разьлічвае на NATO й Эўрапейскі Зьвяз. Аднак з кожным днём становіцца ўсё больш ясным, што ў Расеі растуць у сілу імпэрыяльныя й шавіністычныя тэндэнцыі. Выбары ў Дзяржаўную Думу Расейскай Фэдэрацыі пацьвярджаюць гэтыя факты.

Улады Расеі ўсё больш схіляюцца да аўтарытарнай сыстэмы, а вынікам гэтага зьяўляецца абмежаваньне дэмакратыі й правоў чалавека. Ідзе стаўка на сілавыя вырашэньні, як ва ўнутранай палітыцы, гэтак і ў замежнай.

Мы, палякі, не павінны забываць пра Гісторыю ўвогуле ды пра „ўсходнюю" гісторыю. Мы, палякі, павінны мець у памяці нашую супольную гісторыю зь беларускім народам, Люблінскую вунію, бітву пад Грунвальдам. Мы павінны памятаць пра супольных для нашых абодвух народаў геніяў мастацтва й навукі.

У свой час Захад дапамог нам, палякам, вызваліцца з□пад імпэрыялістычнай сеткі „Ўсходу" і пачаць першыя крокі на шляху да Дэмакратыі.

2004 год зьяўляецца годам выбараў закандаўчай улады ў Беларусі, яшчэ адным годам надзеі беларускага народу на паляпшэньне свайго лёсу, на мірнае зьвяржэньне таталітарнага рэжыму. Народ Беларусі ўжо мае досыць дыктатуры й „жыцьця без пэрпсэктываў", прагне зьменаў, але ён запалоханы й падпарадкаваны ўсеўладным сілам рэпрэсіі. Самі беларусы, без дапамогі звонку, ня змогуць вызваліцца з□пад дыктатуры. Паказвае на гэта досьвед Іраку.

Мы заклікаем усіх сьвядомых грамадзянаў, перакананых прыхільнікаў дэмакратыі — пішуць падпісанты адкрытага ліста — далучыцеся да нашай супольнай ініцыятывы „Руху — Польшча за дэмакратычныя перамены ў Беларусі".

Асноўныя правы й свабоды чалавека павінны поўнасьцю шанавацца таксама ў Беларусі. Усялякімі сродкамі трэба падтрымліваць разьвіцьцё й умацненьне дэмакратычных сіл у Беларусі дзеля рэалізацыі грамадзянскіх правоў ды магчыма як найхутчэйшага стварэньня ў Беларусі дэмакратычных інстытутаў улады. Трэба падтрымліваць імкненьне беларускага народу да інтэграцыі зь іншымі народамі Эўропы ды ўступленьне Беларусі ў вялікую эўрапейскую сям'ю — Эўрапейскі Зьвяз.

Мы, палякі, павінны дапамагчы беларусам вырвацца з аковаў таталітарызму ды ўступіць на шлях да дэмакртыі. Толькі сувэрэнная, дэмакратычная, эўрапейская Беларусь будзе бясьпечным суседам і добрым партнэрам для Польшчы. Дапамагаючы беларусам — дапамагаем сабе, дапамагаем Польшчы!" — напісалі падпісанты адкрытага ліста пад назовам „Памажэм Беларусі", зьмешчанага на старонках „Gazety Wyborczej".

**************************************************